Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 45 (4743) 15 лістапада 2013 г.

## Пункціраму

✔ Шматвяковыя сувязі Беларусі і Расіі дзякуючы сумесным намаганням набываюць новае дыханне. Гэта адзначыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў прывітанні ўдзельнікам Дзён духоўнай культуры Расіі ў Беларусі. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў: «Мы фактычна жывём у адзінай духоўнай прасторы, дзе адбываецца пастаянны абмен думкамі, ідэямі і культурнымі багаццямі, створанымі розумам і талентам двух народаў».

✔ Дні духоўнай культуры Беларусі ў Расіі могуць прайсці ў 2014 годзе. Такой магчымасці не выключае першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі. Ён лічыць, што «наша высокае мастацтва ў наступным годзе маглі б прадставіць калектывы Белдзяржфілармоніі і Вялікага тэатра».

✔ Імёны лаўрэатаў прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2013 — 2014 гады будуць абнародаваны ў снежні пасля іх зацвярджэння Вышэйшым дзяржаўным саветам Саюзнай дзяржавы. Экспертны савет ужо вызначыў трох кандыдатаў на прэмію шляхам тайнага галасавання. Канкурэнцыя была надзвычай высокая, экспертам давялося выбіраць з 11 кандыдатур. Ад Беларусі на прэмію прэтэндуюць скульптар Іван Міско, мастак Гаўрыіл Вашчанка і мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча Міхаіл Дрынеўскі.

✔ Тэатральныя калектывы з чатырох краін возьмуць удзел у V Рэспубліканскім фестывалі нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча, які пройдзе з 12 па 17 снежня ў Бабруйску. Беларусь прадставяць трупы з Мінска, Віцебска, Брэста, Гомеля, Магілёва, Маладзечна, Бабруйска. Абавязковая ўмова для ўдзелу ў фестывалі гэтага года — паказ спектакляў па творах беларускіх аўтараў. Замежныя тэатры таксама прывязуць спектаклі паводле нашых драматургаў. Так, Калужскі ТЮГ (Расія) прадставіць спектакль «Не пакідай мяне» па п'есе Аляксея Дударава, Днепрадзяржынскі музычна-драматычны тэатр імя Лесі Украінкі — «Асцярожна — жанчыны!» Андрэя Курэйчыка.

✔ Фестываль творчасці замежных студэнтаў пачнецца ў Гродзенскім дзяржуніверсітэце 18 лістапада як рэгіянальны этап рэспубліканскага фестывалю «F-ART.by». У межах мерапрыемства на працягу трох тыдняў будуць арганізаваны дні культур прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей.

✔ Стужка «Піліпка» Таццяны Кубліцкай удастоена Гран-пры конкурсу анімацыйных фільмаў X Міжнароднага дабрачыннага кінафестывалю «Прамяністы анёл», які завяршыўся ў Маскве. Гэта работа была таксама прызнана лепшай на 53-м Міжнародным кінафестывалі фільмаў для дзяцей і юнацтва ў Зліне (Чэхія), адзначана прэстыжнымі ўзнагародамі на XIV кінафестывалі дзіцячага кіно «Казка» ў Маскве, на 18-м Адкрытым расійскім фестывалі анімацыйнага кіно ў Суздалі.

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ





Фота Аляксандра Дзмітрыева

*У Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры адбылася прэм'ера нацыянальнага мюзікла «Соф'я Гальшанская» кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча.*

# Ці прыжывецца мюзікл на беларускай сцэне?



**Сяргей Чэкерэс, акцёр НАДТ імя Максіма Горкага:**

— Я не бачу перашкод для таго, каб мюзікл існаваў. Але ўсё залежыць ад таго, які ён. Гэта ж дастаткова затратная справа, галоўнае, каб нехта быў гатовы ўкладваць фінансавыя сродкі. У мюзікла можа быць рознае паходжанне: з аднаго боку магчымы звычайны перанос, з другога — можна зрабіць і нешта арыгінальнае. Для гэтага павінны быць аўтары, якія шукалі б падобныя тэмы, цікавыя гледачу. Нядаўна ў Беларусі адбыліся гастролі Екацярынбургскага тэатра музычнай камедыі. Людзі складаюць арыгінальныя лібрэта, у іх, здавалася б, такія нехарактэрныя назвы, як «Мёртвыя душы», «Белая гвардыя» — творы, з якіх і не здагадаешся зрабіць такія прыгожыя музычныя спектаклі. А яны асвойваюць гэтыя прасторы, класічныя сюжэты — і робяць гэта цікава. У нас, на жаль, ніхто не піша так глабальна. Усё залежыць ад аўтарства: ёсць аўтар — ёсць ідэя — ёсць мюзікл.



**Вольга Бабкова, загадчык літаратурна-драматычнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы:**

— Чаму ўзнікла такое пытанне? Канечне, прыжывецца! Мюзіклы ж і зараз ідуць. Калі існуюць тэатры, якія гэты жанр прадстаўляюць, то, безумоўна, мюзіклы будуць жыць. Іншая справа, што нехта любіць мюзіклы, нехта — драмы, а нехта — больш абстрактнае тэатральнае мастацтва. Па-рознаму... На беларускай сцэне гэты жанр, магчыма, яшчэ дастаткова не распрацаваны, але ж трэба спрабаваць. Спробы — не хваробы. І айчынныя тэатры гэта яскрава дэманструюць. У першую чаргу — Беларускі дзяржаўны музычны тэатр. Мяркую, будучыня ёсць, трэба толькі гадаваць таленты.



**Уладзімір Кандрусевіч, кампазітар:**

— Гэта ўвогуле сучасны жанр, ён відовішчны, тут мяркуецца ўдзел балета і розныя спецэфекты, таму, канечне, за гэтым жанрам будучыня. Усё залежыць ад якасці лібрэта, музыкі. Вось глядзіце, рок-опера «Юнона і Авось» — гэта той жа мюзікл, проста крыху іншага жанру. А, напрыклад, мой мюзікл «Шклянка вады» на сцэне ўжо 20 год, гледачы на яго ходзяць — гэта ж пра нешта кажа. Звычайна народ і вырашае, цікавы мюзікл ці не. Для мяне галоўнае, каб усё было на высокім узроўні: лібрэта і сцэнаграфія, музыка і танцы, святло і гук. Калі ўсё гэта супадае, тады і атрымліваецца якасны прадукт.

# На ўсіх вірах і перакатах часу

У сёмы раз на Гомельшчыне прайшлі «Славянскія літаратурныя дажынкі-2013». Падвесці вынікі творчай працы за год прыехалі пісьменнікі з расійскіх Таганрога і Рыльска, украінскага Глухава.

Добрай «запеўкай» стала выступленне гомельскіх літаратараў у цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна. Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч прадставіў сёлетні выпуск літаратурнага альманаха і адзначыў, што на рахунку творцаў два дзясяткі кніг, перамогі ў прэстыжных конкурсах. Як вядома, гумарыст Барыс Кавалерчык атрымаў «Залатога Купідона», паэт Міхась Болсун — літаратурную прэмію імя Баяна.

Другі дзень свята адкрыўся ўрачыстасцю ў абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна. Менавіта тут адбылося своеасаблівае асвячэнне сустрэчы уладыкам, епіскапам Гомельскім і Жлобінскім Стэфанам, запальванне трох свечак — сімвалаў братэрства славянскіх народаў — празаікам Уладзімірам Гаўрыловічам, паэтамі Леанідам Северам і Анатолем Міроненкам.

Падчас свята былі падведзены вынікі праваслаўнага літаратурнага конкурсу «Мая надзея». Яго пераможцамі сталі член Саюза пісьменнікаў Беларусі Яўген Калашнікаў і ветэран галіны культуры Тамара Курленка. Старшыні абласной пісьменніцкай арганізацыі Уладзіміру Гаўрыловічу ўручаны медаль Гомельскай епархіі Беларускай праваслаўнай царквы ў гонар праведнага Іаана Кармянскага «ва ўвагу хрысціянскаму духоўнаму служэнню, імкненню да ўмацавання духоўнасці, развіццю грамадзянскасці і патрыятызму ў грамадстве». Свае творы на свяце чыталі госці: старшыня Міжнароднага саюза пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва Анатоль Міроненка (г. Глухаў), сакратар Курскай рэгіянальнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі Алег Саранскіх, паэты з Таганрога Леанід Север і Вольга Сафронава. Гэтыя літаратары, а таксама першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гомельскага аблвыканкама Вольга Антоненка, дырэктар «ленінкі» Валянціна Дуброва ўзнагароджаны граматамі Саюза пісьменнікаў Беларусі за падтрымку літаратараў.

Праграма свята была насычанай, цікавай на хвалюючыя сустрэчы. Грачанікаўскія літаратурныя чытанні адбыліся на радзіме славутага паэта ў вёсцы Шарпілаўка Гомельскага раёна з удзелам родных братоў Анатоля Сямёнавіча — Генадзя і Леаніда, а таксама іншых сваякоў. Пісьменнікаў віталі намеснік старшыні Гомельскага райвыканкама Алена Клачкова, старшыня Шарпілаўскага сельвыканкама Дзмітрый Яршоў, народны ансамбль народнага танца «Сож», спевакі Валерый Аванесян, Дзіна Барчан і многія іншыя выканаўцы.

Прыемна, што першымі лаўрэатамі абласной літаратурнай прэміі імя Анатоля Грачанікава сталі паэты-лірыкі Ніна Шклярава і Міхась Болсун, што тут жа, у Шарпілаўцы, гамяльчане Іна Спасібіна, Уладзіслаў Шышыгін і іншыя творцы атрымалі членскія білеты Саюза пісьменнікаў Беларусі. Уручаючы іх, старшыня абласной пісьменніцкай арганізацыі зазначыў, што перад маладымі стаіць задача дабівацца грачанікаўскага ўзроўню творчасці.

Не менш плённым і цікавым атрымаўся заключны дзень літаратурнага свята. Жлобін узрушыў сяброў па пяры шырокімі вуліцамі, адрэстаўраванымі помнікамі архітэктуры, сучаснымі гмахамі навабудоўляў, жывапіснымі месцамі адпачынку. У гарадскім цэнтры культуры ладзілася сустрэча з чытачамі і супрацоўнікамі бібліятэк. Пісьменнікаў павітала начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Жлобінскага райвыканкама Валянціна Няхай. Прадстаўніца мясцовай улады адзначана граматай Саюза пісьменнікаў Беларусі за падтрымку творчых кантактаў гомельскіх літаратараў.



*Паэтэса Ніна Шклярава, лаўрэат абласнога літаратурнага конкурсу імя Анатоля Грачанікава, з братамі паэта Леанідам і Генадзем у Шарпілаўцы, ля іх бацькоўскай хаты.*

Пісьменнікі наведалі мемарыял дзецям-ахвярам вайны ў Чырвонам Беразе. Упэўнена, што гэты помнік упоравень з хатынскім мемарыялам змагаецца з забыццём пра ўчыненыя фашыстамі зверствы на нашай зямлі... Адагрэла душу сустрэча з навучэнцамі і педагогамі Чырвонабярэжскага аграрнага каледжа: шчыры аповед дырэктара ўстановы Аляксея Мазка пра набыткі, здзяйсненні і праблемы, падрыхтаваны моладдзю канцэрт.

Напярэдадні 70-годдзя вызвалення Гомельшчыны на жлобінскіх могілках творцы пакланіліся памяці славутага земляка, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, пісьменніка і журналіста Аляксандра Капусціна, які працаваў у газеце «Гомельская праўда».

Безумоўна, уражанні стануць асновай для новых твораў і кніг.

**Тамара КРУЧЭНКА,**
**фота аўтара**

## Прэзентацыя

# У госці да Радзівілаў



16 лістапада 2013 года а 16-й гадзіне ў зале партрэтаў Радзівілаў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь адбудзецца сустрэча з Анатолем Бутэвічам, аўтарам кнігі «Таямніцы Нясвіжскага замка. Падарожжа ўглыб стагоддзяў з Уладзіславам Сыракомлем», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».

У сустрэчы возьмуць удзел народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, паэт Навум Гальпяровіч, дзеяч беларускай культуры Уладзімір Гілеп, паэты і пісьменнікі. Прагучаць вершы з «Нясвіжскага альбома» Францішкі Уршулі Радзівіл. Імпрэзу аздобяць старадаўнія і народныя мелодыі ў выкананні народнага фальклорнага ансамбля «Тутэйшая шляхта».

Кожны госць зможа набыць кнігу і атрымаць аўтограф аўтара.

## Віншуем юбіляраў!

***У лістападзе нарадзіліся:***

Павел Вераб'ёў (07.11.1958)
Анатоль Соцікаў (15.11.1933)
Уладзімір Ласенка (17.11.1938)
Андрэй Бокза (25.11.1983)
Яна Явіч (26.11.1983)

Жадаем калегам творчага плёну, моцнага здароўя, удалых літаратурных праектаў!

# А ў Вільні стаўся як паэт

Падчас Дзён беларускай культуры ў Літве, якія працягнуцца да снежня, у вільнюскім Доме-музеі сям'і Венцлавы адкрылася выстаўка «Максім Танк. Гартаючы жыцця свайго старонкі…», якая была створана год таму, да 100-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі.

**Кацярына УНУЧАК**

Экспазіцыя, распрацаваная на аснове матэрыялаў з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, распавядае пра жыццёвы і творчы шлях Максіма Танка. За гэты час выстаўка пабывала на Дні беларускага пісьменства ў Глыбокім, у Культурным цэнтры Беларусі ў Варшаве, Доме-музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку і нарэшце апынулася ў Вільнюсе — горадзе маладосці і першых жыццёвых выпрабаванняў паэта. Тут ён вучыўся, загартоўваўся, выдаў першы зборнік вершаў «На этапах» (1936). Месца правядзення выстаўкі выбрана не выпадкова: з вядомым літоўскім паэтам Антанасам Венцлавам Максіма Танка звязвалі добрыя сяброўскія адносіны, іх літаратурны лёс шмат у чым падобны, яны перакладалі вершы адзін аднаго.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Уладзімір Дражын, які асабіста ведаў Максіма Танка, падчас прамовы зазначыў, што паэт і яго паплечнікі «стваралі жыццё, змагаліся за незалежную Беларусь». Спадар Пасол згадаў, што Вільня ў свой час прытуліла многіх нашых землякоў. Захаваць памяць пра іх — адзін з кірункаў дзейнасці беларускага пасольства. Ужо ўсталяваны мемарыяльныя дошкі ў гонар Янкі Купалы і Францішка Багушэвіча, у бліжэйшых планах — стварэнне музея братоў Луцкевічаў.

Цяперашняя гаспадыня ўтульнага Дома-музея сям'і Венцлавы, дырэктар Дырэкцыі мемарыяльных музеяў Вільнюса Бірута Вагрэне распавяла пра гасцінныя Антанаса Венцлаву, які сябраваў з пісьменнікамі і мастакамі розных краін. У гэтым невялікім доме, які заўсёды чакае гасцей, сустракаюцца культуры. У сваю чаргу, дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч распавяла гасцям пра шматлікія мерапрыемствы, якія ладзіліся ў Беларусі з нагоды 100-гадовага юбілею нашага паэта. Адно з іх — прэзентацыя апошняга тома з поўнага збору твораў Максіма Танка. У надрукаваных дзённіках пад датай 19.06.1958 г. паэт згадвае, што яго верш «Вільнюс» у перакладзе А. Венцлавы быў змешчаны ў літоўскай газеце «Ціеса».

Пра Вільню Максіма Танка, пра той перыяд, калі ён тут жыў, калі нараджаліся яго творы, распавёў даследчык Аляксандр Адамковіч: «Менавіта дзякуючы Вільні ён і стаўся як паэт, тут адбываліся яго першыя літаратурныя крокі. У даносах польскай выведкі знойдзена інфармацыя пра вечар беларускай паэзіі ў Вільні 10.03.1935 г.: «На вечары было два паэты: Міхась Васілёк і Максім Танк...» Пасля гэтага вечара загаварылі пра Максіма Танка як пра новага беларускага паэта.

Асабліва кранулі прысутных словы дачкі знакамітага літоўскага мастака Владаса Дрэмы Гражыны Дрэмайтэ, рэстаўратара-эксперта, старшыні Дзяржаўнай камісіі па спадчыне. Некалі, маленькай дзяўчынкай, яна бачыла маладога Максіма Танка, які часта гасцяваў у іх сям'і. «У 1936 — 1939 гадах гэта была цэлая кампанія сяброў — літоўскія і беларускія паэты, мастакі, кампазітары. Яны збіраліся ў нас на кватэры на вуліцы Літарату і выдавалі літаратурны часопіс, палова накладу якога знішчалася інспекцыяй. На яго старонках побач з літоўскімі паэтамі друкаваліся і творы Максіма Танка ў перакладах Оны Місюты, Ёнаса Кекштаса, Албінаса Жукаўскаса, майго бацькі і інш. Кожны нумар часопіса меў свайго рэдактара. Бацька ілюстраваў зборнікі Максіма Танка «На этапах» і «Журавінавы цвет», — падзялілася ўспамінамі спадарыня Гражына.

Вокладкі першых зборнікаў паэта былі прадстаўлены на выстаўцы.

# Згодныя? Скажыце «da»!

Адбылася сустрэча членаў Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі з прадстаўнікамі Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Дыялог Еўразія».

Сустрэча праходзіла ў новым офісе аб'яднання, адкрытым у сталіцы па вуліцы Еўфрасінні Полацкай, 1, і прысвячалася абмеркаванню планаў узаемадзеяння на бліжэйшы час.

Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Дыялог Еўразія» (скарочана — «da») было створана ў 1988 годзе. Адным з ініцыятараў выступіў знаны пісьменнік Чынгіз Айтматаў, ён жа стаў першым старшынёй арганізацыі. Яго пазіцыя была простая: творцам, усім людзям свету лягчэй аб'ядноўвацца, калі яны ведаюць адно аднаго, сустракаюцца, гавораць пра надзённае. І назва «da» — найбольш прыдатная для гэтага. Калі чалавек на заклік ці просьбу адгукаецца простым і зразумелым словам «да», гэта значыць, што ён гатовы да дыялогу. Цяпер гэтая міжнародная арганізацыя досыць уплывовая, актыўны ўдзел у ёй бяруць вучоныя, грамадскія дзеячы, пісьменнікі, журналісты з 12 краін. Галоўны офіс аб'яднання знаходзіцца ў Турцыі, прадстаўніцтвы — ва ўсіх краінах-удзельніцах.

Падчас сустрэчы ў Мінску была прэзентаваная кніга «Поціск рук над Басфорам», выпушчаная ў серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ» выдавецтвам «Чатыры чвэрці» пасля творчай паездкі членаў Мінскага гарадскога аб'яднання Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Стамбул. Абмеркаваныя таксама магчымасці супрацоўніцтва ў сферы літаратуры і кнігавыдання, заснавання доўгатэрміновых праектаў з удзелам творцаў. Дырэктар прадстаўніцтва Сезар Чакмак запэўніў у настроенасці на дыялог, падкрэсліў важнасць супольнай працы ў гуманітарнай сферы. Так, на турэцкую мову перакладзены раман Мікалая Чаргінца «Сыны», кніга вядомага мысляра і гуманіста Фетхулаха Гюлена выйшла на беларускай мове, выйшла кніга Харуна Такака на рускай мове.

Сустрэчы і канферэнцыі з удзелам турэцкіх і беларускіх літаратуразнаўцаў, гісторыкаў, пісьменнікаў і публіцыстаў становяцца ўжо традыцыйнымі. Да прыкладу, у 2012 годзе ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі адбылася міжнародная практычная канферэнцыя «Турцыя і Беларусь у сусветным літаратурным працэсе». Па яе выніках выдадзены зборнік дакументаў, з якім таксама азнаёміліся ўдзельнікі імпрэзы.

***P. S.*** *Прэзентацыі кнігі «Поціск рук над Басфорам» пройдуць таксама 19 лістапада ў сталічнай бібліятэцы № 21 (пачатак а 14-й гадзіне) і з удзелам пісьменнікаў і гасцей з Турцыі 26 лістапада ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна (у 18.00).*

**Ірына ТУЛУПАВА**

# Адчуванне сусвету

Выстаўка, прысвечаная памяці мастака Сяргея Цімохава, адкрылася ў галерэі Палаца мастацтва. Яна прадставіла карціны творцы розных гадоў, памераў і тэм. Гледачы змогуць адчуць шматгранны талент майстра.

**Паліна ПЛАТАВА**

Сяргей Цімохаў — адзін з яскравых беларускіх мастакоў апошняга стагоддзя. У яго работах адчуваецца моц беларускай зямлі, міфалогіі, светапогляду. Аднак яднанне змястоўнай беларускасці з сусветнымі мастацкімі метадамі і формамі вылучае Сяргея Цімохава. Мастак працаваў у жанры станковага жывапісу і графікі, манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. Яго карціны знаходзяцца ў музеях нашай краіны і за мяжой, у прыватных калекцыях.

На адкрыцці выстаўкі шмат гаварылася пра талент Сяргея Цімохава. Выступалі сябры-мастакі. Так, старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч адзначыў: «Сяржук Цімохаў — наша годнасць. Мы аднойчы былі з ім на Міжнароднай канфедэрацыі творчых саюзаў, і я ведаю, што за такога мастака радуюцца Расія, Літва, Латвія, Украіна».

На думку мастацтвазнаўцы, заснавальніцы першай беларускай мастацкай галерэі «Брама» Ларысы Фінкельштэйн, творчасць Сержука Цімохава — адметная, вельмі сучасная. Знакавая, як і мяжа стагоддзяў. Сяргей Цімохаў звяртаўся да вечнага з дапамогай сучаснай мовы імгнення, яго каляровае адчуванне сусвету ўзрушвае. Гэта вялікае майстэрства і талент.



*Сяргей Цімохаў «Начны блакіт» (дыптых), 2008 г.*

Сказалі сваё шчырае «дзякуй» Сяргею Цімохаву і беларускія пісьменнікі. Навум Гальпяровіч паказаў сваю новую кнігу «Сюжэт для вечнасці», вокладку якой аздабляе малюнак Сяргея Цімохава. Пранікнёнымі былі словы ўдавы і музы Сяргея Цімохава мастачкі Рыты Цімохавай: «Дзякуй мастакам за арганізацыю выстаўкі, за тое, што яны падтрымлівалі мяне ўвесь гэты год».

У Выдавецкім доме «Звязда» хутка пабачыць свет альбом работ Сяргея Цімохава. У выданні будуць акрэслены этапы яго творчасці і тэмы, да якіх звяртаўся мастак.

# Заўсёды малады Маэстра

На творчым рахунку вядомага італьянскага кампазітара Эніа Марыконэ — больш як 500 кампазіцый да фільмаў і больш як 100 твораў, як ён іх сам называе, «абсалютнай музыкі, якая пішацца для сябе».

Не так даўно Маэстра адсвяткаваў 85-годдзе, а напярэдадні юбілею завітаў у Мінск, дзе прадставіў праграму «Лепшае за ўсё жыццё». Спадар Эніа зазвычай прачынаецца вельмі рана, таму, відаць, і прэс-канферэнцыя з беларускімі журналістамі прайшла раніцай, яшчэ перад рэпетыцыяй канцэрта.

Падчас прэс-канферэнцыі гучалі розныя пытанні: пра натхненне і пачуццё адоранасці, працу з рознымі рэжысёрамі, а яшчэ — стаўленне да выкарыстання кампазіцый, напісаных Марыконэ, іншымі гуртамі (да прыкладу, вось ужо шмат год у пачатку кожнага выступлення амерыканскага рок-гурта *Metallica* гучыць кампазіцыя Марыконэ «Залатая ліхарадка»). Што датычыць апошняга, Маэстра адказаў: «Я цаню такую працу. Ведаю, ёсць музыканты, якія інтэрпрэтуюць маю музыку. Лічу, што так яны выказваюць сваю павагу да маёй працы».

Адметна таксама, што спадар Эніа не верыць у натхненне, ён спадзяецца толькі на ўласныя сілы, досвед і працу: «Для мяне не існуе паняцця «натхненне». Гэта проста рамантычная ідэя. Ёсць праца, досвед, кампазітары, якіх я слухаю, мне гэта дапамагае. Веды акумулююцца — так ствараецца нешта новае. Я стараюся нікога не паўтараць як кампазітар, імкнуся рабіць нешта сваё. Вынікі ўласнай працы даюць мне сілы, ды яшчэ людзі, якія ведаюць мяне ва ўсім свеце і любяць маю музыку».

Падчас сустрэчы з журналістамі Эніа Марыконэ распавёў, што вельмі любіць футбол, шахматы, але, натуральна, галоўнай страсцю з'яўляецца музыка. Цікава, што раней Маэстра не верыў у забабоны, але цяпер ставіцца да розных прыкмет больш уважліва — паўплывалі людзі, з якімі спадар Эніа працуе ў кіно.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# «Я не самотны, я кнігу маю…»

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбылася творчая вечарына, прысвечаная юбілею паэтычнага зборніка «Вянок».

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Сто гадоў таму беларуская і сусветная літаратура атрымалі каштоўны падарунак. У 1913 годзе ў друкарні Марціна Кухты выйшла кніга вершаў Максіма Багдановіча «Вянок». Хоць і невялічкая, сціпла аздобленая, але яна ўяўляла сабою сапраўдны скарб. Гэта адзіны прыжыццёвы зборнік паэта. «Вянок» — узор мастацкай дасканаласці, гармоніі і цэласнасці, літаратурнага густу. Зборнік назаўсёды ўвайшоў у спіс найвялікшых дасягненняў у галіне літаратуры.

Творчы лёс «Вянка» вельмі складаны. Кніга пісалася на працягу кароткага адрэзка часу, але выдавалася з вялікімі цяжкасцямі з-за недахопу грошай. Адметна, што адным з рэдактараў зборніка быў Янка Купала.

Выданне «Вянок» вельмі багатае тэматычна. Максім Багдановіч аб'яднаў вершы ў некалькі цыклаў, якія крок за крокам раскрываюць унутраны свет дваццаціадвухгадовага паэта.




З маленства захапляўся будучы творца беларускай міфалогіяй, з якою пазнаёміўся дзякуючы свайму бацьку, Адаму Рыгоравічу. Дзіўныя вобразы — Лясун, Вадзянік, Змяіны цар, русалкі пазней ажылі на старонках яго кнігі ў раздзеле «У зачараваным царстве». Вершы з нізкі «Старадаўняя Беларусь» напоўнены таямніцамі гісторыі і вобразамі мінулага. «Старая спадчына» змяшчае ў сабе даўнейшыя ўзоры вершаў, якімі цікавіўся Максім Багдановіч. Як пісаў сам творца, ён жадаў «прышчапіць да беларускай паэзіі здабыткі чужаземнага паэтычнага труда, памагчы атрымаць ёй больш еўрапейскі выгляд». Упершыню загучалі на беларускай мове трыялет, актыва, тэрцына. Цыкл вершаў «Мадонны» прысвечаны каханай паэта, яго музе Ганне Какуевай. Ім не было наканавана застацца разам. «Вольныя думы» паэта напоўнены глыбокім псіхалагізмам.

На вечарыне прысутнічалі беларускія пісьменнікі, паэты, даследчыкі творчасці Максіма Багдановіча. Яны дэкламавалі любімыя вершы, дзяліліся думкамі пра яго жыццё і творчасць. Госці паслухалі песні ў цудоўным выкананні барда Таццяны Беланогай, а таксама ўзялі ўдзел у вікторыне па творчасці паэта.

# Літаратурнае пабрацімства: трывогі і спадзяванні

Сярод кніг серыі Выдавецкага дома «Звязда» «Сугучча сэрцаў» — і малдаўскі томік. Каго ж заўважыў, убачыў беларускі ўкладальнік у малдаўскай літаратурнай прасторы з беларускіх мастацкіх вышынь?




**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

У раздзеле «К изголовью века» прадстаўлены Іон Друцэ, Павел Боцу, Іон Ватаману, Мікалае Есіненку, Леа Бутнару, Эміль Лацяну, Канстанцін Кеяну, Алеся Рудзягіна, Аляксандр Юнко, Алег Красноў, Іон Хадыркэ, Аркадзіе Сучавяну, Міхаіл Паторак, Сяргей Пагын, Яна Казачэнка, Наталля Навахатняя, Дзяніс Башкіраў, Віка Чамбарцава, Аксана Мамчуева.

Атрад паэтаў і празаікаў прадстаўнічы. Але ўжо па саміх прозвішчах, відаць, зразумела, што аўтары ў большасці працуюць на рускай мове. Гэтая акалічнасць яшчэ раз нагадала, наколькі складана збіраць кнігу з твораў нацыянальнай літаратуры, калі парушаны сувязі, калі няма ўяўлення пра перакладчыцкія абсягі. І можна толькі здагадвацца, колькі высілкаў каштавала Алесю Бадаку ўкладанне томіка «Край мой заповедный». Прыйшоў і досвед, прыйшло і веданне, што адбываецца сёння ў малдаўскай літаратуры, прыйшло разуменне, па якіх баках аглядаецца некалі такая энергічная і дынамічная малдаўская літаратура.

Безумоўна, сказваюцца моцныя румынскія ўплывы. Неяк згубіліся, змізарнелі вядомыя калісьці нацыянальныя класікі. У свой час падзеяй для беларускіх дзетак сталася кніга малдаўскага дзіцячага пісьменніка Спірыдона Вангелі «Прыгоды Гугуцэ», перакладзеная на беларускую мову. Мы з захапленнем чыталі кожную новую рэч Іона Друцэ. А што ж цяпер?.. Дзеля таго, каб пытанне не павісла ў паветры і была задумана серыя, і быў укладзены, у прыватнасці, малдаўскі томік.

А беларускую частку кнігі «Край мой заповедный» склалі творы Янкі Брыля, Анатоля Вялюгіна, Генадзя Пацыенкі, Таццяны Лейка, Мікалая Еляняўскага, Янкі Лайкова, Уладзіміра Сцяпана, Наталлі Капы, Алеся Дзятлава.

## Тэле-ЛіМ

# Музычны аўтограф

Тэлеканал «Беларусь 3» прадстаўляе новы музычны праект «Аўтограф».

З панядзелка па пятніцу гледачы змогуць даведацца пра аматарскія і прафесійныя калектывы Беларусі, дырыжораў і харэографаў. Так, першыя выпускі пазнаёмяць з мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча Міхаілам Дрынеўскім, удзельнікамі мазырскай студыі цыркавога мастацтва «Арэна», ансамблем беларускай песні «Церніца» ды іншымі.

Падсумуе музычны тыдзень на канале гала-канцэрт «Песні ваенных гадоў» у выкананні Вялікага сімфанічнага аркестра імя П. І. Чайкоўскага. Дырыжор — народны артыст СССР Уладзімір Федасееў.

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

## Абрысы

Гэтымі днямі ў Мінску праходзіць пасяджэнне Савета па справах моладзі дзяржаў-удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Абмяркоўваюцца пытанні, якія датычаць дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў працоўнай дзейнасці моладзі і прадастаўляемых сацыяльных гарантый, а таксама палітыкі ў адносінах да сельскай моладзі. Разглядаецца таксама ініцыятыва БРСМ аб рэалізацыі праекта «100 ідэй для СНД». Акрамя таго, удзельнікі абмяркуюць магчымасць аб'яўлення 2016 года Годам валанцёра на абсягах усёй Садружнасці.

Учора ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа згодна з дамовай паміж музеем Якуба Коласа і Калінінградскім абласным гісторыка-мастацкім музеем адкрылася выстаўка, прысвечаная творчасці Крысціёніса Данелайціса з нагоды яго 300-годдзя і 90-годдзя паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Нягледзячы на 168 гадоў розніцы з беларускім Песняром, у іх творах шмат агульнага. Дзве паэмы звязваюць аўтараў любоўю да сваёй зямлі і ўсяго жывога на ёй, клопатам пра чалавека працы. На выстаўцы прадстаўлены экспанаты беларускага музея і фотаздымкі з дакументальнымі матэрыяламі Калінінградскага абласнога гісторыка-мастацкага музея (п. Чыстыя пруды Несцераўскага раёна Калінінградскай вобласці).

Сёння а 17-й гадзіне ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выстаўкі «"Я вам прынёс напеў зямлі бацькоўскай..." Ян Райніс і беларуская культура». Экспанаты, якія сведчаць пра жыццё і творчасць сусветна вядомага латышскага паэта, перакладчыка, драматурга, філосафа, грамадскага дзеяча, распавядаюць пра сувязі Яна Райніса з беларускай культурай, знаёмства з Янкам Купалам, сугучча творчай думкі паэтаў, што сваімі творамі абуджалі нацыянальную самасвядомасць народаў. Выстаўка створана ў адпаведнасці з Праграмай супрацоўніцтва паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам культуры Латвійскай Рэспублікі на 2013 — 2015 гг.

Конкурс аратарскага майстэрства сярод моладзі аб'яўлены ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Яго арганізатарамі выступаюць кафедра кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ і Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў нашай краіне. Канкурсантам прапануюцца на выбар дзве тэмы: «Мая мара пра Кітай» і «Мае ўспаміны пра Кітай». Выступленне павінна быць на кітайскай мове, працягласць — да 3 мінут. Конкурс адбудзецца 27 лістапада на філалагічным факультэце. Заяўкі прымаюцца да 20 лістапада па адрасе: 220030, г. Мінск, вул. Карла Маркса, 31, к. 28 альбо на электронныя адрасы: phyl@bsu.by; KhmelnickiNN@bsu.by.

# Слова пра ссыльнага акадэміка

Ці можа дзядзька быць маладзейшым за пляменніка? Можа. Менавіта такая сітуацыя склалася ў вёсцы Мікалаеўшчына Мінскага павета 18 лістапада 1883 года, калі ў сям'і арандатара Юрыя Лёсіка і яго жонкі Крысціны нарадзілася дзясятае дзіця — хлопчык па імені Юзік. У той час яго пляменніку Кастусю Міцкевічу (будучаму Якубу Коласу) ішоў ужо другі год. Жыццё і дзейнасць Якуба Коласа добра вядомыя беларусам, а вось пра Язэпа Лёсіка ведаюць значна менш. Мы спынімся на тых старонках жыцця Язэпа Юр'евіча, якія адкрываюць нам малавядомыя раней дакументы.

## НАПАЧАТКУ

Трынаццацігадовы Язэп спрабаваў паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, але на іспытах быў «зрэзаны» праз занадта беларускі акцэнт. Праз год ён усё ж такі паступіў, але ўжо ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Яшчэ праз год — выключаны з семінарыі «за непакорнасць» і, што найбольш прыкра, без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. Але настойлівы юнак скончыў гарадское вучылішча ў Ноўгарад-Северскім (на Чарнігаўшчыне) і здаў экзамен на званне настаўніка народнай школы і хатняга настаўніка пачатковай школы. Яму дапамог старэйшы брат Антон, які з 1900 года жыў у Ноўгарад-Северскім.

Язэп вярнуўся ў Беларусь, выкладаў рускую мову ў Бабруйскай сельскагаспадарчай школе, у Грамядчанскай школе Ноўгарад-Северскага павета, дзе і стаў удзельнікам нелегальнага руху. У выніку Язэпа Лёсіка арыштавалі за чытанне сялянам газет, а самае галоўнае — за камеціраванне тагачасных падзей з антыдзяржаўных пазіцый. У 1907 годзе ў мястэчку Старадуб меўся адбыцца суд, але Язэп уцёк з-пад варты і хаваўся нейкі час у сваякоў і знаёмых у Стоўбцах і ў старэйшага брата Міхала, які працаваў начальнікам чыгуначнай станцыі Красноўка паблізу Луганска.

Калі ж у 1911 годзе Язэп Лёсік наведаў у Ноўгарад-Северскім брата Антона, яго арыштавалі і асудзілі на пажыццёвае пасяленне ў Сібіры: спачатку каля горада Кірэнска Іркуцкай губерні, а потым — у Бадайбо...

## «ПІЯНЕР НОВАЙ СПРАВЫ»

Лютаўская рэвалюцыя вярнула Язэпа Юр'евіча на Беларусь, у горад Мінск, дзе ён уступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду, стаў членам Беларускага нацыянальнага камітэта, адным з арганізатараў беларускіх курсаў, а ў 1917 — 1918 гадах рэдагаваў газету «Вольная Беларусь».

Улетку 1917 года Язэп Лёсік пазнаёміўся з адзінай дачкой беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш. пісьменніцай Вандай Лявіцкай, а ўжо восенню таго ж года яны сталі мужам і жонкай.

У 1917 — 1920 гады імя Язэпа Лёсіка было добра вядома на тэрыторыі Беларусі. Ён быў членам Выканаўчага камітэта Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый, уваходзіў у Вялікую беларускую раду, быў удзельнікам Усебеларускага з'езда 1917 года, супрацоўнічаў з Народным сакратарыятам Беларусі, стаў адным з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), адным з кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, старшынёй Найвышэйшай рады БНР, увайшоў у Народную раду БНР. Але ўрэшце Я. Лёсік адышоў ад палітыкі і прысвяціў сябе педагагічнай і навуковай дзейнасці. Так, з ліпеня 1921 года Язэп Юр'евіч выкладаў беларускую мову ў БДУ, на беларускіх курсах, у Белпедтэхнікуме. Ён прысвяціў сябе беларусізацыі.

Прафесар М. М. Піятуховіч узгадваў: «Памятаецца, асаблівы скептыцызм вымаўлялі некаторыя асобы ў адносінах да выкладання на ўніверсітэце беларускай мовы. Невялічкай жменьцы беларускіх працаўнікоў (праф. У. М. Ігнатоўскі, дац. Я. Ю. Лёсік і пішучы гэтыя радкі) тут сапраўды прыходзілася быць піянерамі зусім новай справы».

У кароткай справаздачы пра дзейнасць Акадэмцэнтра Наркамасветы БССР за красавік 1922 года гаворыцца: «По Институту белорусской культуры. Кроме обычных научных работ, приступили к подготовке материалов для научно-литературного журнала «Веда». Редакция поручена члену Инбелкульта Я. Лёсику».

## АРЫШТАВАЛІ ЗА ПАДРУЧНІК

У пачатку лістапада 1922 года Язэпа Лёсіка арыштавалі — пасля выхаду ў свет «Практычнай граматыкі беларускае мовы», калі газета «Звезда» назвала падручнік «контррэвалюцыйным». Гэта падзея выклікала ўзрушэнне ў асяроддзі інтэлігенцкіх колаў Мінска абурэнне. Тагачасны наркам асветы Беларусі У. Ігнатоўскі вырашыў асабіста прасіць прэзідыум ЦБ КП(б)Б адмяніць пастанову ДПУ аб арышце Лёсіка. Пра гэта сведчыць каштоўны дакумент — «Зварот У. М. Ігнатоўскага ў Прэзідыум Цэнтральнага бюро КП(б)Б» ад 11 лістапада 1922 года:

«Несколько дней тому назад арестован Лёсик. Считаю необходимым высказать по этому поводу некоторые соображения, которые прошу принять во внимание.

1) В последнее время Лёсик стал определяться довольно ясно в сторону признания единственно возможной и необходимой формы Советской Белоруссии… Он согласился взять на себя перевод на бел[орусский] язык «Коммунистического манифеста» и по моему предложению согласился быть редактором сборника на бел[орусском] яз[ыке] под заголовком «Национальный вопрос в рамках понимаемого Компартией и Соввластью»… Последнее выступление его на университетском акте окончательно выявило отношение его к «Великой российской революции» (его собственные слова) и советской Белоруссии, что в своё время было отмечено и прессой («Сов. Бел.», № 242) *(газета «Савецкая Беларусь» 1 лістапада 1922 г. у перадавым артыкуле, прысвечаным гадавіне працы БДУ, выклала змест выступленняў на пасяджэнні ўніверсітэцкага савета вучоных. Адносна Я. Лёсіка газета пісала: «І нарэшце, трэба адзначыць прамову Лёсіка, былога працаўніка савецкага строю на Беларусі, які першы раз дэклараваў сваю сімпатыю Савецкай уладзе, дзякуючы якой Беларусь мае універсітэт, і закончыў сваю прамову клічам: «Няхай жыве савецкая ўлада!» «У вуснах Лёсіка, які не кідае слоў на вецер, — гаварылася далей у артыкуле, — такі кліч азначае прызнанне сваіх памылак і мае выключнае палітычнае значэнне». — Э. І.)*... Арест Лёсика после всего вышеизложенного я считаю большой ошибкой ГПУ, совершенно нецелесообразным фактом и для меня совершенно непонятным.

2) Арест Лёсика вызвал прекращение преподавания белорусского языка во всех отделениях факультета и педфака. Заменить Лёсика некем, среди белорусского студенчества арест его вызвал полное недоумение…

3) Переводы, начатые Лёсиком, переводы, предлагаемые нами, Белорусскими коммунистами, стоят и будут стоять на месте, так как и здесь заменить Лёсика некем. Партийные белорусы очень слабы в бел[орусском] вопросе…

[…]

Всё это заставляет меня просить президиум ЦБ поставить вопрос об аресте Лёсика на одно из своих заседаний. Кроме того, я просил бы вызвать меня на это заседание для дачи устных дополнительных разъяснений.

Моё мнение: освободить Лёсика. Если президиум считал, что он недостаточно выявился, назначить срок для выявления в желательном для президиума направлении…

С коммунистическим приветом В. Игнатовский».

Пасля некалькіх абмеркаванняў і ўмяшання А. Чарвякова Язэп Лёсік быў вызвалены.

## ІНБЕЛКУЛЬТ ВАЧЫМА ЛЁСІКА

У 1924 годзе Язэп Лёсік выступіў з прамовай, якая ясна паказвае стаўленне яго і да Інбелкульта, і ўласна да беларускай культуры.

«Інбелкульт — гэта навуковая ўстанова. Інбелкульт пастаўлен рабоча-сялянскай уладай Беларусі на чале беларускай культуры, на чале тае культуры, што ўжо паўстала да жыцця, што ўжо жыве, расце і развіваецца з надзвычайнай сілай. Яшчэ нядаўна, як бы ўчора, не больш 8 — 10 год назад прадстаўлялі гэтую культуру, выяўлялі яе не больш як 10 — 15 актыўных адраджэнцаў з малюсенькім гуртком прыхільнікаў і спачувальнікаў, пераважна з вучнёўскай моладзі, каторая заўсёды жывей адклікаецца на ўсё новае і гістарычна-няўхільнае.




Язэп Лёсік, Бадайбо, 1915 г.

А цяпер? Цяпер вырасла беларуская літаратура, утварылася беларуская школа, мастацтва, нарадзілася беларуская дзяржаўнасць; цяпер тысячы, дзесяткі тысяч людзей, абуджаныя класавай свядомасцю да грамадзянскага жыцця, ахоплены гэтай культурай, жывуць ёю, імкнуцца да яе, як імкнецца да сонца, да света ўсё жывое, усё здольнае жыць і развівацца...

Але ці ж гэта праўда, што адраджэнне нашае культуры мае жывую сілу?

Так, таварышы, нацыянальная культура — гэта гістарычная канечнасць...

Трэба цвёрда зазначыць, што нацыянальнасць, знадворным выяўленнем каторай з'яўляецца мова, культура, мастацтва, — нязменна развіваецца. Нацыянальнасць — гэта форма чалавечага культурнага развіцця і ніколі не было і не будзе «единого стада» з адзінай мовай і адзінай культурай...

У беларускага народа, як і ў кожнай нацыі, дагэтуль панавала буржуазная культура. Элементы пралетарскай, работніцкай культуры былі заціснуты або плавалі на паверхні панскай культуры ў форме той тлустасці ў страве.

І вот — задача Інбелкульта — вылушчыць гэтыя элементы работніцка-сялянскай культуры з буржуазнай лупіны. Інбелкульт павінен выявіць іх і прыдаць ім належнае значэнне. Таксама, дзеля большай прадукцыйнасці ў сваёй працы, Інбелкульт павінен увайсці ў кантакт з прадстаўнікамі яўрэйскай культуры на Беларусі ды запрасіць да супольнай працы работнікаў гэтай культуры, бо яўрэйская культура на Беларусі так цесна пераплялася з беларускай, што вельмі часта без веды аднае трудна разабрацца ў культурных фактах другой.

...Інбелкульт павінен паказаць, што беларуская культура — гэта культура рабоча-сялянская.

Класавы, рабоча-сялянскі змест і развіццё беларускай культуры становіць задачу Інбелкульту. І ён гэтую задачу развяжа і выпаўніць, цвёрда спадзеючыся, што рабоча-сялянская ўлада Беларусі знойдзе і не пашкадуе матэрыяльных сродкаў для падтрымання скарэйшага, прадукцыйнага развіцця гэтай культуры, бо гэтая культура патрэбна беларускаму работніку, беларускаму селяніну, як частцы сусветнага рою працаўнікоў, патрэбна як зброя для заваявання свае будучыні, для падтрымання сусветнай сацыяльнай рэвалюцыі».

## ПЕРШЫ АКАДЭМІК

Аўтарытэт Язэпа Юр'евіча, які з часам толькі ўзрастаў, трывожыў кіраўніцтва АДПУ.

У дакладной запісцы намесніка паўнамоцнага прадстаўніка АДПУ СССР па Заходнім краі І. К. Апанскага сакратару ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкаму ад 28 снежня 1924 года — пад грыфам «Сов. секретно» — былі такія радкі: «Наиболее крупными деятелями белорусской литературы, определяющими её направление, являются: Я. Купала, Я. Колос, Лёсик, Бядуля, Т. Гартны и Чарот и др.» А 30 сакавіка 1925 года Язэп Лёсік стаў намеснікам старшыні мовазнаўчай секцыі. У «Матэрыялах і рэзалюцыі Камісіі ЦК КП(б)Б па інтэлігенцыі», якія датуюцца снежнем 1926 года, даецца кароткая характарыстыка 14 найбольш вядомых прадстаўнікоў інтэлігенцыі БССР. Што датычыцца Язэпа Юр'евіча, то ў спісе яго прозвішча стаіць на другім месцы: «2. Лёсик Язэп, национал-демократ. Член ИБК, пред[седатель] прав[описно]-термин[ологической] комиссии».

Цікава, што сакратарыят Цэнтральнага Камітэта на закрытым пасяджэнні пастанавіў абмежавацца 15 кандыдатурамі, прычым Лёсік у гэтым спісе трэці — адразу пасля старшыні Інбелкульта Ігнатоўскага і старшыні аддзела гуманітарных навук ІБК Некрашэвіча. Дарэчы, у гэтым спісе рэктар БДУ прафесар Пічэта стаіць сёмым, Колас — трынаццатым, Купала — чатырнаццатым, а Жылуновіч — апошнім.

У 1928 г. Язэп Лёсік быў зацверджаны праўдзейным членам Беларускай Акадэміі навук (БАН). Такім чынам ён адзін з першых беларускіх акадэмікаў. Хутка Язэп Юр'евіч стаў дырэктарам Інстытута беларускай мовы, а ў пачатку 1930-га яго прызначылі старшынёй Тэрміналагічнай камісіі БАН. На вялікі жаль, таленавіты вучоны апынуўся ахвярай палітычных рэпрэсій.

У ліпені 1930 г. Язэп Лёсік быў арыштаваны другі раз — па знакамітай справе «Саюза вызвалення Беларусі». Яго пазбавілі звання акадэміка БАН і ў 1931-м саслалі на пяць гадоў у горад Камышын Саратаўскай вобласці.

Трэці арышт Язэпа Юр'евіча адбыўся ў чэрвені 1938 года за «прыналежнасць да існаваўшай у Саратаве з ліку палітычных ссыльных контррэвалюцыйнай арганізацыі». Ён быў асуджаны на пяць гадоў канцлагераў за «антысавецкую агітацыю». Паводле афіцыйнай версіі, Язэп Лёсік памёр 1 сакавіка 1940 года ў турме горада Саратава. Яму ішоў 57-ы год.

Як у такіх варунках пачувалася жонка Язэпа Лёсіка — Ванда Антонаўна Лявіцкая (1895 — 1968)? Яна была маладзейшая за мужа на 12 год. З 1917 г. жыла ў Мінску, дзе гадавала і выхоўвала дачок Люцыю і Алесю і сына Юрыя. Часам падпрацоўвала: брала ў выдавецтвах пераклады. А пасля арышту Язэпа Лёсіка працавала пасудамыйкай, разносчыцай тэлеграм. З 1933 года Ванда Антонаўна дзяліла ўсе нягоды высылкі з Язэпам Юр'евічам. Нейкі час працавала настаўніцай і карэктарам у выдавецтвах. Страціўшы мужа, яна жыла ў дзяцей: у старэйшай дачкі Люцыі ў Ліпецку, у малодшай, Алесі, — у пасёлку Татарка Стаўрапольскага краю, у сына Юрыя ў Армавіры. Ванда Лявіцкая перажыла мужа на 28 гадоў.

## АПАСЛЯ

Язэп Юр'евіч быў рэабілітаваны па прыгаворы 1940 года — праз васямнаццаць гадоў, а па прыгаворы 1931-га — праз пяцьдзясят сем.

У 1990 годзе Язэпа Лёсіка аднавілі ў званні акадэміка АН БССР.

**Эмануіл ІОФЕ**




# Чацвёрты — з дваццаці пяці

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» ажыццяўляе выданне Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах. Заўважым, што папярэдняе складала толькі 8. Цяпер чытачы змогуць пазнаёміцца з творамі, якія раней не публікаваліся ці былі прадстаўлены толькі ў асобных выданнях, а таксама з разгорнутымі каментарыямі, варыянтамі і розначытаннямі.**

Асобныя тамы будуць складаць сцэнарыі, лісты, малюнкі і многае іншае. Гэта дасць магчымасць нам, чытачам, разгадваць, бы рэбус, шматгранную асобу Караткевіча.

Выданне такой грунтоўнай працы каардынуе філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кіраўніком праекта выступае кандыдат філалагічных навук дацэнт Анатоль Верабей. Яшчэ адной асаблівасцю будзе даніна XXI стагоддзю — два кампактдыскі з вершамі, песнямі ў выкананні пісьменніка, а таксама яго выступленні на радыё і тэлебачанні.

Пабачыла свет ужо тры тамы ўнікальнага выдання. Першыя два змяшчаюць паэтычную спадчыну Уладзіміра Караткевіча: вершы з кніг «Матчына душа» (1958), «Вячэрнія ветразі» (1960), «Мая Іліяда» (1969), «Быў. Ёсць. Буду» (1986) і тыя творы, што не ўвайшлі ў зборнікі. Прыемнымі сюрпрызамі для чытачоў на старонках першых тамоў паўстаюць радавод пісьменніка, віншаванні, эпіграмы, пасланні і іншае. Такім чынам, ужо цяпер можна насалоджвацца паэзіяй Караткевіча ў найбольш поўным выглядзе. Але не адкладвайце гэтае задавальненне, бо ў кнігарнях не так лёгка знайсці першы і другі тамы.

Летам гэтага года выйшаў чацвёрты том Збору твораў (так скláліся абставіны, што ён апярэдзіў трэці). Сюды ўключаны празаічныя творы Караткевіча сярэдняй жанравай формы (тры аповесці і адна легенда) канца 1940-х — 1958 гг. Рэдактар тома — Віктар Іўчанкаў. Адкрывае том аповесць «Предыстория», яна была напісаная ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х гг. на рускай мове. У першай частцы твора дзеянне адбываецца ў далёкім мінулым. Там жылі людзі, якія зрабілі свой край сапраўдным раем. У другой частцы апавядаецца пра тую ж зямлю, але паняволеную ўжо іншым народам. Аповесць заканчваецца сцэнай пакарання смерцю паўстанцаў 1863 г. і іх камандзіра Грынкевіча (правобраз продка пісьменніка з матчынага боку паводле сямейнага падання). Аповесць «Предыстория» з'яўляецца своеасаблівай першай прыступкай, дзе зарадзіліся тыя тэмы, матывы, сюжэты, з якімі аўтар пакрочыў далей па дарозе літаратуры.

У сакавіку 1956 г. У. Караткевіч напісаў легенду «Маці ветру», сюжэт яе быў падказаны дзедам пісьменніка Васілём Грынкевічам, які вельмі паўплываў на асобу Караткевіча. Удзячны ўнук так пісаў пра дзеда ў лісце да Максіма Танка: «Больш за ўсё я шкадую, што ён так рана памёр (не стала дзеда ў ліпені 1945 года), што я быў малы і мала што памятаю, што не запісаў гэткага цуду. Але менавіта ад яго я палюбіў прыроду, гісторыю…» Легенда «Маці ветру» прысвечаная апісанню падзей паўстання 1743 — 1744 гг. на Крычаўшчыне. Само паўстанне ў легендзе не паказана. Аўтар толькі коратка згадаў пра яго і паабяцаў, што калі-небудзь раскажа пра тыя падзеі. І пісьменнік стрымаў сваё слова, напісаўшы ў 1982 г. трагедыю «Маці ўрагану».

Уласны досвед і досвед свайго пакалення ўвасобіў У. Караткевіч у аповесці «У снягах драмае вясна» (1957). Твор аўтабіяграфічны. І хоць не названы горад, у якім адбываецца дзеянне, але згадваецца Кіеў. Гэта цікавая і змястоўная гісторыя пра студэнцкае жыццё пачатку 1950-х гг. Адметнасць першых трох твораў тома (аповесць «Предыстория», легенда «Маці ветру», аповесць «У снягах драмае вясна») у тым, што пры жыцці пісьменніка яны не друкаваліся.

Творы ў томе размешчаныя ў храналагічным парадку, таму далей сваё пачэснае месца займае на старонках выдання аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» з падзагалоўкам, што быў у свой час ліквідаваны, — *аповесць з цыкла «Сямейныя паданні роду Яноўскіх»*. Ужо пасля першага курса Кіеўскага ўніверсітэта, летам 1950 г., пісьменнік стварыў у Оршы першы варыянт гістарычна-дэтэктыўнай аповесці. Трэба было зацікавіць чытача «мясцовымі» творамі. Зразумела, што дэтэктыўны жанр — удалы варыянт рашэння гэтай задачы. Як зазначыў у свой час класік англійскага дэтэктыва Д. Чэстэртан, «калі дэтэктывы чытаюць часцей, чым даведнікі, значыць, яны цікавейшыя». Аднак пра незвычайныя здарэнні ў Балотных Ялінах Уладзімір Сямёнавіч расказаў па-свойму. Ад «чыстага» дэтэктыва яго твор адрознівае ўвага да беларускага грамадства 80-х гадоў XIX ст., яго супярэчнасцей, а таксама нацыянальнай, культурнай і гістарычнай адметнасці. Для пісьменніка важна было выявіць каларыт, атмасферу мінулай эпохі.

Завяршае чацвёрты том Збору твораў гумарыстычна-сатырычная аповесць «Цыганскі кароль», таксама з раней знятым падзагалоўкам *аповесць з цыкла «Сямейныя паданні роду Яноўскіх»*. Дзеянне адбываецца ў другой палове XVIII ст. на Гродзеншчыне ў цыганскім «каралеўстве». Матэрыялы для аповесці былі ўзятыя з нарыса Адама Кіркора і напоўненыя рэаліямі тагачаснага жыцця, смешнымі і гарэзнымі, вясёлымі і сумнымі. Пісьменнік не толькі з'едліва характарызуе цыганскае «каралеўства», але і разважае пра гістарычны лёс Беларусі, закранае істотныя сацыяльна-грамадскія і нацыянальныя пытанні.

У чацвёртым томе, як і ў папярэдніх, падаюцца разгорнутыя каментарыі да тэкстаў з інфармацыяй пра крыніцу, паводле якой друкуецца твор, час яго першай публікацыі, дату напісання, наяўнасць рукапісных, машынапісных і друкаваных каментарыяў. Як бачым, кніга з'яўляецца каласальнай працай людзей ініцыятыўных, неабыякавых да культурнай спадчыны нашай краіны. Чытаючы каментарыі, разумееш, што праца навукоўцаў, якія бяруць удзел у выданні Збору твораў Уладзіміра Караткевіча, вельмі нагадвае працу ювеліра, што па крупінках стварае сапраўдны цуд.

**Вікторыя МАЛЯЎКА**

# У кожнага свой Камю

**Суседства быццам супрацьлеглых пачаткаў — ахвяравальнага, разумова-аскетычнага і дарэшты пачуццёвага, нават геданістычнага — прасякае досвед і творчасць Альбера Камю, аднаго з найбольш аўтарытэтных класікаў літаратуры XX стагоддзя. Днямі адзначаецца яго стагадовы юбілей.**

Альбер Камю нарадзіўся 7 лістапада 1913 года ў алжырскім паселішчы Мандаві ў сям'і земляроба. На фронце Першай сусветнай загінуў бацька, а маці з двума сынамі пераехала ў горад Алжыр, дзе і прайшло дзяцінства будучага класіка — цяжкое, галоднае, але вольнае. У школе выявіліся гуманітарныя здольнасці юнака, таму на дабрачынныя сродкі ён змог вывучаць філасофію ў Алжырскім універсітэце. Менавіта ў гэты час грунтуецца раней не акрэсленае пачуццё прыгнечанасці і залежнасці — ад мецэнатаў, ад збегу абставін, ад сацыяльных умоўнасцей і, з пэўнага моманту, ад хваробы (падчас гульні ў футбол Камю падхапіў прастуду, якая перайшла ў туберкулёз). Выпакутаваны прынцып: «Сцвярджаць сябе, каб не быць раздушаным» малады чалавек возьме ў самастойнае, дарослае жыццё.

Падобна да таго, як «у кожнага — свой Пушкін», у кожнага і «свой Камю». *Мой* Камю ніяк не хоча падпарадкоўвацца тым глыбакадумным звесткам пра яго, якія прапануюць крыніцы, — літаратуразнаўчыя і філасофскія. Словы «бунт», «абсурд», «нігілізм», «свабода», «чалавечае наканаванне», «мужнае сумленне» ў бясконцых іх варыяцыях ствараюць уражанне дурману: не толькі не даюць нешта зразумець, а нават паралізуюць думку. Упэўненая: перавагу будзе мець той, хто даверыцца непасрэднаму ўражанню ад твораў Камю — хаця б таму, што ён сам больш за ўсё шанаваў непасрэднасць, вольнасць, неабцяжаранасць. Зразумела, маючы патрэбнасць у рэфлексіі і адпаведную філасофскую адукацыю, імкнуўся «непасрэднасць» абгрунтаваць.

Чалавек, меркаваў Камю, скіраваны ў будучыню. У будучыні нас чакае смерць, таму жыццё — тое, што рухаецца «у-напрамку-да-смерці», — ёсць абсурд, бязглуздзіца. У ім няма перспектывы, і ўсялякая думка (у тым ліку — пра «вечнае»), мітуслівая барацьба за існаванне, машынальная паўсядзённасць — бязглуздзіца таксама. Няма сэнсу ў камунікацыі, няма — у адзіноце. Сэнсу няма ні ў чым, толькі ў нашым знаходжанні «тут і цяпер» — у свеце, светабудове. Натхняцца і напаляцца водарам траў, сузіраннем прыцемкаў і досвіткаў, лагодных краявідаў, адчуваць сябе разам з імі і часткай іх — адзінае, што дае магчымасць пераўзысці абсурд. Казаць «так» не ідэалогіям ці персонам, не грамадскім прыярытэтам, але «стравам зямным». Камю і загінуў так, як імкнуўся жыць: на ўзлёце, у руху, у адчуванні паўнаты жыцця. Яму было ўсяго 47, калі ён трапіў у аўтакатастрофу.

У акрэсленым рэчышчы філасофскіх поглядаў пісьменніка стваралася знакамітая аповесць «Чужаніца» (1942) — гісторыя чалавека, вольнага ад усялякіх прыярытэтаў і думак: не ўсім жа думаць — трэба камусьці і жыць! Ён і жыў, проста быў сабой ва ўлонні светабудовы, але жыццём за гэта і заплаціў. Бо, як кажуць, нельга жыць у грамадстве і быць вольным ад яго. Грамадства даравала б яму нават забойства, але не даравала пагарду (няхай неўсвядомленую) яго «законамі». Забіў ты араба — ну што ж: сонца засляпіла вочы, спякота замуціла розум, інстынкт самаабароны ўзяў перавагу. Але ж акурат напярэдадні ты не праліў ні слязы на пахаванні сваёй маці, у час апошняга развітання піў каву з малаком і ледзь не над труной паліў цыгарэту! Таму ты варты смерці. Перад выкананнем прысуду Чужаніца нарэшце ўсведамляе і кошт грамадскіх законаў-умоўнасцей, і каштоўнасць свайго былога шчыра-непасрэднага жыцця, але ўсведамленне — думка пра марнасць нерэфлексаванай асалоды «проста жыць» — запозненая.

Другая сусветная вайна падштурхнула Камю перанесці акцэнт з асабістага досведу на досвед калектыўны: ідэю салідарнасці, агульнага тварэння дабра, спагады, самаахвяравання. Раман



«Чума» (1947) таксама пабудаваны на «пагранічным» сюжэце: тлумныя, самаўлюбёныя жыхары правінцыяльнага гарадка падчас эпідэміі паступова перасягаюць былы лад сама- і светаўспрымання. Адзіным выйсцем з «чумнага» стану (хваробы, вайны, фашызму, «сусветнага зла») паўстае актыўная, дзейсная салідарнасць, праца змагацца, нават калі змаганне падаецца безнадзейным. Водгук «філасофіі жыцця» чуваць і тут: жыхары Арана, якія ацалелі пасля чумы, ужо не могуць бяздумна марнаваць жыццё, але мусяць шанаваць кожнае яго імгненне.

Мова твораў Камю адметная амаль антычнай прастатой. У «Чужаніцы» найбольш прынцыповыя рэчы не дэкларуюцца (вось, напэўна, чаму так па-дзікунску выглядаюць «крытычныя» штудыі!), на іх нават няма намёку: яны адчуваюцца, што называецца, скурай, і падаюцца ў стрыманых на словы нешматлікіх замалёўках (летняга вечара ў выхадны дзень, зорнага неба праз акно вязніцы). Ідэал салідарнасці ў «Чуме» не прагавораны, але здзейснены — таксама ў простай, нават схематычнай сітуацыі: героі адчуваюць жах перад пагрозай смерці і адзін за адным гуртуюцца ў грамаду, якая нешта здзяйсняе, каб не быць статкам, прызначаным на забой.

У 1957 годзе Альберу Камю была прысуджана Нобелеўская прэмія ў галіне літаратуры — «за творчасць, якая абуджае сумленне». Калі сумленне разумець як гонар «чалавекам звацца», канцэпцыя Камю падаецца не толькі сучаснай, але і пазачаснай, анталагічна значнай. Не толькі чалавеку ўвага да светабудовы прыносіць годнасць і спакой: заўважаная і адлюстраваная ў мове светабудова толькі так і пачынае быць, толькі так і мае сэнс — дзякуючы чалавеку.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Марыя КОБЕЦ



## У вянок памяці Яўгеніі Янішчыц

*«Боль перасіліў немату...»[1]*
*Я ж свой — зноў перасілю.*
*Але — жыву, хаджу, «цвіту».*
*Ты — ластаўкай згарнула крылле...*

*«...Больш для сябе не існаваць*
*І з болем — не змірыцца».[2]*
*...Табе б шчэ жыць, тварыць, пісаць!*
*Мне ж у цябе — вучыцца.*

*Твайму трывожнаму пяру*
*Разлуцы б — не скарыцца...*
*...А я — з табою гавару,*
*Ды як нагаварыцца!*

## Край дзяцінства

*Хто б сказаў, не памыліўся,*
*Дзе й куды сышло дзяцінства?*

*Найдакладней скажа памяць:*
*«Тое, што мяне цікавіць, —*
*За бухматымі стагамі,*
*За лагчынамі, лясамі,*
*Раўчукамі і лугамі...*
*Там, дзе рэха адгукнецца,*
*Там жа — сонейка прачнецца!*
*Там — страмчэй вясёлка гнецца,*
*Там — смачней вадзіца п'ецца,*
*Там жа — весялей смяецца,*
*І ніхто там не злуецца,*
*Там — душа з адкрытым сэрцам,*
*Што часцей, чым зараз, б'ецца.*

*Там — лягчэй за ўсё жывецца.*
*Край дзяцінствам той завецца».*

***

*Асенні сум. Дажджынак плач.*
*У одуме заціхлі дрэвы.*
*А я прашу цябе: «Прабач,*
*Трывожу часам без патрэбы».*

*Прабач, што я ў тваё акно*
*Гляджу перадсвітальнай зоркай,*
*За тое, што тваёй даўно*
*Я стала ў гэтых буднях золкіх.*
*У думках, мроях, нібы здань,*
*Тваёй хаджу я ўслед дарогай,*
*З мальбой адной: «Дазволь мне, дай*
*Ў нягодах быць перасцярогай!»*
*Дазволь пярсцёнкам на руцэ*
*Мне быць, каб чуць твае далоні,*
*Даджжом на валасах, шчацэ —*
*Употаю прылашчыць скроні.*

*Ну вось! Апраўдваюся! Ў чым?*
*За што ж прашу я прабачэння?*
*За тое, што імя ўначы*
*Тваё шапчу, хаця сумленне*
*Прасуе, мучыць, брыдкі тлум*
*Спакусіць нават адрачыся.*
*...Але ж трывожыць звыклы сум:*
*Апраўдвацца — не развучыцца.*

## Блакіт

*Блакітным колерам вачэй*
*Расфарбаваў ты раптам восень.*
*Блакітны —*
*мой, і ён ярчэй,*
*Чым неба веснавая просінь.*

*Ў блакітным — дрэвы, лес, ралля,*
*Світанак, поўдзень, гэткі ж вечар.*
*Лістота, даляглад, зямля —*
*Ў блакіце першае сустрэчы.*

*Блакітны горад, шлях, дамы.*
*Усмешкі — шчырыя ў блакіце.*
*Блакітнымі мне сняцца сны,*
*І сонца — гэткае ў зеніце.*

*Такі ж сягоння нават змрок,*
*Раней — бясконцы на планеце.*
*Блакітны стаў мне незнарок*
*Найлепшым колерам у свеце.*

[1] З верша Я. Янішчыц «Боль перасіліў немату...»
[2] З верша Я. Янішчыц «Больш для сябе не існаваць...»

Аксана ЯРАШОНАК



## Звычайнае шчасце

*Хвілінка...*
*І ранак*
*Мой тыдзень пачне.*
*Хіснуцца фіранкі*
*На нашым акне.*
*Затушыць*
*світанак*
*Апошні ліхтар,*
*І дотык жаданы*
*Сагрэе*
*мой твар.*
*Духмяная кава*
*Уздыме настрой,*
*А сонца*
*ласкава*
*Атуліць пакой.*
*Пяшчоту дзіцячых*
*Далонек злаўлю.*
*Звычайнае шчасце.*
*Кахаю.*
*Люблю.*

## Пад грукат колаў

*Прывакзальнымі вежамі*
*Мінск*
*падміргне наўздагон мне,*
*І пачнецца*
*прывабна-трывожны*
*чыгуначны шлях.*
*Невядомае радыё*
*ціха спявае ў вагоне,*
*Адгукаюцца колы*
*нязменна-рытмічным*
*«тах-тах».*

*Асцярожна цягнік*
*пасажыраў*
*сваіх калыхае,*
*Толькі пільны памежнік*
*расслабіцца ўсё ж не дае.*
*Углядаецца ў твары сурова —*
*работа такая —*
*Ды ўшчэнт разбівае*
*шчаслівыя сненні мае.*

*А за вокнамі, як кінастужка,*
*будынычкі станцый,*
*І за далеччу дзесьці*
*хаваецца родны парог.*
*Засталося*
*гадзінку-другую*
*яшчэ пратрымацца,*
*Каб нарэшце сказаць:*
*— Прывітанне табе,*
*Таганрог!*

## Малюнак нябёсаў

*Малюнак*
*нябёсаў над хатай*
*Здаецца прывабным і смачным:*
*Аблокаў*
*цукровая вата*
*Раскладзена кімсьці нябачным*
*На сподачку чыстым з блакіту.*
*А побач,*
*глядзіце,*
*найначай*
*Зіхоткае сонца разліта*
*Густой*
*карамеллю гарачай.*

***

*Кідаў на шчокі кропелькі бурштыну,*
*Цягучым струмянём*
*па вуснах цёк*
*І зачароўваў водарам ён дзіўным,*
*Антонаўкі даспелай свежы сок.*

*А яблык той, да зернятка празрысты,*
*Маленькім сонцам*
*саграваў далонь,*
*Дарыў мне смак далёкага дзяцінства*
*І ўжо астылай восені агонь.*



*Фота Ірыны Тулупавай*

Ганад ЧАРКАЗЯН



## Малітва

*Маліўся я: «О, Божа, памажы!»*
*І неба не пазбавіла тугі.*
*Асфальт, адзін асфальт паўсюль*
*ляжыць,*
*Заціснуты ў ім сэрцы і мазгі.*

*Усё вакол кініць, бы ў сагане,*
*Няма нідзе ні блізкіх, ні братоў.*
*Каму, скажыце, ратаваць мяне,*
*Калі цябе не чуе аніхто?*

*Хоць бачыць Творца з вышыні нябёс,*
*Што ўнізе свет хаосіцца даўно,*
*І мора лье дажджоў і мора слёз,*
*А свет наш не дабрэе ўсё адно.*

***

*Дабро ў абдымках цешыцца са злом.*
*Хто кажа мне, што гэта нетыпова?*
*Дык ведай:*
*Крылы ёсць і ў добрых слоў,*
*Калі іх кажуць нам своечасова.*

*Вунь, бачыш,*
*перад намі двое, тых!*
*Высока як над буднямі крыляюць!*
*І свецяцца звысоку твары іх,*
*А стрэлы злосці бокам аблятаюць.*

*Хутчэй такія словы мне кажы,*
*Каб жар іх моцна галаву кружыў.*
*А момант шчасця,*
*ён няўлоўны,*
*Хоць*
*Усё паўторыць вышыня шматкроць.*

***

*Старасць —*
*гэта калі*
*Нашы твары і сэрцы грубеюць*
*І застываюць у пэўнасці,*
*Калі думкі сціскае*
*Марудства і жорсткасць.*
*Вось тады мы, нарэшце,*
*Бачым тое, што бачаць усе,*
*І ўсяму па-дзіцячаму верым.*
*Хоць праз шкліны павелічальныя*
*Бачны ўсе недахопы й заганы,*
*Ды ўжо слоў нестае*
*Выкрываць іх рашуча.*
*Камянеюць штодня*
*Нашы рукі*
*І лыжку да рота калі і даносяць,*
*Дык толькі пустую.*
*Камянеюць і сэрцы,*
*І толькі ў азерцах вачэй*
*Яшчэ ўсе адсвечвае вільгаць.*
*Можна ўжо і ўздымаць*
*Нас, каменных, на пастаменты.*
*Будзем ціха стаяць,*
*Будзем помнікамі*
*Самі сабе*
*І жыццю,*
*Што, як хваля, нас выбіла неяк на бераг,*
*У якога імя — забыццё.*

***

*Прыпыніць сонцу*
*ранкам светлы шлях*
*Аблокаў злых халодная аблога,*
*Але не спіць, варушыцца зямля,*
*Цяпло сваё шле сонцу на падмогу.*

*І ў небе,*
*дзе сыходзяцца франты*
*І вогніва пляцецца ў сотні столак,*
*Пабачыш і парадуешся ты,*
*Як адступаюць зноў і змрок, і холад*

*І як пасля шчаслівая вада*
*Ліецца па зямных грудзях шчасліва,*
*Каб каласілася,*
*шчодрылася ніва,*
*З якой сялянскі лёс увесь відаць.*

*У кожнай бітве пераможца свой.*
*Напэўна, так прыдумала прырода.*
*І чалавек услед ідзе за ёй.*
*Яе закон — яго заўсёды згода.*

***

*Побач з яснымі зоркамі*
*Спадарожнікі шныраць заўсёды.*
*Акіянскія лайнеры*
*Збаламуцілі чыстыя воды.*

*А кіты і дэльфіны*
*Самагубства на сушы*
*Шукаюць.*

*Уцякаю з тлумнага горада,*
*У свой домік маленькі*
*Ўцякаю.*

*Ён драўляны.*
*Я сам збудаваў яго.*
*Ах, як ласкава лашчыцца*
*У грубцы агонь!..*

**З курдскай пераклаў Казімір Камейша**



# Юлія ЗАРЭЦКАЯ

# Калі не маўчыцца...

## *Пра сёння, учора і заўтра*

Здаецца, было гэта нядаўна. Спяшалася некуды, хуценька ішла па вуліцы, як раптам адчула на твары лёгкую, ледзь улоўную павуцінку. А раніца добрая, цёплая, сонейка свеціць і абяцае такі ж цёплы, нават гарачы дзень... І адразу падумалася: вось так, непрыкметна, кладуцца на наш твар і пражытыя гады. Адна павуцінка, другая, трэцяя... І калі сапраўдную павуцінку я лёгка змахнула рукою, дык павуцінкі-гады так і застаюцца на чалавечым твары, збіраючыся з цягам часу ў густыя маршчынкі. Таму твары старых людзей знітаваны павуцінкамі, якія тыя некалі так і не змаглі ці не захацелі змахнуць...

***

У рэдакцыю завітаў пісьменнік К. Пачалі згадваць розныя здарэнні. Успомніў і ён адну сваю крыўду. Браў неяк чарку з пісьменнікам Н. Выпілі добра, а пасля той і кажа: «Не люблю я цябе, К.»

— Ну, а вы? — цікавімся мы.

— А я яму чэсна адказаў: «І я цябе таксама не люблю, Н.» І дадаў: «Але дзякуй, што сказаў...»

***

Цікава, чаму многія (ці не пераважная большасць) пісьменнікі і пісьменніцы так любяць даваць у кнізе, часопісе або газеце побач са сваім творам сваё «маладое» фота? Што гэта: жаданне ўтрымаць маладосць, хоць бы і на фотаздымку? Уцёкі творчых, узвышаных натур ад шэрай будзённасці? Своеасаблівае прыхарошванне жыцця? Ці ім здаецца, што старэчы твар — гэта неэстэтычна? Зразумею, відаць, пазней...

Але, дальбог, смешна, калі чытаеш падборку вядомага паэта, ужо зусім не юнака, бачыш ягонае фота 20-30-40-гадовай даўнасці!.. Хіба не «мае гады — маё багацце»? Навошта хаваць свой сапраўдны твар, на якім кожная маршчынка — гэта хвіліна, дзень ці год твайго жыцця?..

***

Ехала ў таксі. На панэлі аўтамабіля была прымацавана планка з праваслаўнымі іконкамі, а на люстэрку вісеў-матляўся... ружанец. «Двойная защита», як кажуць у рэкламе? Калі не праваслаўныя іконкі, дык каталіцкі ружанец? Чамусьці падумалася, што вадзіцель наўрад ці з'яўляецца шчырым праваслаўным вернікам ці каталіком. Прынамсі, на выгляд ён быў тыповым «усходнім» чалавекам.

***

Тэлефаную ў адну раённую бібліятэку да дырэктара з рабочым пытаннем. Але яе няма на працы. «Пайшла па спонсарах», — прастадушна тлумачыць мне супрацоўніца бібліятэкі. Што ж, такі час!..

***

Давялося неяк выступаць на семінары маладых пісьменнікаў. Наслухаўшыся «рэверансаў» старэйшых калег перад маладымі — і альманах з вашымі творамі будзем выдаваць, і ўсяляк падтрымліваць, і калі крыўдзіць будуць — неадкладна звяртайцеся (трэба разумець, што крыўдзіцелі — гэта тыя, хто не будзе друкаваць іх тварэнні або крытыкаваць), — калі далі слова, расказала ім пра мастака Сяргея Волкава, з якім рыхтавала інтэрв'ю ў чарговы нумар «Вожыка».

Пра тое, як дзед, убачыўшы яго малюнкі на праглядзе пры паступленні ў мастацкае вучылішча (ён, дарэчы, узначальваў прыёмную камісію), сказаў: «Што за Волкаў? Сярожа? Няма чаго яму тут рабіць! Няхай не займае чужое месца!..» Тады дырэктар вучылішча ўзяў Сяргея вольным слухачом з такімі ўмовамі: ён вучыцца, стыпендыі не атрымлівае, дзясяты клас (паступаў пасля дзевяці класаў) заканчвае ў школе рабочай моладзі. Пасля заканчэння першага курса тая ж камісія будзе рабіць прагляд, і калі яго малюнкі будуць адпавядаць належнаму ўзроўню, залічаць адразу на другі курс. Праз год так і адбылося. Зноў прыйшоў дзед, доўга стаяў каля работ унука, затым некалькі разоў перапытаў: «Гэта дакладна работы Сярожы?» — і нарэшце дазволіў: «Ну што ж, залічвайце!..»

А яшчэ пра тое, што на маё пытанне «Што вы ўзялі ад бацькі?» Сяргей Анатольевіч адказаў: «Яго асноўны запавет: ніколі не шкадуй сваіх малюнкаў. Калі табе здаецца, што малюнак недацягвае да ўзроўню, без роздуму кідай яго ў смецніцу. Бо ўсялякі наступны будзе ў любым выпадку лепшым. Колькі я бачыў у ягонай смецніцы парваных малюнкаў! І я раблю гэтаксама. Заўсёды трэба самакрытычна глядзець на свае творы. Калі бачыш нейкія недахопы ў сваіх малюнках, значыць, іх можа ўбачыць і мастацкі рэдактар, і іншы мастак, а мне будзе сорамна, бо я ведаю, што магу намаляваць лепш».

А яшчэ сказала, што зазвычай маладым даецца своеасаблівы «аванс» і яго трэба «адпрацаваць»...

Вечарам прыгадала сваё выступленне і засумнявалася: можа, занадта строга? Завельмі павучальна? Нават пацвеліласа з сябе: відаць, старэеш, калі пачынаеш бурчаць на маладых? Але потым супакоілася: не, не занадта і не завельмі, а тое, што трэба. Прынамсі, для таго, хто ўмее слухаць. І чуць.

***

Ты — мне, я — табе. Вядомы ўсім выраз. Раптам задумалася: ты, я... Цікава атрымліваецца. Спачатку ўсё ж ты дай мне, а потым ужо я — табе. Чалавечая натура!..

***

Відаць, у кожнага з нас была сітуацыя, калі так і хацелася ўсклікнуць: «Ну проста анекдот!» А што ўжо казаць пра рэдакцыю «Вожыка»! У нас анекдоты здараюцца штодзень.

Вось, напрыклад, заходзіць у рэдакцыю адзін наведвальнік і пытаецца: «А чаму ў вас тут такі рогат?» — «Дык працуем!» — адказваем. Бачым здзіўлены позірк. Даводзіцца тлумачыць: «Мы ж вожыкаўцы. Гумар — наша работа. Смяёмся — значыць, працуем. Калі ж у рэдакцыі цішыня — значыць, адпачываем». Хіба не анекдот?

Ці яшчэ такая гісторыя. Зноў у рэдакцыі чарговы наведвальнік. Прынёс вершы. Гутарым з ім, распытваем пра тое-сёе. Ён тым часам пацюху асвойваецца, пільна ўглядаецца ў нашы твары. І затым, гледзячы на нашага рэдактара літаддзела Казіміра Камейшу, вядомага пісьменніка, ціха пытаецца: «А вы, відаць, Камейша?» — «Камейша», — спакойна адказвае той. «А што, падобны, — пастанаўляе той, крутнуўшы галавою. — Падобны». Як тут зноў не зарагатаць?..

***

Чытаеш: аповесць у мініяцюрах, мініаповесць, раман-дзённік і іншае. Памойму, гучыць накшталт «каўбаса з соі», «торт з сухароў», «безалкагольнае піва». Аповесць — гэта ўсё ж мастацкі твор апавядальнага характару, расповед пра якуюнебудзь падзею ў яе паслядоўным развіцці, раман — літаратурна-мастацкі апавядальны твор са складаным і развітым сюжэтам. А мініяцюра — мастацкі твор малой формы, дзённік — храналагічны запіс падзей, у якіх аўтар сам удзельнічаў ці быў іх сведкам. Дык, як у тым анекдоце пра малпу, што ледзьве не разарвалася, выбіраючы, якая яна ўсё ж — разумная ці прыгожая, аўтар мусіць вызначыцца: ці аповесць, ці мініяцюра, ці раман, ці дзённік.... Тым больш што першае «гучнае» азначэнне, падмацаванае другім, больш «сціплым», рэдка адпавядае зместу твора. Таму і ставіцца наперадзе. Але кім ты гэтага падманеш? Яно і зразумела: калі напісаны раман, навошта яму гэтае — з боку прыпёку — дзённік? Калі ёсць аповесць, пры чым тут мініяцюра? Усе гэтыя «прыдаткі», на жаль, не цягнуць і на свой «малы» ўзровень — мініяцюр, дзённікаў і іншага. І патрэбны «салідным» азначэнням твораў, як сабаку пятая лапа...

***

Адзін пісьменнік Н. здаў рукапіс у «тоўсты» літаратурны часопіс і адразу папярэдзіў рэдактара аддзела літаратуры, даўняга знаёмага: «Папраў, калі трэба, аповесць сам, бо я не маю часу: у мяне свой блог!» Так і карцела яму адказаць: «Ну і бог з табой! Ёсць блог — там і будзь, не лезь у літаратуру!..»

***

Усё геніяльнае — простае. У чарговы раз пераканалася ў гэтай ісціне, гледзячы на сваю пальму. Расце яна ў мяне даўно, больш як дзесяць гадоў. Прывёз пальму сябар з Крыма. Дакладней, не яе, а маленькі флянсік, якому спадабалася месца (у вокны кватэры амаль увесь дзень свяціла сонца), і ён узяўся расці. І толькі нядаўна, калі я адрэзала ў пальмы ніжні ліст, што апусціўся і пачаў сохнуць (так, дарэчы, адбываецца час ад часу), мяне нібы азарыла. Божа мой, як гэта проста: каб вырас новы ліст, стары павінен засохнуць і прапасці. Так і ў чалавечым жыцці: на змену старому пакаленню прыходзіць новае. Інакш усё спыніцца, перастане рухацца. А рух, як вядома, — гэта жыццё.

Ты прыйшоў у гэты свет, бо нехта вызваліў для цябе месца. Ты жыў, але прыйшоў час паміраць, бо новыя людзі таксама хочуць прыйсці ў гэты свет. Трэба вызваліць ім месца. Закон прыроды...

***

Знаёмая расказала, як неяк прыгадвала з сынам, цяпер ужо студэнтам, час яго вучобы ў школе.

— Не, ну нешта ж ты запомніў са школы? — даводзіла яна сыну. — Ты ж чытаў Пушкіна, Лермантава, Тургенева...

— Але, чытаў, — жыва адгукнуўся той. — Праўда, дагэтуль не магу зразумець: навошта той Герасім карову ўтапіў?!

А што: Муму — значыць, карова, а Герасім некага тапіў, вось і атрымалася...

Знаёмая шчыра смяялася, мне ж хацелася плакаць.

***

Відаць, няма на свеце такога чалавека, які б не распавядаў пра тое, які разумны ў яго быў кот або сабака. Тыя, хто слухаюць, могуць таксама ўставіць пару слоў пра свайго разумнага гадаванца, але... Чалавек паслухае напаўвуха, а затым працягне расказваць пра свайго разумніка, роўнага якому няма на ўсім белым свеце... Дальбог, пра мужа ці жонку, сябра ці кума я такіх аповедаў чула няшмат. Нашмат больш — пра катоў і сабак. Чаму? Як кажуць у такіх выпадках, здагадвайцеся самі.

***

Сцэна ў супермаркеце. Шмат пакупнікоў, усе таўкуцца, выбіраюць нешта... І раптам чуецца тоненькі дзіцячы галасок:

— Мама, а мама!

Людзі натапырваюць вушы. Іх чаканні не марныя, бо на адказ маці: «Ну, што яшчэ?» дзяўчынка задае, відаць, няпростае найперш для сябе пытанне:

— А чаму я не хлопчык?

Нехта з пакупнікоў усміхнуўся, нехта, не стрымаўшыся, зарагатаў, нехта — хмыкнуў. Дзяўчынка запытальна глядзела на маці.

— Не ведаю, так атрымалася... — шчыра, без падману адказала тая і ўсміхнулася сама.

***

Некалі пісала ў «Вожыку» ў сваім «Слове рэдактара» пра чалавека ў гэтым свеце. Мінула некалькі гадоў, а нічога з напісанага не мяняецца. Жыццё сучаснага чалавека па-ранейшаму надзвычай імклівае, насычанае разнастайнымі падзеямі. Ён мусіць знайсці час на працу, на адпачынак, на інтэрнэт, на спорт, на музыку… Сучасны чалавек бяжыць — бяжыць і час. Чым больш чалавек спяшаецца, тым больш не паспявае. Таму сёння прынята выкарыстоўваць кожную вольную хвіліну.

Цяпер ніхто «проста так» не едзе ў машыне альбо грамадскім транспарце, не ляціць, не плыве… «Проста так» любавацца дрэвамі ў шыкоўных восеньскіх уборах, збіраючы прыемныя ўспаміны, нібы лісце ў букет, — недазволеная для сучаснага чалавека раскоша. Цяпер любы пасажыр заходзіць у транспарт і адразу (калі яшчэ не паспеў дагэтуль) устаўляе навушнікі ў вушы, уключае айфон, адкрывае электронную кнігу… Ён слухае музыку, чытае кнігі, праглядае навіны, перапісваецца… Усё гэта, вядома, цудоўна — рацыянальна і эканамічна. Але сумна.

Бо чалавеку цяпер нецікавы чалавек. Той, які знаходзіцца побач. Яму цікавы той, які недзе далёка. Той, з якім трэба звязвацца праз мабільны тэлефон, скайп, чаты і і ншыя сучасныя тэхналагічныя «сродкі сувязі». А калі і мае зносіны з блізкім (у сэнсе адлегласці) чалавекам, то не сам-насам за кубкам гарбаты, а зноў — праз мабільнік, эсэмэскі, інтэрнэт… Так больш зручна! Націснуў кнопку — і чалавек «адразу і тут». Надакучыў? Зноў націснуў кнопку — і «выключыў». З рэальным чалавекам так не атрымаецца. Тут трэба прыкласці намаганні, каб сустрэцца, выслухаць, параіць, пагадзіцца ці паспрачацца… Неяк гэта вельмі складана, далібог!..

Сапраўды, жывы, а не віртуальны чалавек — няпростая істота. Але, нягледзячы на ўсе сучасныя тэхналагічныя навінкі (якіх, дарэчы, з цягам часу будзе ўсё больш), варта ўсё ж знаходзіць час, каб паразмаўляць — чалавеку з чалавекам...

***

Тое, што вясковыя людзі — надзвычай дасціпныя, я ведала даўно. Ды што там ведала: сама такая (у сэнсе, з вёскі)! І вось яшчэ адно пацвярджэнне гэтаму. Прыехала дахаты і пачула ад бацькоў, што П. трымае... французскую карову. Ну, думаю, дае, трэба ж было недзе яе адшукаць, за немалыя, відаць, грошы набыць, прывезці... Праз хвіліну рагачу да слёз, бо высвятляецца, што французская карова — гэта... каза. Ну, ці прыдумаеш лепш?..

***

Не раз чула, чытала такія словы: «Ён, калі вып'е, такі дурны робіцца!..» Цікава, а ці ёсць дзе на свеце чалавек, каторы, калі вып'е, робіцца разумным? Вось бы пабачыць такога!..

***

Некалі ў школе на адным з урокаў (здаецца, дысцыпліна называлася «Чалавек і грамадства»), мы, вучні 10 ці 11 класа, пачалі спрачацца з настаўнікам. Маўляў, на каго нам цяпер раўняцца? Былыя куміры звергнуты, маральныя каштоўнасці абясцэніліся, паўсюль — ідэйны разброд і хістанні... Не памятаю дакладна, што казала асабіста я, але адказ настаўніка на сваё пытанне пра сучаснага куміра як прыклад для пераймання запамятала на ўсё жыццё: «Твой бацька». Пасля гэтых слоў клас прыціх, я пачырванела і па ўсіх законах кінематаграфіі празвінеў званок...

Бацька ўсё жыццё адпрацаваў настаўнікам у вясковай школе. Але пра яго трэба казаць асобна...

# Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК: «Калі б не быў урачом, не напісаў бы п'есу!»



Беларускі пісьменнік Анатоль Дзялендзік узнагароджаны славацкім медалём Яна Налепкі — за фільм, зняты 40 год таму. Медаль Славацкага саюза барацьбітоў-антыфашыстаў традыцыйна ўручаецца за падтрымку міру і ветэранаў Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў. Як ствараўся сцэнарый савецка-чэхаславацкага фільма «Заўтра будзе позна», дзе перакрыжаваліся шляхі нацыянальнага героя Славакіі, Героя Савецкага Саюза Яна Налепкі і тады яшчэ зусім юнага Анатоля Дзялендзіка, як увогуле складваўся лёс слыннага кінадраматурга і сцэнарыста?

**— Шаноўны Анатоль Андрэевіч, ці выпадкова трапіла да вас прапанова напісаць сцэнарый да фільма пра Налепку?**

— У 1943 годзе я быў ад'ютантам Васіля Іванавіча Казлова, камандзіра злучэння партызанскіх атрадаў Мінскай вобласці. Мне тады было ўсяго 10 год. Спаў у адным будане з камандзірамі, меў свой «Вальтэр». Выконваў розныя даручэнні, чытаў параненым газеты ў шпіталі — да вайны скончыў першы клас. Тады ж, у лесе, мне расказалі, што генерал В. Казлоў меў тайную сустрэчу з Налепкам, што рыхтуецца пераход славакаў да нашых партызанаў. Трэба сказаць, што яны перайшлі да нас не адразу: Налепка нейкі час вагаўся, але, адчуўшы моц партызанскага злучэння на чале з А. Сабуравым, урэшце прыняў станоўчае рашэнне.

**— А як лёс прывёў да партызанаў вас?**

— Разам з маці, партызанскай сувязной, мы жылі ў дзеда ў вёсцы Амговічы Слуцкага раёна. Дзед быў шаўцом, часта наведваў суседнія вёскі, да яго шмат хто прыходзіў, і паліцаі падумалі, што сувязны — ён. Уварваліся ў хату, вывалаклі на ганак і тут жа расстралялі. Нас, дзяцей, і маці — у халодную. Раніцай вывелі. Колю, які быў старэйшы за мяне на некалькі гадоў, прымусілі выкапаць яму і расстралялі каля яе. А пра мяне сказалі: «Ну, гэты шчанюк яшчэ не можа помсціць!..» І адпусцілі разам з маці. З ёй і пайшоў у лес...

Пасля вайны, скончыўшы школу, я паступіў у медінстытут, увесь час атрымліваў павышаную стыпендыю. У якасці спецыялізацыі абраў псіхіятрыю, бо хацеў больш ведаць пра чалавека, яго псіхалогію, чалавечыя стасункі... Адзінаццаць гадоў працаваў у Рэспубліканскай псіханеўралагічнай бальніцы.

І калі б не быў урачом, пэўна, ніколі б не напісаў сваю першую п'есу «Выклік багам» — пра маладую дзяўчыну, якая даведваецца, што яна невылечна хворая. Разам з каханым яны змагаюцца за жыццё. На сённяшні дзень п'есу паставіла 110 тэатраў. За 17 год у медыцыне я шмат чаго знайшоў, але, напэўна, і шмат згубіў. Пакуль вучыўся на ўрача, пакуль практыкаваў, мае цяперашнія калегі на журфаку і філфаку спасцігалі мову і гісторыю. Таму ўрэшце я вырашыў паступіць у Літінстытут імя М. Горкага ў Маскве — адчуваў, што не хапае ведаў.

**— Але прапанова напісаць сцэнарый да фільма пра Яна Налепку прыйшла раней?**

— Так. Калі ўжо ішла мая п'еса «Выклік багам», на кінастудыі вырашылі, што ім патрэбны ўрач-псіхіятр *(смяецца)*. Карацей, запрасілі на пасаду рэдактара. Натуральна, я не хацеў толькі сядзець у рэдкалегіі, таму працягваў пісаць. Напісаў сцэнарый пра бандытызм у Заходняй Беларусі ў пасляваенныя гады. Праўда, гэтая тэма тады была закрытая, і сцэнарый адхілілі, але ў кінематаграфічных колах і ў ЦК зразумелі, што я магу пісаць не толькі на лірыка-псіхалагічную тэматыку. Так да мяне трапіла прапанова напісаць сцэнарый пра Налепку. Да гэтага пісалі і славакі, але справа не пайшла. Сцэнарый генерала А. Сабурава не зацвердзілі, бо на першым плане ўвесь час быў ён сам разам з Налепкам. Тое, што напісаў я, задаволіла і нашу рэдкалегію, і Маскву, і славакаў. Фільм нават атрымаў прэмію за лепшы сцэнарый на міжнародным кінафестывалі ў Плзені.

**— Літінстытут вас не расчараваў, вы атрымалі там тое, што хацелі атрымаць?**

— Безумоўна. Як і паўсюль тады, былі, канечне, дысцыпліны кшталту марксісцка-ленінскай тэорыі, але месяц у Маскве, на сесіі, два разы на год, многае даў! Амаль кожны вечар хадзілі ў тэатр або на творчыя сустрэчы, мелі магчымасць вучыцца ў лепшых майстроў драматургіі. А гутаркі ў інтэрнаце? Гэта вельмі ўзбагачала!

**— Калі не лічыць псіхалагічную драму «Выклік багам», вы пачыналі з камедыі. Свядома або так склаліся абставіны?**

— Мне падабаецца камедыйны жанр. А ўвогуле, раней было вельмі складана пісаць камедыі. Усё было рэгламентавана, і не дай бог пераступіць рамкі. Цырульнікі, домакіраўнікі — амаль усе, з каго можна было жартаваць. Іншая справа цяпер. У Мінску якраз ідуць дзве мае камедыі: «Жанчына як сродак ад бяссоння» і «Каханкі майго мужа». Рыхтуецца і трэцяя.

**— Вашы творы часам называюць «камедыямі абсурду». Вы згодныя з такім азначэннем?**

— Так. Жыццё абсурднае, таму і камедыя абсурду. Абсурд у дадзеным выпадку не прыём і не самамэта. Гэта адлюстраванне рэчаіснасці, у якой, прыкладам, існуюць інтэлігенты-жабракі. Да слова, я пішу і сур'ёзныя рэчы. Апошняя з іх — драма «Карона кахання» пра лёс Янкі Купалы. П'есу паставілі ў Маладзечне, бо сталічным тэатрам яна падалася занадта вострай: адносіны паэта з яго каханай, Паўлінай Мядзёлка.

**— Як прымае пастаноўку публіка?**

— Вельмі хораша і шчыра. Калі даюць заслону, нават у мужчын на вачах часам заўважаю слёзы.

**— Вы — аўтар сцэнарыя да аднаго з лепшых беларускіх фільмаў, «Анастасія Слуцкая». Пра яго, аднак, даводзіцца чуць і крытычныя водгукі: маўляў, знялі блокбастар у галівудскім стылі…**

— Сцэнарый пісаўся дзеля сапраўднага кінавідовішча, якое павінна быць яркім, захапляць публіку. Калі б мы абапіраліся толькі на гістарычныя крыніцы (дзе фактаў — некалькі абзацаў), было б нецікава і сумна. Прыйшлі татары — Анастасія адбіла, прыйшлі зноў — адбіла зноў. Двое дзяцей у яе было, мужа атруцілі — вось усё, што дакладна вядома. Астатняе — наша фантазія ў адпаведным рэчышчы. І пра каханне, зразумела, у крыніцах няма. Але ж якая гісторыя без кахання?..

**— Якія фільмы апошніх гадоў зацікавілі вас найбольш?**

— «Сталінград» Фёдара Бандарчука. Яго, дарэчы, таксама ўпікалі ў «папсовасці», на што рэжысёр адказаў: "Я здымаў кіно не для ветэранаў, а для сённяшняй моладзі. Каб ёй было зразумела». Я цалкам згодны з яго пазіцыяй.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Музей: куды далей?

Напярэдадні 131-й гадавіны з дня нараджэння Песняра ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў межах літаратурнага свята «Каласавіны» прайшоў міжнародны «круглы стол» па тэме «Мемарыяльны музей і грамадства. Захаванне культурнай спадчыны. Музей ва ўмовах развіцця новых інфармацыйных тэхналогій». У ім бралі ўдзел спецыялісты мемарыяльных літаратурных музеяў Беларусі, Украіны, Расіі.

Прыехаўшы ў новы горад, мы перш за ўсё спяшаемся пазнаёміцца з мастацкім ці гістарычным музеем. Калі ж установа прысвечана адной асобе, значна складаней завабіць у яе сцены наведвальнікаў, гучала рэфрэнам падчас пасяджэння «круглага стала». Напрыклад, у Дом Коласа звычайна імкнуцца прыйсці тыя, хто любіць яго творчасць і хоча больш даведацца пра Песняра ці наогул пра творчасць беларускіх класікаў. Жыццё паказвае: тое, што было актуальна 20 гадоў таму, сёння не заўсёды ўспрымаецца, асабліва маладым пакаленнем.

— Мы імкнёмся ўвасобіць у жыццё ідэі і праекты, якія спрыялі б зацікаўленасці наведвальнікаў і адпавядалі патрабаванням часу, — зазначыла дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. — З гэтай мэтай у экспазіцыю ўводзяцца новыя комплексы, якія даюць магчымасць з дапамогай сучасных сродкаў атрымаць больш глыбокую інфармацыю. Завяршаецца праца па стварэнні «віртуальнай кнігі» «Паэтычная каласіяна», дзе будуць змешчаны рукапісы твораў, ілюстрацыі да іх, урыўкі з фільмаў і спектакляў, створаных паводле гэтых твораў Песняра. У музеі паспяхова працуе інтэрактыўны мультымедыйны комплекс «Якуб Колас. Чалавек. Эпоха», дзякуючы якому можна праверыць свае веды з дапамогай віктарыны, атрымаць паштоўку з выявай паэта і сябе, запісаць на дыск любімы твор класіка ў асабістым выкананні, зрабіць віртуальную вандроўку па мясцінах Песняра ў Беларусі і за яе межамі. Для ўзмацнення эмацыянальнага ўспрымання апошняму пра апошні дзень жыцця Якуба Коласа стварылі ў мемарыяльным кабінеце гукавую інтэрактыўную зону. Заключылі дамовы з адпаведнымі ўстановамі Расіі, Польшчы, Украіны і Літвы для ажыццяўлення сумесных праектаў.

Але, як прагучала падчас пасяджэння, асноўнае, што аб'ядноўвае падобныя музеі, — праблема захавання мемарыяльнасці ва ўмовах глабальнага тэхнічнага прагрэсу і разам з тым імкненне заставацца сучаснымі. Дык па якім шляху ісці далей?

— У наступным годзе ў Беларусі з'явіцца яшчэ адна мемарыяльная ўстанова — музей-дача Васіля Быкава, — паведаміў галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Дзмітрый Шляхцін. — Перад тымі, хто распрацоўваў яго канцэпцыю, узнікла пытанне: на што зрабіць большы акцэнт, каб стварыць комплекснае і цэласнае ўяўленне пра творчую спадчыну асобы. На мемарыяльнасць ці мультымедыйныя тэхналогіі, замежны досвед, уласныя «разынкі»? Плануецца, што музей-дача ахопіць усю навакольную прастору, распавядзе пра мінскі перыяд жыцця Васіля Быкава.

Дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча Таццяна Шэляговіч падзялілася з прысутнымі праблемамі, з якімі ёй як кіраўніку давялося сутыкнуцца падчас рамонту філіяла «Беларуская хатка» — аднапавярховага драўлянага будынка ў цэнтры Мінска, дзе Максім Багдановіч здымаў пакой. Выступоўца ўпэўнена, што мемарыяльнасць неабходна захоўваць усімі магчымымі сродкамі. Праўда, вельмі складана знайсці паразуменне з будаўнікамі, якія стараюцца выкарыстоўваць пры правядзенні рамонтных работ сучасныя тэхналогіі і матэрыялы. Як у такім разе захаваць дух будынка, яго аўтэнтычнасць? А вось калегі з Украіны зазначылі, што не бачаць нічога дрэннага ў замене тынкоўкі гіпсакардонам.

— Свет вакол музеяў мяняецца, грамадства трансфармуецца і такім чынам ставіць перад усімі новыя патрабаванні і выклікі, — падкрэсліла намеснік дырэктара па навуковай і адукацыйнай рабоце Нацыянальнага музея літаратуры Украіны (г. Кіеў) Раіса Сенікава. — Музеі вымушаны канкураваць паміж сабой і іншымі сацыяльнымі інстытутамі за ўвагу публікі. Гэта пастаянна трэба памятаць, каб захаваць актуальнасць, не страціць уплыў і эфектыўна выконваць сваю місію ў грамадстве.

Апошняе дваццацігоддзе ў гісторыі музейнай справы Украіны, магчыма, будзе адзначана як адно з самых дынамічных і ў той жа час напоўненых супярэчнасцямі. З аднаго боку, з'явілася новыя музеі, павялічылася іх разнастайнасць, назіраецца высокая актыўнасць у засваенні сучасных тэхналогій, праводзіцца шмат акцый, канферэнцый, фестываляў, форумаў, выставак, пашыраецца выдавецкая дзейнасць. Але ўзнікла шмат праблем, звязаных з развіццём сістэмы кіравання музейнымі ўстановамі і ўвасабленнем новых інфармацыйных тэхналогій.



Фота Кастуся Дробава

*Экскурсію перад пачаткам «круглага стала» праводзіць вядучы навуковы супрацоўнік Дома Коласа Ірына Казловіч.*

— Сёння ў музеяў вельмі складаная місія, бо, з аднаго боку, кожны ўяўляе сабой візітку для ўспрымання і разумення грамадствам цэлай дзяржавы, з другога — фарміруе ўнутраны свет асобы, — прадоўжыла распавед Раіса Сенікава. — Таму мы глыбока вывучаем сваю аўдыторыю, свайго наведвальніка, каб дазнацца, якія запыты найбольш актуальныя, адпаведна штосьці і прапануем. Імкнёмся своечасова адмаўляцца ад састарэлага, ашчадна размяркоўваем рэсурсныя магчымасці, цесна супрацоўнічаем з рэальнымі людзьмі, а заадно вызначаем памочнікаў і партнёраў для ажыццяўлення творчых праектаў.

Падчас пасяджэння «круглага стала» Літаратурна-мастацкі музей Марыны і Анастасіі Цвятаевых (г. Аляксандраў Уладзімірскай вобласці) прадставіў свой фільм-прэзентацыю. Здавалася б, якая сувязь паміж гэтай установай і Беларуссю? Летась у музеі беларуская Песняра таксама праходзіў «круглы стол», у якім бралі ўдзел супрацоўнікі шматлікіх музеяў, звязаных з імем Якуба Коласа. Дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пpановіч распавёў, што сядзіба іх установы нейкі час належала пісьменніку Яўгену Чырыкаву, які эмігрыраваў у Чэхію. Там ён жыў непадалёк ад Марыны Цвятаевай. Сябравалі сем'ямі. Дачка Я. Чырыкава Людміла Шнітнікава ілюстравала кнігу паэтэсы. У свой час убачыла свет кніга перапіскі М. Цвятаевай з мастачкай. Менавіта гэтае выданне вучоны сакратар аляксандраўскага музея Эльвіра Калашнікава і перадала ў падарунак коласаўцам.

**Раіса МАРЧУК**

# «Беларусь» — пра Беларусь

Кнігі выдавецтва «Беларусь», аднаго са старэйшых у краіне, стала займаюць высокія месцы ў рэйтынгах продажаў кнігарняў, з'яўляюцца лаўрэатамі Нацыянальных конкурсаў «Мастацтва кнігі». Больш за тое, сёлета гэта адзінае беларускае выдавецтва, якое мае права выдаваць буклеты і даведнікі з эмблемай Чэмпіянату свету па хакеі, які пройдзе ў нашай сталіцы ў маі 2014 года. Пра самыя яркія навінкі «Беларусі», пошук аўтараў і рынкаў збыту — наша гутарка з загадчыкам літаратурнай рэдакцыі гэтага выдавецтва Сяргеем Пешыным.

**— Так павялося, што выдавецтва «Беларусь» ужо шмат год спецыялізуецца на выпуску, так бы мовіць, кніг-сувеніраў: альбомаў, прадстаўнічых кніг, даведнікаў па розных гарадах. Ці застанецеся вы вернымі свайму профілю і надалей?**

— Мы застанёмся вернымі абранаму шляху і надалей, бо галоўны прынцып нашай працы, які склаўся цягам апошніх гадоў, — «Беларусь» пра Беларусь. Мы знайшлі сваю нішу на рынку кніг — гэта менавіта нацыянальная тэматыка, тое, чым адметная наша краіна. Не думаю, што нам патрэбна звяртаць увагу на тэматыку сусветных каштоўнасцей, у гэтай галіне працуюць многія славутыя выдавецтвы, у тым ліку расійскія. Нам хочацца паказваць свае адметныя рысы, таму ў выданнях разглядаем розныя аспекты беларускай гісторыі, культуры, прыроды. Сама тэматыка вымушае выдаваць кнігі, багата ілюстраваныя. Іх часта называюць альбомнай прадукцыяй, хоць гэта не заўжды альбомы ў класічным выглядзе. Хутчэй, добра ілюстраваная навукова-папулярная літаратура, бо ўсе ілюстрацыі суправаджаюцца падрабязнымі тэкстамі, якія пішуць вядомыя дзеячы культуры, навукоўцы. У такіх ёмістых выданнях ёсць што пачытаць і што пагладзець.

> *У нас за апошнія гады назіраецца проста ўзлёт культуралагічнай тэматыкі ў кнігавыданні. Яшчэ 20 гадоў таму было цяжка знайсці ўвогуле якую-небудзь кнігу на гэтую тэму.*

**— Вашы кнігі досыць грунтоўныя, вялікія, друкуюцца на добрай паперы. І гэта загадзя абумоўлівае іх не зусім нізкі кошт. Ці не звужаецца тым самым патэнцыяльная аўдыторыя такіх выданняў?**

— Калі разабрацца, то кнігі ніколі не былі таннымі. Калі згадваць савецкі час, то кнігі падобнага кшталту каштавалі рублёў 10-12, і на той час гэта абсалютна не танна. Ёсць народны спосаб параўнаць кошты — у пераліку на цану кілаграма каўбасы. Таму ці тагачасныя кошты ў «каўбасу» пераводзіць, ці сённяшнія, — кошт атрымліваецца аналагічны. Справа ў тым, што чалавек, які любіць кнігу, грошы на яе знойдзе. Чалавек, які кнігу не любіць, не будзе яе купляць — ні танную, ні дарагую. Таму, думаецца, наўрад ці можна казаць, што ў нас знікае чытач. Тут варта разважаць уласна пра культуру сучаснага грамадства, дзе бываюць перыяды ўсплёску і заняпаду.

Добрая кніга не можа быць абсалютна таннай, бо ў яе кошт закладзена праца многіх людзей. Аўтара, які некалькі гадоў збірае матэрыял і піша тэкст, фатографа, які ездзіць па краіне і робіць здымкі, мастака, які працуе над афармленнем выдання. Калі, да прыкладу, з нашай кнігі адкінуць элементы мастацкага афармлення, то



Фота Кастуся Дробава

гэта будзе зусім іншае выданне, яно не выкліча цікавасці і захаплення. Мы павінны прывыкаць да агульнаеўрапейскіх каштоўнасцей: ёсць аўтарскія правы, і кожны чалавек за сваю працу павінен атрымаць грошы. Канечне, усе выдаткі кладуцца на кошт кнігі. Калі ж зноў узгадаць старыя кнігі, то каляровыя ілюстрацыі ў іх былі сапраўднай рэдкасцю. Нават альбомы буйных маскоўскіх музеяў складаліся з чорна-белых фотаздымкаў. Але не думаю, што зніжаць якасць дзеля мінімальнага зніжэння цаны — добрае выйсце. Тым больш што шэраг нашых кніг падтрымліваецца дзяржавай, яны ўключаюцца Міністэрствам інфармацыі краіны ў спіс сацыяльна значных выданняў, што зніжае кошт. Таму калі зайсці ў кнігарню і параўнаць цэны кніг выдавецтва «Беларусь» і іншых, да прыкладу, аналагічных расійскіх выданняў, то бачна, што нашы кошты значна ніжэйшыя.

**— Поспех выдання ў многім залежыць ад аўтара, яго асобы і ўмення данесці інфармацыю да чытача. Як у гэтым аспекце наладжана дзейнасць выдавецтва «Беларусь»: аўтар прыходзіць да вас з гатовым рукапісам ці вы самі ў адпаведнасці з запатрабаванымі на рынку тэмамі падбіраеце аўтараў?**

— Бывае, што аўтар прыходзіць сам з прапановай рукапісу да друку, мы вывучаем тэкст, аналізуем, ці падыходзіць ён нашаму выдавецтву. З шэрагам аўтараў ужо маем сталыя сувязі, напрацаваныя гадамі. Мы чакаем, пакуль такі чалавек захоча нам прынесці чарговую кнігу. Бывае, пры вывучэнні рынку бачым, што нейкая тэма не раскрыта ў адпаведных выданнях, а яна магла б быць запатрабавана. Таму праз навуковыя ўстановы шукаем таго, хто мог бы напісаць кнігу па тэматыцы, якая цікавіць нас у дадзены момант.

**— У сегменце выдання літаратуры па гісторыі, культуры, прыродзе нашай краіны працуюць і іншыя выдавецтвы. Да прыкладу, «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», Выдавецкі дом «Звязда», «Харвест», некаторыя іншыя. Ці адчуваеце канкурэнцыю за аўтара, месца на рынку, чытача?**

— Канечне, канкурэнцыя існуе. Але я не сказаў бы, што яна значна ўскладняе сітуацыю, бо ёсць значныя тэмы, імёны. І калі нам удаецца атрымаць цікавы рукапіс значнага аўтара, то лічым гэта сваёй вялікай удачай. Да прыкладу, мы выдаём кнігі Яўгена Сахуты, а гэта вядомае імя ў сваёй галіне. І хто б што ні выдаваў, чалавек, які цікавіцца народным мастацтвам, набудзе кнігу Сахуты, бо гэта ў пэўным сэнсе брэнд. Мы выдаём альбомы Анатоля Клешчука, а гэта імя ў фотамастацтве, якому скласці канкурэнцыю вельмі цяжка. Думаецца, што варта весці гаворку пра канкурэнцыю з часам, са сродкамі.

У той жа час складана знайсці проста кнігу, рукапіс высокага ўзроўню. Калі яна ёсць, то няма чаго баяцца. Калі тэма цікавая, кніга прыстойна выдадзеная, надрукаваная на добрым паліграфічным узроўні, то, наадварот, варта радавацца. Радасна таксама, што ў нас за апошнія гады назіраецца проста ўзлёт культуралагічнай тэматыкі ў кнігавыданні. Яшчэ 20 гадоў таму было цяжка знайсці ўвогуле якую-небудзь кнігу на гэтую тэму. Калі ў 1980-я гады Нацыянальная акадэмія навук БССР выдавала шматтомную «Гісторыю беларускага мастацтва», то кожны новы том чакалі з вялікай нецярплівасцю. Сёння ж можна зайсці ў кнігарню і з прапанаванага шэрагу выбраць тое, што падабаецца больш. Таму пра канкурэнцыю такога ўзроўню, каб абсалютна нельга было ўціснуцца на рынак, казаць не варта. Ёсць што рабіць, ёсць каго выдаваць, але і выдавецтваў у нашай краіне не так шмат. З аднаго боку, іх многа ў спісе ўстаноў, зарэгістраваных Міністэрствам інфармацыі краіны, але тых, якія могуць «асіліць» фундаментальную кнігу, — адзінкі. Таму, па сутнасці, канкурэнтаў у нас не так і шмат, хіба толькі крыху спаборнічаем з «БелЭн імя П. Броўкі» і «Мастацкай літаратурай».

> *Чалавек, які любіць кнігу, грошы на яе знойдзе. Чалавек, які кнігу не любіць, не будзе яе купляць — ні танную, ні дарагую. Таму, думаецца, наўрад ці можна казаць, што ў нас знікае чытач.*

**— Ведаю, што кнігі выдавецтва «Беларусь» прадаюцца ў гасцініцах, музеях...**

— Мы актыўна шукаем кропкі збыту, дамаўляемся з рознымі арганізацыямі. Пастаўляем спачатку пробныя тыражы, а калі ўсё атрымліваецца, то выходзім на сталае супрацоўніцтва. Цяпер мы пачалі працаваць з Белавежскай пушчай, дзе прадаём наборы тэматычных паштовак. Нават гэтыя, па сутнасці, сувеніры стараемся рабіць як мага больш інфарматыўнымі, суправаджаем іх сур'ёзным тэкстам, які напісаў кандыдат біялагічных навук Ігар Бышнёў. Сёння час такі, што сядзець і чакаць, пакуль нехта прыйдзе і забярэ кнігі, нельга. Супрацоўнікі нашага аддзела маркетынгу часта ездзяць у камандзіроўкі па раёнах, і на продаж гэта вельмі сур'ёзна ўплывае: падчас кожнай з паездак рэалізуецца досыць вялікая колькасць кніг. Гэта больш дзейсны спосаб у параўнанні са звычайнай рассылкай прайс-лістоў, бо адна справа прачытаць спіс, проста пералік кніг, іншая — пагартаць выданне. Мы стараемся самі дайсці да чытача.

**— Якія з ліку апошніх выдадзеных кніг падаюцца найбольш яркімі і значнымі?**

— Галоўнымі нашымі праектамі гэтага года я лічу альбом «Беларусь», грунтоўны фаліянт, які, па сутнасці, і змяшчае ў сабе ўсю тэматыку нашых інтарэсаў, ён пабудаваны па прынцыпе гісторыка-этнаграфічнага раяніравання. Палессе, Падняпроўе, Панямонне, іншыя рэгіёны маюць свае яркія рысы, сваё імя, а Палессе ўвогуле можна лічыць своеасаблівым беларускім брэндам. Тут прадстаўлены гістарычныя, культурныя звесткі, краявіды прыроды, нарысы пра найбольш славутыя мясціны. Пагартаўшы такую кнігу, можна скласці цэласнае ўяўленне пра нашу краіну. Тэкст напісаў вядомы гісторык Сяргей Тарасаў. У падтрымку даволі дарагіх з-за свайго аб'ёму і якасці праектаў мы робім больш танныя і простыя варыянты — кнігі амаль кішэннага фармату, у мяккай вокладцы перадаюць тую ж інфармацыю, толькі ў больш сціслай форме. Такія выданні звычайна разлічаны на турыстаў. Вось і альбом «Беларусь» можна пабачыць у больш сціплым варыянце.

Наступны цікавы праект, што пабачыў свет сёлета, — кніга «Мінск. Сэрца Беларусі». Асобныя раздзелы прысвечаны горадабудаўніцтву, архітэктуры, спорту, месцам адпачынку. Паколькі адметнай датай наступнага года будуць сотыя ўгодкі пачатку Першай сусветнай вайны, значным для нас з'яўляецца выхад кнігі кандыдата гістарычных навук Валянціны Бяляевай «Беларусь у гады Першай сусветнай вайны». Аўтарам сабраны проста ўнікальны архіўны матэрыял. У выданне ўвайшлі сотні фотаздымкаў менавіта тых часоў, зробленыя фатографамі як з боку расійскай арміі, так і з нямецкага боку. І гэта не сухая навуковая манаграфія, тэкст кнігі цікавы і чытэльны.

Мы заўжды выдавалі шмат гістарычнай літаратуры, і гэта вымусіла нас паглядзець на тэму шырэй. Была заснавана новая серыя «Беларуская гісторыя», у межах якой ужо пабачылі свет дзве кнігі. Гэта даследаванні, прысвечаныя не агульнай гісторыі краіны, а найбольш цікавым і яркім яе з'явам, перыядам. Так, ужо выйшла кніга Лады Клімуць «Сармацкая культура беларускай шляхты у XIV — XVI стст.», а таксама даследаванне Вольгі Корсак «Таямніцы беларускіх абярэгаў». Вельмі добра, што наша гісторыя пачынае персаніфікавацца, становіцца больш дэталёва вывучанай. Раней ведалі, што былі Радзівілы, — і ўсё на гэтым. Цяпер жа ёсць што пачытаць, каб зразумець, чым беларускае жыццё адрознівалася ад літоўскага, польскага, расійскага.

Кнігі пра мастацтва — заўсёды ў ліку прыярытэтных кірункаў нашай працы. Сёлета выйшла новае даследаванне Яўгена Сахуты «Сучаснае народнае мастацтва Беларусі». Будзем працягваць і ўжо добра вядомую серыю «Славутыя мастакі з Беларусі». З ліку апошніх у яе межах выйшлі кнігі «Павел Масленікаў» і «Міхаіл Савіцкі», цяпер рыхтуецца выданне пра мастака Якава Кругера.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Бібліятэка — італьянская веранда?

Вось і надышоў апошні восеньскі месяц. Камусьці гэты сезон прыносіць радасць, а некаму — сум. Але несумненна адно: энергіі і бадзёрасці становіцца менш і ў адных, і ў другіх. Таму ўсе часопісы і інтэрнэт-парталы па псіхалогіі поўняцца прапановамі не сумаваць з нагоды надыходам восені, а пастарацца знайсці тысячу і адну прычыну, каб палюбіць залатую госцю.

Думаецца, мінчанам любіць восень стала намнога лягчэй, бо пачатак лістапада прыемна здзівіў многіх з нас. Асабліва тых, хто праходзіў у цэнтры сталіцы. І нагода для здзіўлення была самая... кніжная! У адну ноч на плошчы Якуба Коласа вырасла сем стэндаў. Падыходзіш крыху бліжэй і думаеш: «Ды гэта ж кніжныя шафы!» Так, у цэнтры Мінска «вырасла» электронная бібліятэка. На стэндах прадстаўлены вокладкі каля 700 твораў сусветнай, рускай і беларускай класікі. На кожнай размешчаны QR-код, з дапамогай якога можна спампаваць твор з інтэрнэту.

І нібыта знарок, гэтымі ж днямі ў сеціве я натрапіла на лекцыю Ніла Геймана. У сваім выступленні ён прамаўляў не толькі як пісьменнік, але і як чытач, які пераконвае за літаратуру, неабходную чалавеку як паветра. Асабліва кранальна выглядае апісанне яго дзіцячых гадоў, праведзеных у бібліятэках. Уся радасць, увага і павага, якія маленькаму Нілу падарылі бібліятэкары, сёння ператварыліся ў цвёрдае перакананне: «Бібліятэка — гэта свабода чытаць».

Калісьці мы з вамі ўжо разважалі пра перспектывы гэтых кнігасховішчаў у сучасным свеце. Сёння наведвальнік глядзіць на іх лёс яшчэ больш сумнымі вачыма, чым на лёс папяровай кнігі ў цэлым. Чамусьці стала прыкметай добрага тону і абавязковым атрыбутам сучаснага чалавека раней часу хаваць усё, што звязана з класічнымі мадэлямі існавання вынаходніцтва Гутэнберга. У той жа лекцыі Гейман кажа: «У XXI стагоддзі людзі не зусім разумеюць, што такое бібліятэкі і якое іх прызначэнне. Калі вы ўспрымаеце бібліятэку як паліцу з кнігамі, то яна можа вам падацца старой і несучаснай у свеце, дзе большасць, але не ўсе кнігі існуюць у электронным выглядзе. Але гэта фундаментальная памылка».

Рэфармацыя патрэбная, толькі разумная. Не трэба браць прыклад з таго, што зрабілі ў Вялікабрытаніі. Там бібліятэчны праект праваліўся. Папяровыя кнігі замянілі электроннымі, стварыўшы ў пэўным сэнсе звычайны інфармацыйны цэнтр. Меркавалася, што гэта дапамога адаптавацца да брытанскага жыцця новым англічанам — імігрантам. Вынік жа апынуўся прама процілеглы. Таму задача заключаецца не ў тым, каб злучыць як мага больш тэхнічных навінак, а зрабіць гэта з розумам і душой.

Да прыкладу, у італьянцаў ёсць даўняя традыцыя збірацца на верандзе кавярні за доўгім сталом і абмяркоўваць жыццё. Але там сонца, мора і аліўкі. У нас жа больш як 300 дзён холаду, ветру і дажджоў. Значыць, бібліятэкі і павінны стаць нашымі італьянскімі верандамі, куды людзі будуць прыходзіць па навіны, парады і дапамогу. Пры гэтым кожная бібліятэка павінна захоўваць сваю выключнасць і непаўторнасць. Бо навіны навінамі, але калі вы пішаце дысертацыю пра станаўленне Полацкага княства, то бібліятэка з фондамі, запоўненымі мастацкай літаратурай, у любым выпадку прайграе Нацыянальнай бібліятэцы з багатым набыткам рэдкіх старажытных дакументаў. Таму асноўная задача бібліятэк — стаць месцам сустрэч, захаваўшы пры гэтым свой унікальны твар і спецыфіку.

## Паралелі

# Нібыта ў страшным сне

Памятаеце, у дзяцінстве мы глядзелі фільмы жахаў, якія былі надзвычай папулярныя ў пачатку 1990-х, самі страшна баяліся, але ў школе падчас перапынкаў абмяркоўвалі з аднакласнікамі, што было зусім не страшна? А памятаеце першую страшную кніжку, пасля прачытання якой нават ступіць уночы на падлогу было рызыкоўна — бо з-пад ложка магла вылезці пачвара ці злая лялька з нажом? А прыгадваеце, як з сябрамі збіраліся ўвечары і распавядалі гісторыі пра дзіўных істот, якія жывуць на даху вашага дома і страшна скуголяць, пра труны на колах…



Нават нягледзячы на тое, што Хэлоўін ужо прайшоў, а значыць, цёмныя сілы пахаваліся на зіму, доўгія восеньскія вечары натхняюць менавіта на чытанне страшных кніг, прагляд фільмаў жахаў або проста коміксаў ці малюнкаў з вампірамі, зомбі ды іншай нежыццю. Таму, думаецца, якраз цяпер варта прыглядзецца да работ папулярнага амерыканскага мастака, ілюстратара, аўтара многіх графічных раманаў Рычарда Сала. На яго работах можна пабачыць і кэралаўскую Алісу, і дойлеўскага Шэрлака, і класічных… вампіраў.

**— Рычард, многія вашы работы прысвечаны раскрыццю вобразаў злых, цёмных істот. Чаму так?**

— Гісторыі, якія мне падабаецца распавядаць, поўныя загадак і інтрыгуючых момантаў. Мабыць, гэтыя вобразы маюць свае карані ў адзінокім дзяцінстве, напоўненым зачараванасцю светам, такім дзіўным, чужым і пагрозлівым. Гісторыі, што мне падабаецца распавядаць, маюць сюжэты, дзе галоўнымі героямі з'яўляюцца цёмныя сілы і злавесныя матывы. Каб вырашыць загадку, патрэбна кантраляваць зло, якое нібыта хаваецца «за сцэнай», і асвятліць яго страшны твар.

**— Чаму менавіта вампір стаў адным з вашых любімых персанажаў?**

— Калі не лічыць ілюстрацый да кнігі «Дракула», якія я рабіў да адаптаванага выдання Сціва Найлса ў 2005 годзе, насамрэч я з'яўляюся аўтарам толькі аднаго графічнага рамана пра вампіраў. Гэта «Пекулія і вампіры з гаю Грун», што пабачыў свет у 2006 годзе. Але я зрабіў шмат малюнкаў вампіраў. Вампіры падаюцца рабамі свайго голаду, і гэты канфлікт мне падабаецца ўвасабляць у ілюстрацыі.

**— Якія фільмы, кнігі натхняюць вас на стварэнне выяў вампіраў у ілюстрацыях, коміксах?**

— Ці быў калі-небудзь вампір, больш страшны і злы, чым граф Орлак з фільма «Носферату» Фрыдрыха Мурнаў 1922 года? Для мяне гэта дасканалы вобраз вампіра, няспынна і змрочнага стварэння, якое мае смагу да крыві. Але я таксама вельмі захапляюся вампірамі са старых фільмаў — ад Бела Лугошы да Крыстафера Лі, усімі тымі, хто насяляе многія вар'яцкія малабюджэтныя фільмы з розных краін свету. У цэлым мне больш падабаюцца старыя нязвыклыя і дзіўныя вобразы, чым новыя, сучасныя, пазбаўленыя мастацкай вартасці.

**— Класічны вобраз вампіраў, зомбі значна трансфармаваўся ў сучаснай культуры…**

— Сапраўды, але мне больш падабаецца панурая атмасфера старых жахлівых гісторый — паўзучыя цені, кашчавыя рукі, якія павольна набліжаюцца да герояў з цемры. Гэтыя вобразы пранікаюць у маю падсвядомасць і паступова ўваходзяць у сны. А сучасныя фільмы пра зомбі ці вампіраў больш падобныя да прыгодніцкіх стужак ці «экшну», чым да фільмаў жахаў.



**— З якіх крыніц вы чэрпаеце натхненне?**

— Старыя кнігі і фільмы жахаў, нямецкі экспрэсіянізм і старыя серыялы, Фантамас і Ірма Вэп, Дарыя Арджэнта і Альфрэд Хічкок, майстэрскія злачынцы і навукоўцы-вар'яты, музеі васковых фігур і дамы з прывідамі, доўгія прагулкі ў цемры, успаміны і страхі дзяцінства, прыгожыя жанчыны з храбрымі сэрцамі...

**— Як лічыце, хто чытач вашых кніг, коміксаў?**

— Мне падабаецца думаць, што мае чытачы — разумныя людзі з добрым пачуццём гумару.

**— Які жанр больш прывабны для вас?**

— Люблю маляваць, але таксама хачу распавядаць гісторыі. Вось чаму я стаў мастаком, які малюе коміксы!

**— Ці ёсць нейкая работа, кніга, якой вы асабліва ганарыцеся?**

— Вельмі часта аўтар схільны бачыць у сваіх працах толькі недахопы. І для мяне быць не цалкам задаволеным працай — досыць звыклае пачуццё. Але ў той жа час яно падштурхоўвае да жадання зрабіць больш. І калі б я быў задаволены нейкай адной кнігай, то, магчыма, іншых і не зрабіў бы. Сказаўшы гэта, усё ж зазначу, што ў ліку маіх любімых — «Уотсіт, які пасмейваецца». Магчыма, таму, што гэты графічны раман быў першым складаным і доўгім, які я распрацаваў зрабіць. І цяпер памятаю хваляванне, страх, выклік сабе, якія я адчуваў, калі працаваў над гэтым коміксам.

**— Як увогуле выкрышталізоўваецца праца, што спачатку — тэкст ці вобраз?**

— З'яўляецца агульная ідэя, потым сюжэт, а потым асобныя вобразы ці сцэны.

**— Вам больш падабаецца маляваць гатовыя вобразы ці адпрацоўваць новыя сцэны, прадумваць новыя інтэрпрэтацыі ўжо знаёмых герояў?**

— І першае, і другое мне настолькі даспадобы, што складана выбраць нешта адно.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**малюнкі Рычарда Сала**

# Лепей раз прачытаць…

Калі прадстаўляюць Вячаслава Адамчыка, заўжды кажуць: «Выдатны беларускі пісьменнік, «шасцідзясятнік», лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа, Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа». Але «шасцідзясятнікаў» у нас многа, выдатных пісьменнікаў — яшчэ больш, а прэміі зусім не паказальнік і не пацвярджэнне таленту.

У Адамчыка ж быў не проста талент — вялікі дар спляатаць са слоў, да якіх мы прызвычаіліся яшчэ з дзяцінства, магічнае палатно, адарвацца ад якога немагчыма.

Кажуць таксама, што творчасць Вячаслава Адамчыка засталася недаацэненай. Тут мы пагодзімся. Але імя яго, прынамсі, не забытае. Так, зусім нядаўна яго ўзгадвалі ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь — на вечары памяці: творцу магло б споўніцца 80 гадоў.

Вечар «І скажа той, хто народзіцца…» (так называецца адзін з раманаў славутай тэтралогіі Адамчыка) быў арганізаваны ўласна бібліятэкай, Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры і сынам пісьменніка — Адамам Глобусам.

Як на любым з памятных вечароў, тым больш — юбілейных, сабраліся сябры і калегі юбіляра, родзічы з сем'ямі. Так, пра Вячаслава Адамчыка расказвалі Адам Мальдзіс, Міхась Тычына, Віктар Шніп і Алесь Бадак. Спадар Адам прыгадаў, як у спрэчцы з Караткевічам жартам яны вызначылі плыні, у якіх пішуць Караткевіч і Адамчык: першы — рэаліст рамантычны, другі — рэаліст «класічны».

— І я думаю, што вось гэты «класічны рэалізм» — ён жывучы, трывушчы. Ён дачакаецца і дваццаць другога стагоддзя.

Алесь Бадак працаваў пэўны час у «Бярозцы» разам з Вячаславам Адамчыкам. Ён распавёў, як падчас службы ў войску — а служыў ён у далёкай Манголіі — сям'я Адамчыкаў падтрымала яго, самотнага юнака, даслаўшы кнігу, у якую ўвайшоў і яго твор.

— Гэты іх ліст і гэтая кніга сталі для мяне настолькі важнымі, што і сёння іх захоўваю. А потым я адкрыў для сябе прозу Вячаслава Адамчыка, і не толькі тую, якую праходзяць па школьнай праграме. Памятаю, быў ашаломлены яго апавяданнем, якое называецца «Пах летняй травы». Яго нельга пераказаць. Яно расказвае пра тое, як герой прыязджае ў вёску. І ўсё. Ён проста апісвае свае пачуцці — усю дарогу, пакуль едзе да маці і думае пра яе. І кожны сказ апавядання быў напісаны быццам бы пра мяне — так мне ўяўлялася… Калі ж у 90-х я пачынаў працаваць у «Бярозцы», мяне папярэджвалі: у Адамчыка такі цяжкі, такі складаны характар… Але скажыце мне: у каго з класікаў характар быў просты? Узяць таго ж Караткевіча ці Быкава... Просты характар у графаманаў, чалавек самабытнага таленту мае вельмі самабытны характар. А Вячаслаў Адамчык цярпець не мог фальшу, аўтараў, якія абы-якава ставяцца да слова. І вельмі любіў моладзь. Веру, што беларуская літаратура абновіцца і стане больш цікавай.

Вечар апрача ўспамінаў усцешыў двума сюрпрызамі: адно апавяданне зачытаў артыст Алег Вінярскі, а потым кожны з гасцей вечара атрымаў у падарунак кнігу Вячаслава Адамчыка — зборнік апавяданняў «Нязрушаны камень». І гэта цудоўна. Бо, пагадзіцеся, адна прачытаная кніга пісьменніка зробіць больш, чым тысячы слоў пра яго.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Ничто не вечно под луной

Анна Гавальда в своей книге **«Луис Мариано, или Глоток свободы (с последствиями)»**, изданной при поддержке ООО «Харвест», рассказывает историю о Гаранс Ларьо, маленькой девочке в душе и взрослой женщине по паспорту. Женщине, живущей в обшарпанной доисторической квартирке с «удобствами» в общем коридоре, крикливыми соседями, вонью и грязью.




Она не унывает, не спивается и тем более не кончает жизнь самоубийством. Она искренне радуется каждому дню. В конце концов, зачем унывать, если у тебя есть замечательная поддержка двух братьев и сестры?

**«Луис Мариано, или Глоток свободы (с последствиями)»** — это книга о самом настоящем, самом глубоком, самом заветном глотке свободы, о желании всё бросить и изменить себя, в первую очередь, о счастье осознавать, что свою жизнь мы раскрашиваем сами, о таланте изменять будни и, наконец, о судьбоносной встрече, благодаря которой мы решаемся на перемены.

Гаранс Ларьо и её брат Симон вынуждены выслушивать недовольства Карины, жены Симона. Так случилось, что им вместе пришлось ехать на свадьбу к родственникам. Из-за неприязни Карины к братьям и сёстрам мужа возникает словесная перепалка. Бедная жена Симона едва не бьётся в истерике, когда узнаёт, что с ними поедет ещё одна из рода Ларьо — старшая сестра Лола.

С частыми вынужденными остановками они всё-таки прибывают на место назначения и узнают от матери, что последний из «таинственной четвёрки», Венсан, не сможет приехать. Оторопев от внезапной новости, Лола, Гаранс и Симон бросают всё и уезжают к родному брату в замок, где он подрабатывает. Они могут курить в салоне, громко хохотать и напевать любимые песни, что не могли сделать ранее, потому как незадолго в этом же салоне сидела Карина, жена Симона и вечная психопатка, которой всюду мерещатся микробы, болезни и прочая недружественная биологическая среда.

По пути Гаранс обращает внимание на собаку, брошенную или заблудившуюся, покалеченную, худую. Гаранс настаивает на остановке, но её никто не слушает.

Наконец они приезжают к брату. Восторженные крики, счастье, улыбки на лицах — и вся четвёрка расхаживает по замку, оглядывая окрестности. После они отправляются на свадьбу к родственникам Ноно, работающего с Венсаном. Спортивный зал, где под баскетбольной сеткой восседает новоиспечённая семья, отсутствие свежего воздуха, куча пьяных, невоспитанных, потных мужчин.

Поразительно, но «великолепная четвёрка» чувствует себя среди своих. По крайней мере, лучше, чем если бы остались на той свадьбе, которую они скоро покинули.

Следующим утром Гаранс видит ту самую собаку, которая из последних сил подползает к её ногам. Собаку берут домой.

Позже, бродя по ночным улицам города с безымянным псом, Гаранс решается на поступки, которые, быть может, никогда не смогла бы совершить. Она обругала надоевшую консьержку, оставила ключи от квартиры, уволилась с работы и отправилась в замок, где работал Венсан. Словом, бросила свою прежнюю жизнь.

Анна Гавальда в романе «Луис Мариано, или Глоток свободы (с последствиями)» сказала главное: «Иногда стоит бросить всё или изменить свою жизнь и помнить, что ничто не вечно под луной».

**Наталья УСЕНКО**

# Обучение — с увлечением

Ваш ребёнок не хочет учиться, потому что считает это занятие скучным и неинтересным? Вы абсолютно не знаете, как заставить его запоминать слова и рассказывать стихи наизусть?




Больше заставлять не придётся! **«Мой первый словарь русского языка»** под редакцией Марии Тихоновой, изданный при участии ООО «Харвест», сделает эту работу за вас.

Небольшой и лёгкий школьный иллюстрированный словарь для учеников младших классов обязательно привлечёт внимание вашего ребенка. И дело не только в мягкой и приятной на ощупь обложке яркого цвета. Внутри также можно найти много привлекательного, интересного, а самое главное, полезного для качественного обучения. Легко и доступно словарь ознакомит вашего ребенка с самыми употребляемыми в начальных классах словами, предложит массу увлекательных загадок, головоломок и поговорок, а также поможет закрепить знания яркими иллюстрациями.

В словаре собрано более пятисот слов, которые наиболее активно используются в школьной программе начальных классов. Рядом с каждым словом указываются все его грамматические формы, над нужной буквой не только стоит знак ударения, но для лучшего восприятия она ещё и выделена красным цветом.

Словарь оформлен красочными иллюстрациями, что сделает процесс обучения не только эффективнее, но и ярче. А если ребёнку вдруг надоест учиться или нечем будет заняться на перемене, то в конце словаря он сможет найти забавные ребусы, за решением которых время пролетит незаметно.

Эта книга поможет младшим школьникам научиться грамотно писать и читать, правильно образовывать грамматические формы, а также развивать и тренировать память.

**Анна ЗАПЛЕЧНИКОВА**

# Чёрный кот и белая полоса

Евгения Истомина возвращается в Москву из Америки, что называется, с разбитым сердцем. Волею случая к ней на некоторое время попадает чужой чёрный кот, который начинает странным образом влиять на её дальнейшую жизнь…




Роман Екатерины Вильмонт **«Прощайте, колибри, хочу к воробьям!»**, который вышел при поддержке ООО «Харвест», окунает нас в мир страстей, одиночества, предательства, дружбы и любви.

Если вы молодая, преуспевающая в своей профессии женщина, с перспективами и амбициями, эта книга способна вмиг поменять свою жизнь, эта книга для вас. Евгения Истомина — заботливая сестра, талантливый руководитель, потрясающая женщина и просто хороший человек. Её не пугают препятствия, неприязнь жены брата, неудачи и конфликты... Но в один из тихих, ничем не примечательных дней меняется всё. Брат отказывается от услуг Евгении, и та решает уехать в некогда родную, уютную Москву, чтобы начать жизнь с чистого листа.

А далее — встреча с бывшим мужем, подругой, однокурсником, мужчиной средних лет, настоящими друзьями и… котом. Котом, который вмиг меняет всё. Евгении предстоит разобраться в чувствах, устроиться на работу, отказаться выйти замуж и, наконец, встретить свою настоящую любовь. И поможет ей во всём этом чёрный кот!

Книга Екатерины Вильмонт окунёт вас в сказочный мир, где сбываются даже смелые мечты.

**Наталья УСЕНКО**

# Стильный интерьер? Легко!

В начале 2013 года в московском издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест» вышла новая книга по дизайну интерьера. Автор Керрин Харпер давно работает в этом направлении, и на данный момент на её счету уже три книги, написанные в подобном стиле. В издании **«Ваш дом. Стили интерьера»** описано 10 стилей интерьера с упором на национальное разделение. Например, традиционный английский стиль, кантри-стиль, лофт-стиль, восточный и многие другие.

Книга является увлекательным, а главное, наглядным, обучающим пособием для начинающих дизайнеров или заказчиков. В данном случае посоветуем сначала всё внимательно прочитать, а уже после рассматривать яркие фотографии. Здесь достаточно подробно расписаны составляющие, применяемые материалы и способы оформления в каждом стиле. Эта информация поможет вам определиться со стилистическим решением дома.




В книге имеется тест, который придётся по вкусу всем читателям. Кто-то благодаря ему выберет личный стиль в интерьере, кто-то проверит самого себя, а кто-то попросту развлечётся. Первым пунктом теста является предложение автора «реально взглянуть на свою жизнь», второй пункт — «быть верным собственному Я», третий — «Правильный декор подчеркнёт стиль и возраст вашей собственности».

Помимо прочего, Керрин Харпер рассказывает читателю, как пользоваться книгой, и даёт советы, с чего стоит начать выбор интерьера.

Если вы готовы бросить вызов своему вкусу, образу жизни, если вам требуются перемены, то эта книга для вас.

**Екатерина СТАСЁНОК**

# Банный бум

Как построить баню грамотно со строительной точки зрения? Какие материалы использовать в работе? Как сделать новое здание не только приятным, комфортным, но и безопасным?




На эти и многие другие вопросы читатель найдёт ответы в книге Юрия Шухмана **«Бани и сауны»**, которая вышла при поддержке ООО «Харвест» в серии «Строим быстро и расчётливо».

Многие удивятся: зачем нам книга, если столько информации можно найти в Интернете, на строительном рынке предостаточно разных материалов, да и практически каждый мужчина — сам себе строитель? Однако не так всё просто. Нужно уметь «отделять зёрна от плевел», сортировать информацию, консультироваться со специалистами — и даже в этом случае их мнения могут разойтись. Квалифицированным помощником в работе станет именно это издание. Оно не только посоветует правильные решения, познакомит с классификацией бань, но и поведает историю этого феномена мировой культуры быта. Специальный «Банный словарь» поможет начинающему строителю научиться ориентироваться в терминологии, познакомит с новыми терминами и понятиями.

**Чеслава ПОЛУЯН**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

### Беларуская літаратура

**Как Лиса Волка судила**: [белорусская народная сказка: для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-7056-07-1.

**Легкий хлеб**: [белорусская народная сказка: для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-7056-01-9.

**Любоў здраду асіліць**: беларускія народныя казкі пра асілкаў / [мастак Тамара Шэлест; укладанне Алены Масла]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 130 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1395-2 (у пер.).

**Чорная панна Нясвіжа**: зборнік беларускай драматургіі: [для старэйшага школьнага ўзросту / складальнік К. І. Лабецкая]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 261 с. — 32319 экз. — ISBN 978-985-11-0698-7 (у пер.).

**Якімовіч, А. М.** Хітрая ліса: апавяданні, казкі: [для малодшага школьнага ўзросту] / А. М. Якімовіч; [мастак У. С. Пашчасцеў]. — Мінск: Народная асвета, 2013. — 96 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2038-4.



***Трафімчык, А. В. Якуб Колас — вядомы і невядомы / А. В. Трафімчык. — Мінск: Ковчег, 2012. — 139 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7055-28-9.***

*Ці можа Якуб Колас, такі знаёмы пісьменнік, чыя творчасць блізкая, бадай, кожнаму школьніку, які хоць трохі цікавіцца беларускай літаратурай, быць нечаканым? Ці можа ўважлівы даследчык знайсці невядомыя факты пра яго жыццё? Ці можа навуковая манаграфія стаць папулярнай кнігай? Адказ на ўсе тры пытанні адзін: можа! І гэтае выданне — добры гэтаму доказ. У сваім даследаванні Анатоль Трафімчык нібыта прыадкрывае заслону малавядомых падзей жыцця класіка, ён «абнаўляе» ўжо «хрэстаматыйныя» факты пра Песняра і распавядае пра новыя аспекты творчасці Коласа.*

### Тэорыя літаратуры

### Беларуская літаратура

**Актуальныя праблемы сучаснага літаратурнага працэсу**: зборнік матэрыялаў рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі, Брэст, 21 лютага 2012 г. / [пад агульнай рэдакцыяй З. П. Мельнікавай]. — Брэст: БрДУ, 2013. — 238 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 50 экз. — ISBN 978-985-473-998-4.

**Літаратурныя ўзаемасувязі Віцебшчыны і Латгаліі**: зборнік навуковых артыкулаў / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. П. М. Машэрава; [навуковы рэдактар: В. І. Русілка]. — Віцебск: ВДУ, 2013. — 93 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 50 экз. — ISBN 978-985-517-385-5.

**«Максім Багдановіч і яго час», навукова-краязнаўчая канферэнцыя (2011).** Матэрыялы навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Максім Багдановіч і яго час»: да 120-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры (28 красавіка 2011 г.) / [падрыхтоўка тэксту і ўкладанне: Міхась Казлоўскі]. — Маладзечна, 2011. — 50 с. — 30 экз.

**Петрушкевіч, А. М.** Наталля Арсеннева. Шлях да Беларусі: манаграфія / Ала Петрушкевіч; [прадмова А. М. Пяткевіча; пад рэдакцыяй А. М. Пяткевіча]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 179 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7057-44-3.

**Трафімчык, А. В.** Беларуская дзіцячая драматургія / А. В. Трафімчык. — Мінск: Ковчег, 2012. — 127 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7055-29-6.

**Храм Фёдара Палачаніна**/ [укладальнік Іван Жукаў]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 91 с. — 360 экз. — ISBN 978-985-7057-35-1 (упер.).

**«Шляхамі сейбітаў і ратаяў», навукова-краязнаўчая канферэнцыя (2012).** Матэрыялы навукова-краязнаўчай канферэнцыі «Шляхамі сейбітаў і ратаяў»: да 100-годдзя з дня нараджэння паэтаў МаксімаТанка і Пятра Бітэля (19 красавіка 2012 г.) / [падрыхтоўка тэксту і ўкладанне Міхася Казлоўскага]. — Маладзечна, 2012. — 40 с. — 30 экз.

## ГІСТОРЫЯ

### Краязнаўства

**Люди. Факты. События, 2012–2013** / Республиканское унитарное предприятие «Белорусское телеграфное агентство»; [под общей редакцией Д. А. Жука]. — Минск: БелТА, 2013. — 171 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6828-95-2.

**Тухта, В. У.** Нататкі з краязнаўчага сшытка: [матэрыялы па гісторыі Лепельшчыны] / Валерый Тухта. — Мінск: Медысонт, 2013. — 122 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6982-73-9.

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Зональный государственный архив в г. Барановичи**: путеводитель: (1939–1941, 1944–2010) / Главное управление юстиции Брестского облисполкома, Зональный государственный архив в г. Барановичи; [составители: О. И. Шершень (ответственный составитель), П. Ф. Жилинский; редколлегия: Г. В. Лысенко, О. И. Шершень]. — Несвиж: Несвижская укрупненная типография, 2012. — 447 с. — 67 экз. — ISBN 978-985-6796-83-1 (в пер.).

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Рис, Л.** Сталин, Гитлер и Запад: тайная дипломатия великих держав / Лоуренс Рис; [перевод с английского А. Л. Уткина]. — Москва: Астрель, 2013. — 574 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-42260-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1563-6 (Харвест) (в пер.).

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Бетанов, И. О.** Великая Отечественная война советского народа: учебно-методическое пособие для самостоятельной работы студентов 1-го курса всех факультетов медицинских вузов / И. О. Бетанов, А. А. Сироткин; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Кафедра общественно-гуманитарных наук. — Гомель: ГГМУ, 2013. — 53 с. — 320 экз. — ISBN 978-985-506-524-2.

**Великая Отечественная война**: в контексте Второй мировой войны: [для студентов / Г. В. Алексашина и др.]. — Минск: Экоперспектива, 2013. — 177 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-469-448-1.

**Кузнецов, И. Н.** История России: школьный курс в таблицах и схемах: [для выпускников и абитуриентов] / И. Н. Кузнецов. — 2-е изд. — Минск: Букмастер, 2013. — 315 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-658-9.

**Мартынюк, А. В.** Средневековая Русь. Хрестоматия: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по историческим специальностям: в 2 ч. / А. В. Мартынюк. — Минск: РИВШ, 2012. — 500 экз. — ISBN 978-985-500-585-9.

Ч. 1. — 285 с. — ISBN 978-985-500-584-2.

Ч. 2. — 241 с. — ISBN 978-985-500-586-6.

**Розенберг, А. Я.** Евреи СССР в Великой Отечественной войне / Александр Розенберг. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 247 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7035-33-5 (в пер.).

### Гісторыя Беларусі

**Ковалев, А. Ф.** За родную Беларусь: воспоминания фронтовика / А. Ф. Ковалев; [иллюстрации автора]; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный университет им. П. М. Машерова. — Витебск: ВГУ, 2013. — 134 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-517-378-7.

**Мірскі замак у кантэксце падзелаў Рэчы Паспалітай і вайны 1812 г.**: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (г. п. Мір, 16 чэрвеня 2012 г.) / [навуковы рэдактар В. М. Папко]. — Мінск: Медысонт, 2013. — 168 с. — Частка тэксту на рускай мове. — У надзагалоўку: Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Музей «Замкавы комплекс «Мір». — 200 экз. — ISBN 978-985-6982-77-7.

**Ня бойцеся ахвяраў і пакут!** = Do not be afraid of sacrifices and sufferings!: дакументы і матэрыялы пра дзейнасць мядзельска-смаргонскага антыкамуністычнага падзем'я (1948–1950-я гг.) / [укладальнік Міхась Чарняўскі]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2013. — 152 с. — Частка тэксту на англійскай і рускай мовах. — 500 экз. — ISBN 978-985-7062-05-8.

**Подлипский, А. М.** Партизанский парад в Витебске / Аркадий Подлипский. — Витебск: Витебская областная типография, 2013. — 62 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-534-030-1.

**Пресняков, А. Е.** Литовско-Русское государство в XIII–XVI вв. / Александр Пресняков; [редактор: Анатоль Тарас]. — Минск: Харвест, 2013. — 295 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-20-0224-0 (в пер.). — ISBN 978-985-18-1210-9 (ошибоч.).

**Ратько, А. Ф.** История Беларуси: тестовый тренажер для подготовки к централизованному тестированию / А. Ф. Ратько. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2013. — 126 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-19-0608-2.

**Розенберг, А. Я.** По страницам истории еврейской Орши / Александр Розенберг. — Минск: А. Н. Вараксин, 2012. — 191 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-7035-32-8 (в пер.).

**Сасим, А. М.** История Беларуси: схемы, таблицы, карты: ответы на билеты: 9-й класс / А. М. Сасим. — Минск: Экоперспектива, 2013. — 63 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-469-450-4.

**Сироткин, А. А.** История Беларуси: учебно-методическое пособие для самостоятельной работы студентов 1-го курса всех факультетов медицинских вузов / А. А. Сироткин; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Кафедра общественно-гуманитарных наук. — Гомель: ГГМУ, 2013. — 64 с. — 320 экз. — ISBN 978-985-506-527-3.

**Ситько, З.** По следам Литвы / Здислав Ситько; под общей редакцией А. Е. Тараса. — Минск: Харвест, 2013. — 223 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-1566-7 (в пер.).

**Тухта, В. У.** «Я вярнуўся, бо ты чакала...»: нарысы пра мінулую вайну / Валерый Тухта; [аўтар вершаў Таццяна Тухта; малюнкі Веранікі Маляўка]. — Мінск: Медысонт, 2013. — 124 с. — 125 экз. — ISBN 978-985-6982-75-3.

**Чалавек і свет. Мая Радзіма – Беларусь**: 4-ты клас: рабочы сшытак: [з тэматычнымі наклейкамі]: дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / [укладальнік М. Ю. Дуда]. — 5-е выд. — Мінск: Кузьма, 2013. — 32 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-453-671-2.

### Мастацкая літаратура на асобных мовах

**Бекитт, Л.** Прощения не ждут: роман / Лора Бекитт. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 447 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0661-3 (в пер.).

### Англійская літаратура

**Брук, К.** Без ума от графа: [роман] / Кристина Брук; [перевод с английского А. Е. Мосейченко]. — Москва: АСТ, 2013. — 315 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078477-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1867-5 (Харвест) (в пер.).

**Джером, Д. К.** Леди и джентльмены: рассказы / Джером К. Джером; [перевод с английского В. А. Вебера, Т. А. Осиной]. — Москва: АСТ, 2013. — 475 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-078091-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1990-0 (Харвест) (в пер.).

**Джойс, Д.** Улисс: [роман] / Джеймс Джойс; [перевод с английского В. А. Хинкиса и С. С. Хоружего; комментарий С. С. Хоружего]. — Москва: АСТ, 2013. — 1053 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-076085-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1979-5 (Харвест) (в пер.).

**Райли, Л.** Танец судьбы: [роман] / Люсинда Райли; [перевод с английского О. Л. Ляшенко]. — Москва: АСТ, 2013. — 478 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-078398-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2066-1 (Харвест) (в пер.).

### Літаратура ЗША на англійскай мове

**Брэдбери, Р.** 451 градус по Фаренгейту = Fahrenheit 451: роман-комикс / Рэй Брэдбери; адапатация и предисловие автора: [перевод на русский язык: С. Долотовская]; иллюстрации Тима Гамильтона. — Москва: Астрель, 2012. — 156 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-39926-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1713-5 (Харвест).

**Виндж, В.** Дети неба: [роман] / Вернор Виндж; [перевод с английского М. Левина]. — Москва: АСТ, 2013. — 703 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078403-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2035-7 (Харвест) (в пер.).

**Кинг, С.** Дьюма-Ки: [роман] / Стивен Кинг; [перевод с английского В. А. Вебера]. — Москва: АСТ, 2013. — 671 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-055480-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2007-4 (Харвест) (в пер.).

**Кинг, С.** Стрелок; Извлечение троих; Бесплодные земли: из цикла «Темная Башня»: [романы] / Стивен Кинг; [перевод с английского Т. Ю. Покидаевой]. — Москва: АСТ, 2013. — 1006 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-033697-5 (АСТ). — ISBN 978-985-16-2881-6 (Харвест) (в пер.).

**Кинг, С.** Темная Башня: [из цикла «Темная Башня»: роман] / Стивен Кинг; [перевод с английского В. А. Вебера]. — Москва: АСТ, 2013. — 811 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-033693-7 (АСТ). — ISBN 978-985-16-9897-0 (Харвест) (в пер.).

**Коннелли, М.** Пуля для адвоката: [роман] / Майкл Коннелли: [перевод с английского В. Н. Соколова]. — Москва: Астрель, 2013. — 346 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-45150-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1938-2 (Харвест) (в пер.).

**Паттерсон, Д.** 7-е небо: [роман] / Джеймс Паттерсон, Максин Паэтро; [перевод с английского О. А. Мышаковой]. — Москва: Астрель, 2012. — 315 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-41367-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1798-2 (Харвест) (в пер.).

**Рэндол, А.** Тайна ее поцелуя: роман / Анна Рэндол; [перевод с английского Е. П. Ананичевой]. — Москва: АСТ, 2013. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078163-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2016-6 (Харвест) (в пер.).

**Стоун, Д.** Ее любовная связь: роман / Джиллиан Стоун; [перевод с английского Е. В. Моисеевой]. — Москва: АСТ, 2013. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078166-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2047-0 (Харвест) (в пер.).

**Фицджеральд, Ф. С.** Великий Гэтсби: [роман] / Фрэнсис Скотт Фицджеральд; [перевод с английского Е. Калашниковой]. — Москва: АСТ, 2013. — 253 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-078255-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2044-9 (Харвест) (в пер.).

**Хантер, М.** Украшение и наслаждение: роман / Мэдлин Хантер; [перевод с английского Л. И. Желоховцевой]. — Москва: АСТ, 2013. — 316 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078484-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2048-7 (Харвест) (в пер.).



***Моэм, С. Бремя страстей человеческих: роман / Сомерсет Моэм; [перевод с английского Е. Голышевой и Б. Изакова]. — Москва: АСТ, 2013. — 685 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-062680-9 (АСТ). — ISBN 978-985-16-8572-7 (Харвест) (в пер.).***

*Многія маладыя людзі называюць гэтую кнігу ў ліку сваіх любімых. Дарослыя ж лічаць яе нуднай, доўгай і перагружанай непатрэбнымі дэталямі. Думаецца, такому парадаксальнаму стаўленню можна знайсці лагічнае тлумачэнне. Раман вядомага англійскага пісьменніка прысвечаны тэме пошуку свайго месца ў жыцці, развагам пра сэнс існавання. Кніга распавядае пра развітанне з ілюзіямі і расчараванні, якія могуць напаткаць маладога чалавека на яго жыццёвым шляху. Натуральна, моладзі гэта цікава (асабліва старшакласнікам і студэнтам), а дарослым, па сутнасці, не патрэбна. Больш за тое, кнігу любяць і літаратуразнаўцы — тут можна знайсці аўтабіяграфічныя рысы, якія шмат распавядуць пра Моэма, а таксама параўнаць першую рэдакцыю кнігі 1915 года з яе скарочаным варыянтам, які сам пісьменнік падрыхтаваў у 1960-х гадах.*

### Італьянская літаратура

**Эко, У.** Таинственное пламя царицы Лоаны: [роман] / Умберто Эко; перевод с итальянского [и комментарии] Елены Костюкович; [художник Андрей Бондаренко]. — Москва: Corpus: АСТ, 2013. — 588 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-077822-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2012-8 (Харвест) (в пер.).

### Іспана-амерыканская літаратура

**Гарсиа Маркес, Г.** Любовь во время чумы: [роман] / Габриэль Гарсиа Маркес; перевод [с испанского] Л. Синянской. — Москва: АСТ, 2013. — 508 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-073486-3 (АСТ). — ISBN 978-985-16-9952-6 (Харвест) (в пер.).

### Бразільская літаратура на партугальскай мове

**Коэльо, П.** Брида: [роман] / Пауло Коэльо; [перевод с португальского А. Богдановского]. — Москва: АСТ, 2013. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-052567-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2038-8 (Харвест).

**Коэльо, П.** Одиннадцать минут: [роман] / Пауло Коэльо; [перевод с португальского А. Богдановского]. — Москва: АСТ, 2013. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 15000 экз. — ISBN 978-5-17-052082-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1964-1 (Харвест).

### Руская літаратура

**Арапова, Ю.** Будни ГКБ. Разрез по Пфаненштилю / Юлия Арапова, Ольга Разумная. — Москва: АСТ, 2012. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-077315-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1794-4 (Харвест) (в пер.).

**Баткилина, Ю.** Песни мельничного колеса: поэзия / Юлия Баткилина. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 51 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7062-14-0.

**Веллер, М. И.** Все о жизни: все о том, как устроена эта жизнь и этот мир, и почему ты чувствуешь то, что чувствуешь, хочешь то, что хочешь, делаешь то, что делаешь, и с тобой происходит именно то, что происходит / М. Веллер. — Москва: АСТ, 2013. — 750 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 138000 экз. (1–14-й з-ды 135 тысяч). — ISBN 978-5-17-036288-2 (АСТ). — ISBN 978-985-16-1293-8 (Харвест) (в пер.).

**Глинский, С.** Игра навылет: [роман] / Семен Глинский. — Москва: АСТ, 2013. — 285 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-077709-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2017-3 (Харвест) (в пер.).

**Дастаеўскі, Ф. М.** Д'яблы: раман з 3 ч. / Фёдар Дастаеўскі; укладанне і пераклад з рускай мовы Андрэя Каляды. — Мінск: Віктар Хурсік, 2013. — 614 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7025-08-4.

**Измайлов, Л. М.** Отборные анекдоты от Лиона Измайлова. — Москва: АСТ, 2013. — 190 с. — Издано при участии ООО «Издательство «Астрель» (Москва) и ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-077956-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2056-2 (Харвест) (в пер.).

**Луганцева, Т. И.** Прерванный полет Карлсона: [роман] / Татьяна Луганцева. — Москва: Астрель, 2012. — 317 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-44726-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1677-0 (Харвест) (в пер.).

**Соломатина, Т. Ю.** Девять месяцев: комедия женских положений: [роман] / Татьяна Соломатина. — Москва: АСТ, 2013. — 380 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-078058-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2018-0 (Харвест) (в пер.).

**Шакилов, А.** Герои зоны. Земля ветеранов: [фантастический роман] / Александр Шакилов. — Москва: АСТ, 2013. — 315 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 12500 экз. — ISBN 978-5-17-077939-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2039-5 (Харвест) (в пер.).

**Ярославцев, К.** Записки путешественника: проза / Константин Ярославцев. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 55 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7062-18-8 (в пер.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Аверьянов, А. К.** Космос квадрата Малевича: стихи / Александр Аверьянов. — Минск: Попурри, 2013. — 155 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-15-1913-8 (в пер.).

**Божуль, А. А.** Три ангела-хранителя мои...: поэзия / Андрей Божуль; [предисловие Надежды Парчук]. — Брест: Альтернатива, 2013. — 68 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-521-380-3.

**Волочник, Н. С.** Ожившие мечты: стихи / Наталия Волочник. — Несвиж: Несвижская укрупненная типография, 2013. — 104 с. — Часть текста на белорусском языке. — 35 экз. — ISBN 978-985-6796-87-9 (в пер.).



***Перкин, Н. С. Эпитафия без елея: страницы воспоминаний партизана / Наум Перкин. — Минск: ИПА «Регистр», 2013. — 190 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6937-77-7.***

*Пры жыцці Навума Перкіна, пісьменніка з партызанскім мінулым, літаратуразнаўцы, крытыка, доктара філалагічных навук яго ўспаміны цалкам так і не пабачылі свет. Іх частка, выкладзеная ў аповесці «Я стаў партызанам», значна скарочаная цэнзурай, выйшла ў 1982 годзе. Цяпер жа чытач можа пазнаёміцца з унікальным архіўным матэрыялам, які раней быў пазначаны прыгаворам савецкага рэцэнзента «ні ў якім выпадку выдаваць нельга». Кніга з'явілася дзякуючы намаганням удавы пісьменніка Соф'і Яфімаўны Перкінай, а таксама Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, дзе захоўваецца першы варыянт аповесці (датуецца 1967 годам).*

**Горовенко, О. В.** Встреча: сборник лирики / Оксана Горовенко; [художник Ольга Хавхунович]. — Минск: Кнігазбор, 2013. — 167 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7057-54-2 (в пер.).

**Гринчик, Ю. Н.** 49 врат рая: стихи / Юрий Гринчик. — Минск: Печенко А. Г., 2013. — 47 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-24-7.

**Домейко, Е.** Девушки чуть выше остальных: [повести, рассказы, статьи] / Елена Домейко. — Минск: ЛарХо, 2013. — 351 с. — 1520 экз. — ISBN 978-985-90200-4-9 (в пер.).

**Дубровский, Н. В.** Бессмертие подвига: документальная повесть / Николай Дубровский; [автор вступительной статьи И. П. Шамякин; литературная обработка Т. В. Люкович]. — Минск: Народная асвета, 2013. — 157 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-12-2130-7.

**Ероховец, А. Е.** Многостороннее исследование категории счастья в рассказах и стихах, выполненное бакалавром наук юридических: неполное собрание сочинений / А. Е. Ероховец; [иллюстрации: Пугач В.]. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 55 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7062-23-2 (в пер.).

**Квилория, В. Т.** Кабан по-телегенски: [только для взрослых] / Валерий Квилория; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 32 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-22-5.

**Кирпиченко, В. Я.** Планета псов и ягнят. Закон и справедливость: роман / Виталий Кирпиченко. — Минск: Звязда, 2013. — 334 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7059-39-3 (в пер.).

**Клапоцкий, М.** Крылья: поэзия / Михаил Клапоцкий. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 316 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-16-4 (в пер.).

**Кондаленко, Л. К.** Взаимная любовь: сборник стихотворений / Лариса Кондаленко; [автор предисловия В. Д. Стариченок; художник Светлана Симонова]. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2013. — 119 с. — Часть текста на английском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-471-608-4.

**Коротышевская-Лобачевская, А. И.** Жизнь без эпилога: [сборник] / А. Коротышевская-Лобачевская, В. Коротышевский, О. Коротышевский; [под общей редакцией О. В. Коротышевского ; предисловие: Валерий Гришковец]. — Брест: Брестская типография, 2013. — 287 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-524-142-4 (в пер.).

**Костян, И. С.** Вторжение: (территория вестерна): роман / Игнат Костян. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 534 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7062-13-3 (в пер.).

**Нестерович, Т. И.** Клубничный возраст: рассказы / Тамара Нестерович. — Минск: Беларусь, 2013. — 267 с. — 1700 экз. — ISBN 978-985-01-1022-0.

**Просмыцкий, Н. А.** После ада: [книга прозы и поэзии] / Николай Александрович Просмыцкий; [вступительная статья: Николай Васильевич Панасюк]. — Брест: Брестская типография, 2013– . — 21 см. — ISBN 978-985-524-144-8.

Кн. 1. — 2013. — 263 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-524-145-5.

**Рекеда, И. П.** Стихи – повествования: сборник стихов в 4 т. / Иван Рекеда. — Гродно: Гродненская типография, 2013. — ISBN 978-985-7037-10-0.

Т. 4. — 2013. — 239 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7037-14-8.

**Сероокая, В. Ф.** Живу на планете Земля: стихи и проза / Валентина Сероокая. — Минск: Кнігазбор, 2013. — 218 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7057-47-4.

**Степанов, А. В.** На родном берегу: стихи / Анатолий Степанов. — Полоцк: Полоцкое книжное издательство, 2013. — 77, с. — 116 экз. — ISBN 978-985-6936-53-4.

**Чергинец, Н. И.** Илоты безумия: роман / Николай Чергинец. — Минск: Мастацкая літаратура, 2013. — 541 с. — 2200 экз. — ISBN 978-985-02-1461-4 (в пер.).

**Шашко-Шаблинская, С. Л.** Музыка души: стихи / С. Л. Шашко-Шаблинская. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 118 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7062-20-1 (в пер.).

**Шевмер, Г. В.** Вчерашний бой: стихи / Георгий Шевмер. — Минск: Мон литера, 2013. — 15 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90309-2-5.

**Шемет, А. А.** Наркоманы Свислочи / Антон Шемет; [фото О. Кенденкова]. — Минск: Парадокс, 2013. — 240 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-451-290-7.

**Шемет, Н.** Из Венеции в осень: истории о любви / Наталья Шемет. — Гомель: Барк, 2013. — 95 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6763-96-3.

**Яковлева, О.** Публичное: поэзия / Ольга Яковлева. — Минск: А. Н. Вараксин, 2013. — 78 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7062-17-1.

# Кіно і думкі


Фота БЕЛТА

Гран-пры за лепшы дакументальны фільм — карціне «Бацька і сын» (Польшча).

**Напрыканцы мінулага тыдня сусветна вядомыя рэжысёры, акцёры, аматары мастацтва cinema пакінулі нашу краіну — найбуйнейшы кінафорум Беларусі, мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад-2013», завяршыў сваю працу.**

На ўрачыстай цырымоніі закрыцця, што прайшла ў малой зале Палаца Рэспублікі, былі ўручаны ўзнагароды ў дзвюх асноўных конкурсных праграмах фестывалю (ігравога і дакументальнага кіно), а таксама чатыры спецыяльныя прызы. Перад гледачамі выступалі пазітыўна-завадное трыа барабаншчыкаў *Stress*, гурт «Інжыр», *PALLADIUM Electric Band* і інш. Вядучымі вечара сталі Вікторыя Сінкевіч і Сяргей Кацьер. Пасля таго, як узнагароды знайшлі сваіх уладальнікаў, адбыўся паказ фільма, які закрываў сёлетні кінафэст. Польская стужка «Хочацца жыць» (рэжысёр Мацей Пепжыца) нікога не пакінула абыякавым. Гэта адна з самых запатрабаваных карцін сярод дыстрыб'ютараў Еўропы і Амерыкі. Нягледзячы на сумную гісторыю жыцця галоўнага героя, «Хочацца жыць» — вельмі аптымістычны фільм, які даказвае, што сіла духу можа пераадолець любыя перашкоды. Ніколі не трэба здавацца!

## АКЦЭНТЫ

Кожны год, рыхтуючы кінафестываль «Лістапад», арганізатары разважаюць над пытаннем: на што трэба рабіць стаўку, што больш цікавіць гледача — кіно ці знакамітыя госці? На гэты конт першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі заўважыў, што не ўсё адназначна. Нехта жыве прыездам зорак, але ў той жа час ёсць людзі, якія цікавяцца мастацтвам. У пацвярджэнне таму і статыстыка: квіткі на конкурсныя фільмы раскупляюцца імгненна. Уладзімір Міхайлавіч параіў цікавіцца не толькі галівудскімі зоркамі. На яго думку, праграма фестывалю павінна яшчэ і выхоўваць. «Кіно — гэта думка, якую нам хочуць данесці», — падкрэсліў ён.

Калі параўноўваць з першым форумам, варта адзначыць, што павысіўся статус фестывалю, павялічылася яго фінансаванне. Але ёсць і непрыемны факт. Буйныя міжнародныя кінафорумы маюць свае пляцоўкі. Напрыклад, Канскі вестываль праводзіцца ў Палацы фестываляў і кангрэсаў на набярэжнай Круазэт, Берлінскі — у тэатры на Патсдамскай плошчы. Мінскі ж форум не мае пастаяннага месца жыхарства. На паказах у шматлікіх кінатэатрах сталіцы не заўсёды змяшчаюцца ўсе жадаючыя. Галоўная праблема ідзе ў «бітве за месцы» паміж гледачамі, запрошанымі асобамі, прадстаўнікамі СМІ. У гэтым годзе нават на прэс-паказы, якія ладзяцца спецыяльна для акрэдытаваных журналістаў, мы не заўсёды маглі патрапіць. Арганізатары фестывалю ў прэс-рассылках запэўнівалі журналістаў у адным, а на ўваходзе ў кінатэатры (часцей за ўсё «Цэнтральны») можна было з лёгкасцю (а здаралася, і з грубасцю!) атрымаць ад варот паварот. Узнікае лагічнае пытанне: навошта рабіць прэс-паказы, калі прэса на іх патрапіць не можа?! А калі і можа, то журналіст глядзіць фільм у закутку на банкетцы ці ўвогуле стоячы. Пра вячэрнія паказы конкурсных фільмаў (нават калі вы і запісваліся раней) не можа быць і гаворкі! Вострае пытанне наконт вялікай кінапляцоўкі для ММКФ «Лістапад» не знята…

Аднак сёлетні кінафэст усё ж мае шмат станоўчых момантаў. Адбылася ўнікальная рэтраспектыва: гледачам паказалі класіку беларускага нямога кінематографа пад акампанемент сучасных груп у праекце «Тузін. Немаўля». Музыка спецыяльна


Фота Аляксандра Дзмітрыева

Гран-пры «Золата "Лістапада"» ўдастоена карціна «Іда» (Польшча).

пісалася пад праект. Публіка ўбачыла фільм Уладзіміра Гардзіны «Кастусь Каліноўскі» (1928), «У агні народжаная» Уладзіміра Корш-Сабліна (1930) і «Прастытутка (Забітая жыццём)» Алега Фрэйліха (1927) у суправаджэнні калектываў *Relikt, Ilo&friends*, а таксама пад музыку беларускага авангарднага кампазітара Сяргея Пукста.

У межах «Лістапада» ў пазаконкурснай праграме «Майстар-клас» таксама адбыліся паказы фільмаў вядомага філіпінскага рэжысёра Брыянтэ Мендоса. Уладальнік прыза за лепшую рэжысуру 62-га Канскага кінафестывалю, спадар Мендоса асабіста прадстаўляў кінастужкі «Нявольнікі» і «Чэрава тваё». І хоць на першым паказе людзей у зале было не вельмі шмат, пытанняў да рэжысёра пасля прагляду аказалася столькі, што адказаць на ўсе нават не хапіла часу.

## УЗНАГАРОДЫ І ПРЫЗЫ

Гран-пры «Золата "Лістапада"» ўдастоена карціна Паўла Паўлікоўскага «Іда» (Польшча — Данія), якая распавядае пра акупацыю Польшчы ў гады Другой сусветнай вайны.

Міжнароднае журы кінапрэсы прысудзіла фільму «Іда» «"Серабро" Лістапада» ў намінацыі «Фільм як з'ява мастацтва» і прыз «За лепшую жаночую ролю другога плана», якога ўдастоена Агата Кулеша, што знялася ў гэтай стужцы. Судзейская калегія асноўнага конкурсу ігравога кіно таксама адзначыла фільм узнагародай «За лепшую аператарскую работу» імя Ю. А. Марухіна.

Карціна «Па крузе» рэжысёра Срдана Галубовіча (Сербія) заваявала «Бронзу Лістапада» — прыз глядацкіх сімпатый. Гэтая ж стужка атрымала спецпрыз ад старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

Прыз «За лепшую рэжысуру» міжнароднае журы кінематаграфістаў асноўнага конкурсу ігравога кіно на чале з рэжысёрам і сцэнарыстам Аляксандрам Зяльдовічам прысудзіла Цзя Чжанкэ (фільм «Дакрананне граху», Кітай — Японія — Францыя). За эстэтычную дзёрзкасць спецыяльным прызам журы адзначаны стужка Кіры Муратавай «Вечнае вяртанне» (Украіна) і фільм Карнеліа Парумбою «Калі ў Бухарэсце надыходзіць вечар, або Метабалізм» (Румынія — Францыя).

Эксперты асноўнага конкурсу дакументальнага кіно пад старшынствам рэжысёра Юрыя Гарулёва прынялі рашэнне прысудзіць Гран-пры «За лепшы дакументальны фільм» карціне «Бацька і сын» Паўла Лазінскага (Польшча). Прыза «За лепшы фільм конкурсу ігравога кіно «Маладосць на маршы» імя народнага артыста СССР кінарэжысёра Віктара Турава ўдастоена карціна «У колеры» рэжысёраў Наны Эквцімішвілі і Сімона Гроса. Карціна «Дзіўная котачка» рэжысёра Рамона Цюрхера адзначана спецыяльным дыпломам журы «За дэбют». У конкурсе нацыянальных кінашкол лепшым фільмам маладога дакументальнага кіно прызнана карціна «Пасля Врыцэна» (Германія), рэжысёр Даніэль Абма.

У конкурсе фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі «Лістападзік» прыз за лепшы фільм для дзяцей атрымала карціна «Клара і мядзведжыя таямніцы» (Швейцарыя — Германія, рэжысёр Тобіас Інайхен). Прыз за лепшы фільм для юнацтва — «Не чакай пахвал» (Кітай — Паўднёвая Карэя), рэжысёр Ян Цзінь.

Прыза Прэзідэнта Беларусі «За гуманізм і духоўнасць у кіно» ўдастоены рэжысёр мастацкага фільма «Лука» (Украіна — Беларусь) Аляксандр Пархоменка.

На 20-м ММКФ «Лістапад», які доўжыўся 172 гадзіны, было паказана 150 фільмаў: 78 ігравых, 61 дакументальны, 11 анімацыйных больш як з 30 краін свету.

In kino veritas!

**Таццяна ШЫМУК**

# Лістападаўскі летапіс




Прэзентацыя кнігі «Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад»: праз 20 гадоў», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда», адбылася ў кінатэатры «Цэнтральны». Аўтар — беларускі кінакрытык, журналіст, загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ Людміла Саянкова.

Акуратны томік з па-восеньску жоўтай вокладкай нездарма называюць летапісам лістападаўскага «кінашэсця». Кніга складаецца з дзвюх частак — удалага спалучэння журналістыкі з крытыкай: кінаагляды і інтэрв'ю, героямі якіх сталі сучасныя і былыя арганізатары фестывалю. Сярод іх — Сяргей Арцімовіч, Аляксандра Захарэвіч, Анжаліка Крашэўская, Ігар Сукманаў, Ірына Дзям'янава.

Кропкай адліку для аўтара з'яўляецца 1994 год, калі «Лістапад» лічыўся «праглядам фільмаў постсавецкага перыяду», а потым пераўтварыўся ў прэстыжны міжнародны кінафорум. Скрозь бліскучы кінематаграфічны аналіз і меркаванні людзей, набліжаных да «дзясятай музы», Людміла Саянкова адлюстроўвае панараму развіцця кіно. Прычым не толькі як культурнай з'явы, але і як агульначалавечай каштоўнасці. Сур'ёзнасць навукова-тэарэтычных даследаванняў гарманічна дапаўняецца ў яе стылем мастацка-лірычных эсэ, лёгкай журналістыкі.

— На самой справе кніга пісалася даўжэй, чым дваццаць гадоў. Мабыць, усё пачалося ў той час, калі пасля заняткаў, амаль кожны дзень, мы бегалі з сябрамі па ўсіх кінатэатрах. У 1994-м адбыўся «Лістапад», і гэта было вельмі нечакана для нашага закрытага, не вельмі свецкага жыцця. Якраз у той час мяне не было ў Мінску, але не паспела я прыехаць, усе навокал пачалі распавядаць пра кінафестываль. Спачатку да яго ставіліся трохі скептычна, але наступным разам адносіны сталі больш сур'ёзнымі. Мне даверылі напісаць першы кінаагляд. Потым, з кожным годам, іх станавілася ўсё больш і больш, — успамінае Людміла Саянкова.

Артыкулы, апублікаваныя ў кнізе, вельмі розныя, бо за гэты час аўтарка прайшла пэўны адрэзак свайго ўласнага жыцця.

— Мы расцём, змяняемся, мудрэем, назапашваем вопыт, адчуваем хвіліны болю і неверагоднага шчасця. Мае публікацыі адлюстроўваюць усё гэта, як і любы аўтарскі твор. Нягледзячы на тое, што цяпер мне не вельмі падабаюцца мае раннія агляды, я ўключыла іх у кнігу, бо яны — сведчанні часу.

— «Лістапад» — адзін з нешматлікіх брэндаў Беларусі, якім варта ганарыцца, бо ён уводзіць нашу краіну ў сусветны культурны кантэкст. Вельмі хочацца дажыць да таго дня, калі на кінафоруме будзе прадстаўлена не толькі дакументальная, анімацыйная, але і мастацкая беларуская праграма. Дай бог, каб і далей выдаваліся кнігі, пісаліся матэрыялы, хай усё дыхае гэтым. Хай будзе кіно, — адзначыла аўтар кнігі.

Больш за тое, Л. Саянкова прызналася ў сапраўднай любові да «Лістападу», яго асяроддзя, атмасферы, людзей:

— Я прападаю на фестывалі з раніцы да вечара. Ахвярую ўсім: асноўнай працай, сям'ёй, каб пражыць вельмі важны для мяне тыдзень, найбольш поўна.

За гады існавання «Лістапада» Людміла Саянкова пабывала ў розных ролях: кіравала прэс-цэнтрам фестывалю, узначальвала журы кінапрэсы, была старшынёй журы конкурсу «Маладосць на маршы», уваходзіла ў склад журы дакументальнага кіно. Гэтым разам яна звычайны глядач, але і гэта яе задавальняе.

На думку рэдактара часопіса «На экранах» Людмілы Перагудавай, «кінафестывалю «Лістапад» вельмі пашанцавала, бо ў яго ёсць аб'ектыўны, прафесійны, адказны і таленавіты летапісец. Па яе словах, у рэдакцыю прыходзілі лісты, дзе чытачы прасілі падзякаваць Людміле Саянковай: з дапамогай яе аглядаў, шчырых, сардэчных і адначасова дакументальна дакладных, яны «пабывалі» на кінафестывалі, калі фізічна зрабіць гэта было немагчыма.

— Тэкст уразіў мяне, калі яшчэ быў рукапісам. Досвед Людмілы Саянковай, знанага кінакрытыка, выяўляецца ў выключным веданні руху сусветнага кінематографа і жаданні наблізіць да яго Беларусь. Яна піша так, што энергетыка, якая ўплывае на тэксты, перадаецца чытачу, выводзіць у мастацка-публіцыстычную прастору, рэльефную, дынамічную, да якой, здаецца, можна дакрануцца, — распавёў дырэктар-галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

Павіншаваць Людмілу Саянкову з выхадам кнігі прыйшлі кінакрытыкі, журналісты, рэжысёры, акцёры, кіназнаўцы — карацей кажучы, тыя, хто мае дачыненне да «Лістапада», падрыхтоўкі выдання і ўвогуле да мастацтва.

**Марыя ВОЙЦІК**

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Валянціна РАСОШАНКА, загадчык аддзела бібліятэчнага маркетынгу Светлагорскай раённай бібліятэкі, распавядае пра рэалізацыю творчага праекта «Спазнай свой край»:**

— Дзесяць гадоў таму ў вёсцы Карані ўзвялі новы будынак для школы-садка і бібліятэкі. Важнейшым кірункам дзейнасці апошняй стала краязнаўства. Паспрыяў гэтаму творчы праект «Спазнай свой край». Актыўны ўдзел у яго рэалізацыі ўзялі навучэнцы 1 — 7 класаў. Бібліятэкар Любоў Сцепаненка разам з супрацоўнікамі школы-садка выкарысталі формы і метады, якія спрыяюць развіццю зацікаўленасці дзяцей гісторыяй роднага краю. Акрэсліліся і напрамкі дзейнасці юных даследчыкаў: гістарычнае мінулае вёскі, старонкі ваеннай гісторыі, прыродная і культурная спадчына. Распрацавалі цікавыя маршруты для вандровак па родным краі. Кожны з іх прадугледжваў знаёмства юных краязнаўцаў з цікавым гістарычным месцам альбо прыродным аб'ектам. Праводзілі экскурсіі, экспедыцыі, сустрэчы са сведкамі падзей, працавалі ў бібліятэцы… Да вандровак рыхтавалі цікавы расповед, гутарку, віктарыну, тэматычную экспазіцыю.

Першым крокам стаў урок «Мая малая радзіма». Хлопчыкі і дзяўчынкі даведаліся пра геаграфічнае становішча вёскі і яе колішніх насельнікаў. На гэтым уроку яны выступалі ў якасці слухачоў, а ў далейшым сталі актыўнымі ўдзельнікамі. Так, падчас краязнаўчага падарожжа «На гэтай зямлі нашы карані» прагучалі іх расповеды пра назвы вясковых вуліц.

Збіраючы «Старонкі ваеннай гісторыі», тут назапасілі цікавы матэрыял, звязаны з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны ў гэтым рэгіёне. Менавіта ў Каранях нарадзіўся адзін з кіраўнікоў Мінскага падполля Васіль Жудро. У бібліятэчных папках-дасье захоўваюцца ксеракопіі фотаздымкаў, артыкулы, разнастайныя звесткі пра яго жыццё і падпольную дзейнасць, а таксама ўспаміны і фотаздымкі сведак падзей ваеннага часу. У бібліятэцы праходзяць урокі мужнасці, гадзіны памяці.

Вёска Карані захавала свае звычаі і традыцыі. Этнаграфічны маршрут дазволіў чытачам далучыцца да культурнай спадчыны. Шчырай і цікавай атрымалася сустрэча з Валянцінай Асадчай. А майстар-класам па вышыўцы яна літаральна захапіла дзятву!

Дзейнасць у межах праекта прадугледжвае і ўдзел у даследчай працы. Каб скласці пашпарт ракі Іпа, юныя краязнаўцы разам з бібліятэкарам звярнуліся да розных друкаваных крыніц, рабілі разлікі, распрацоўвалі бланк-табліцу. Агульнымі намаганнямі стварылі пашпарт дуба-старажыла, карты-схемы эколага-краязнаўчай сцяжыны, баявых дзеянняў партызанскага атрада «Мсцівец».

Пяць гадоў карпатлівай працы прынеслі плён: сабраны каштоўныя дакументы і фотаздымкі, якія распавядаюць пра гісторыю вёскі, чырвонаармейцаў, што загінулі ў баях за Карані, тутэйшых жыхароў, якія ваявалі ў Афганістане. На падставе гэтых матэрыялаў у бібліятэцы створана каля 50 тэматычных папак-дасье, аформлена некалькі экспазіцый. Да вялікага задавальнення бібліятэкара і юных даследчыкаў, яны заўсёды запатрабаваны.

# У кожнага свой «Шлях»

Выстаўка работ сталічных мастакоў Лявона Грышука, Мацвея Басава і Міхаіла Нуднова пад назвай «Шлях» адкрылася ў выставачнай зале Баранавіцкага краязнаўчага музея. Сярод пейзажаў Л. Грышука ўгадваюцца вобразы родных мясцін. Творца шмат падарожнічаў па Беларусі, а свае ўражанні і пачуцці адлюстроўваў на мастацкіх палотнах.

Творчы шлях Мацвея Басава бярэ пачатак у 1964 годзе, калі ён стаў бронзавым прызёрам конкурсу дзіцячага малюнка ў Італіі. З 1988 года — член Беларускага саюза мастакоў. Браў удзел у шматлікіх выстаўках у нашай краіне і за яе межамі.

Лявон Грышук — сябра Беларускага саюза мастакоў з 2005 года. У экспазіцыі прадстаўлены яго пейзажныя кампазіцыі. Асобным раздзелам вылучаны работы, прысвечаныя хрысціянскай тэматыцы. Творы Л. Грышука знаходзяцца ў фондах музеяў, мастацкіх галерэях і прыватных калекцыях Беларусі і замежжа.

Міхаіл Нудноў — удзельнік рэспубліканскіх выставак жывапісу і керамікі. Яго творы таксама з задавальненнем набываюць музеі, мастацкія галерэі і прыватныя калекцыянеры.

Усе творцы — выпускнікі Мінскага дзяржаўнага мастацкага вучылішча імя А. Глебава.

**Мікалай ІЛЬЮЧЫК**

*Музейны ўнікат*

# І мугіры як іконы

Ужо некалькі стагоддзяў побач з беларусамі жывуць на нашай зямлі татары. Гэты працавіты народ не забывае сваіх каранёў і захоўвае ўсё самае дарагое, што перадалі праз стагоддзі продкі. Горад Іўе лічыцца нефармальнай сталіцай былых іншаземцаў. Менавіта тут знаходзіцца дзеючая мячэць (1884), адзіная ў Беларусі, якая была адкрыта яшчэ за савецкім часам.



*Каран.*

Гісторыя з'яўлення татар на нашых землях вельмі цікавая. Некаторыя даследчыкі звязваюць пачатак іх рассялення з эміграцыяй плямёнаў язычнікаў з Залатой Арды: яны шукалі паратунку ад хана Узбека (1312 — 1342), які праводзіў актыўную ісламізацыю сваёй дзяржавы. Татары ў тыя часы былі добрымі воінамі, таму нярэдка іх наймалі на службу літоўскія князі. З гістарычных крыніц дакладна вядома, што ў 1319 г. вялікі князь Гедымін выкарыстоўваў ваенны атрад нанятых на службу залатаардынцаў падчас вайны з Тэўтонскім ордэнам. Паводле тагачасных звычаяў воіны да месца службы ехалі з сем'ямі і абозам. Таму некаторыя навукоўцы лічаць, што менавіта гэтыя найміты і паклалі пачатак татарскім пасяленням на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага.



*Мугір.*

У часы праўлення Вітаўта (1392 — 1430) у ВКЛ дабравольна перасяліліся вялікія групы татар. Пасля паражэння ад эміра Цімура ў 1395 г. сюды ж адступіў і вялікі залатаардынскі хан Тахтамыш са сваёй дружынай. Гасцінна прыняты Вітаўтам, ён пасяліўся у Лідзе. У выніку паспяховага паходу Вітаўта і Тахтамыша пад Азоў (1397) у рукі пераможцаў трапіла багатая здабыча і шмат ваеннапалонных татар, якія былі «пасаджаны на зямлю» каля Вільні ў Лідскім, Ашмянскім, Наваградскім і Брэсцкім паветах.

Паводле падання, Іўеўскую абшчыну заснаваў «высакародны Батальд» (відаць, князь Вітаўт). Менавіта ён на пачатку XV ст. у знак падзякі за ўдзел татар у Грунвальдскай бітве перадаў ім у валоданне ўрочышча Мураўшчызна, якое знаходзілася непадалёк ад Іўеўскага замка. На думку вучоных, тутэйшыя татары — выхадцы з берагоў Азоўскага мора.

У другой палове XVII — XVIII ст. у іх асяроддзі знікаюць племянныя адрозненні. Перасяленцы ўсё часцей прымаюць беларускія прозвішчы: Кандратовічы, Бараноўскія, Александровічы, Гембіцкія, Карыцкія, Канапацкія, Смольскія і інш. З часам татары страцілі цюркскую мову і пачалі карыстацца беларускай ці польскай. На беларускай арабскім пісьмом былі напісаны іх кнігі — кітабы, дзе пададзены апісанні мусульманскіх абрадаў, легенды, паданні, усходнія казкі, павучэнні.

Цікавы факт: пасля ўваходжання беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі новыя ўлады добра паставіліся да мясцовага мусульманскага насельніцтва. У 1794 г. Кацярына II абяцала «не толькі пакінуць іх у свабодзе выконваць свае богаслужэнні і пры ўсім тым, што ў Літве яны маюць, але і забяспечыць іх стан».

Большая частка беларускіх татар — ваеннаслужылыя (зямяне), юрыдычна роўныя са шляхтай. Таму яны бралі ўдзел ва ўсіх лёсавызначальных для Беларусі падзеях. Сярод татар сустракаецца шмат асоб, якія зрабілі значны ўнёсак у айчынную гісторыю. Падчас Першай сусветнай вайны на службе ў рускай арміі знаходзілася 18 літоўскіх татар-генералаў і сотні афіцэраў. Сяліліся іншаземцы пераважна ў гарадах і мястэчках. Акрамя вайсковай справы займаліся рознымі рамёствамі, дробным гандлем, агародніцтвам, жывёлагадоўляй.

Беларускія татары — мусульмане, якія спавядаюць іслам суніцкага кірунку. Жывуць даволі закрытымі абшчынамі. Значная аддаленасць ад мусульманскага Усходу, няведанне кананічнай арабскай мовы прывялі да таго, што яны разумелі прынцыпы сваёй рэлігіі вельмі павярхоўна. Напрыклад, у мусульманскіх краінах кожны прававерны павінен маліцца (здзяйсняць намаз) пяць разоў на дзень. Аднак беларускія татары ніколі дакладна гэтае прадпісанне не выконвалі.

Сёння дзейнічае Беларускае грамадскае аб'яднанне татар Беларусі «Зікр уль Кітаб». У 2009 г. расчыніў дзверы Іўеўскі музей нацыянальных культур, супрацоўнікі якога ствараюць экспазіцыю «Беларускія татары».

У фондах установы шмат цікавых рэчаў: кніг, фотаздымкаў, адзення, прадметаў культу і інш. Адзін з іх — шпіль з мінарэта Іўеўскай мячэці. У 1994 г. падчас рамонту гэтага будынка яго знялі, доўгі час ён быў нікому не патрэбны. Пасля адкрыцця музея ў 2009 годзе шпіль паступіў у музейную калекцыю.

У музеі захоўваецца свяшчэнная кніга мусульман Каран, выдадзеная ў 1902 годзе. Яе перадаў былы імам Іўеўскай мячэці Ізмаіл Шабановіч, які амаль 20 гадоў займаў пасаду мулы. Святар шмат зрабіў дзеля захавання татарскай абшчыны. З 1976 г. займаў пасаду муэдзіна. З 1994-га і да самай смерці ў 2012 г. быў мулой Іўеўскай мячэці.

Тры гады таму фонды музея папоўніліся вельмі цікавым экспанатам — турэцкім мугірам (так называюць яго былыя літоўскія татары, можна сустрэць і іншую назву — шамаіль). Гэта ўзор мастацтва арабскай каліграфіі, які змяшчае вытрымкі з Карана. Мусульманам забаронена маляваць на мугірах выявы чалавека альбо жывёл. Таму нельга знайці выявы бога альбо пракора. Часта мясцовыя мусульмане выкарыстоўваюць мугіры як іконы.

**Яўгеній ПЯШКО,**
**фота аўтара**

# Захапляліся, спачувалі

Значны ўклад у беларускае краязнаўства ўнеслі некаторыя расійскія даследчыкі. Сярод іх — гісторык, археолаг, доктар гістарычных навук Леанід Аляксееў, які нарадзіўся ў 1921 г. у Растове-на-Доне.

Ён закончыў Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя М. Ламаносава, працаваў у Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, быў аспірантам Інстытута гісторыі АН БССР. З 1953 года — у Інстытуце археалогіі АН БССР, потым выкладаў археалогію ў Магілёўскім дзяржаўным педагагічным інстытуце. Вывучаў гісторыю археалогіі, архітэктуры, мастацтва, краязнаўства Полацкай і Смаленскай зямель IX — XIII стст., праводзіў археалагічныя раскопкі Браслава, Друцка, Мсціслава, Рослаўля. Даследаваў гісторыю Кіеўскай Русі, Смаленскай зямлі, пытанні засялення і развіцця заходнерускіх (беларускіх) зямель у XI — XIII стст., гісторыю Беларусі XIX ст. Шматлікія працы Леаніда Аляксеева вызначаюцца дасканалым і грунтоўным крыніцазнаўчым аналізам, шырокімі аналогіямі, вобразнасцю мовы.

У 1996 годзе ў Мінску выйшла кніга Л. Аляксеева «Археология и краеведение Беларуси XVI в. — 30-е годы XX в.», у якой змешчаны матэрыялы і дакументы пра расійскіх і беларускіх гісторыкаў, археолагаў, краязнаўцаў, што ў розныя часы вывучалі і занатоўвалі звесткі пра ўмовы жыцця беларускіх сялян і гараджан. У выданні змешчаны артыкулы пра Мацея Стрыйкоўскага, Ігнація Кульчынскага, Васіля Тацішчава, Фёдара Нарбута, Мікалая Румянцава і г. д.

Цікавыя звесткі пра Беларусь пакінуў падарожнік, натураліст, батанік Аляксандр Башняк, які нарадзіўся ў 1786 годзе. Праехаўшы па беларускіх землях у 1815 годзе, ён напісаў «Дневные записи путешествия А. Бошняка в разные области Западной и Полуденной России в 1815 г.» (Масква, 1820, т. I; Масква, 1821, т. II). Аўтар пакінуў цікавыя звесткі пра краявіды, населеныя пункты Беларусі, у тым ліку і пра Мінск. Ён адзначаў, што на ўскрайку Мінск падобны да рускага горада, а ў цэнтры — да польскага. Быў А. Башняк у Бабруйску і Бабруйскай крэпасці. Ён лічыў, што заходнія паветы Смаленшчыны, дзе жылі беларусы, у этнічных і этнаграфічных адносінах не адрозніваліся ад усходніх паветаў Віцебскай губерні. Са спачуваннем і болем пісаў пра прыгонных сялян. Цікавіўся этнаграфіяй, краязнаўствам, звычаямі, беларускай мовай і мясцовымі дыялектамі. Рабіў спробы вызначыць геалагічнае мінулае Беларусі, яе глебу і кліматычныя ўмовы, якія ўплываюць на ўраджайнасць і стан лясоў, асабліва на Полаччыне.

Ёсць у яго цікавыя назіранні і для археолагаў. Прынамсі, А. Башняк прыкмеціў, што курганы ў розных месцах Беларусі маюць розную велічыню. Самыя вялікія часцей за ўсё сустракаюцца паміж рэкамі Свіслач і Галышка. Згадвае даследчык і пра крапасныя валы. Цікавыя яго этнаграфічныя назіранні, краязнаўчыя нататкі. Ён, у прыватнасці, пісаў: «Крестьянское строение в Литве (Беларусі. — **А. В.**) вообще похоже на белорусские. За Бобруйском же примечается некоторая разность. Строение, хоть очень бедное и избы малые весьма редко с окнами на улицу, но с тесовыми кровлями…»

Здзіўляла падарожніка страшэнная галеча беларускіх сялян: «Лошади столь малорослы и вообще столь заморены, что кости из-под кожи видны, коровы — также невелики… свиней держат несравненно более, чем в России».

У 1831 годзе А. Башняк загінуў пры нявысветленых абставінах.

**Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ**

# Партрэт Кіры для Мірскага замка

Нашчадкі князёў Святаполк-Мірскіх неаднаразова наведвалі Мірскі замак. Прыязджалі і сёлета на фестываль кампазітара Мікалая Набокава, які аб'яднаў Мір, Любчу і Навагрудак.

Святаполк-Мірскія па розных абставінах былі раскіданы лёсам па ўсім свеце і жывуць цяпер у Вялікабрытаніі, Францыі, ЗША, Польшчы, Германіі. Напрыклад, Іаланта Вільконская двойчы, у 2002 і 2005 гадах, прыязджала з Польшчы ў Мір. Апошнім разам яна падарыла музею «Замкавы комплекс «Мір» партрэт сваёй маці Кіры Святаполк-Мірскай, напісаны польскай мастачкай Аляксандрай Навіцкай. Сёння ён дэманструецца ў адной з залаў замка.



Марыя Святаполк-Мірская (злева) і Іаланта Вільконская падчас наведвання Мірскага замка ў 2005 годзе.

Кіра была пляменніцай князя Міхаіла Святаполк-Мірскага, уладальніка Мірскага замка, дачкой Івана Святаполк-Мірскага і Барбары Рудовай, якія пражылі ў шлюбе нядоўга. Барбара памерла, калі дачцэ споўнілася ўсяго чатыры гады. Апеку над Кірай узяў стрыечны брат маці, рускі генерал. Расла дзяўчынка ў прыгожым і прасторным доме ў Маскве пад наглядам нянькі. Дзяцінства яе было бесклапотным і шчаслівым.

Спачатку князёўна вучылася ў Інстытуце шляхетных дзяўчат, а затым паступіла ў тэатральную школу. Хутка атрымала галоўную ролю ў пастаноўцы «Нора, або Лялечны дом» паводле драмы Г. Ібсена на сцэне Маскоўскага тэатра. Аднак бясхмарнае жыццё скончылася з пачаткам рэвалюцыі. Кіра вырашыла знайсці часовае сховішча ў доме сваёй вернай нянькі на Доне. Уцякала, пераапрануўшыся сялянкай. У пачатку 1920-х гадоў дзяўчына апынулася ў Польшчы.

З першым мужам Уладзімірам Бем-дэ-Косбанам пражыла ў шлюбе некалькі гадоў, але гэта быў час, калі яны жылі ў Мірскім замку, у дзядзькі — князя Міхаіла. Кіра была адной з яго любімых пляменніц, і князь не шкадаваў грошай для маладой пары ні на далёкія падарожжы, ні на шыкоўнае жыццё. Потым лёс звёў Кіру з Томашам Вільконскім, пляменніца якога Аляксандра Навіцкая (народжаная Ясіньская) і напісала партрэт. Дарэчы, бацька Аляксандры Навіцкай, Здзіслаў Ясіньскі, таксама быў вядомым польскім мастаком.

Сваё каханне да Томаша Кіра пранесла праз усё жыццё. Да апошняга старалася не верыць, што яе муж быў сярод расстраляных немцамі польскіх інтэлігентаў. Нягледзячы на ўсе нягоды, не дазваляла сабе зняверыцца. Яна выклікала сімпатыю ў людзей незалежна ад іх статусу, яе паважалі, з ёй лічыліся. І ў апошнія гады жыцця гэтая жанчына не страціла сваёй прыгажосці! Стройная, з прыемным меладычным голасам, яна падавалася элегантнай дамай нават у простых строях.

Кіра Вільконская памерла ў 1968 годзе, а праз 40 гадоў археолагі знайшлі ў Лодзі месца пахавання 40 прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі. Падчас эксгумацыі астанкаў знайшлі некалькі пярсцёнкаў. На адным з іх было выгравіравана імя «Кіра» і дата шлюбу. Гэта быў заручальны пярсцёнак Томаша Вільконскага. Пярсцёнак, праляжаўшы ў зямлі каля 70 гадоў, вярнуў з небыцця імя гаспадара і стаў доказам кахання, якое не здолела знішчыць нават смерць.



Партрэт Кіры Вільконскай (народжанай Святаполк-Мірскай).

**Вольга НАВІЦКАЯ**

*За падзеяй*

# Паслухаем... кераміку

Мастацкая выстаўка па выніках міжнароднага пленэру па кераміцы «Арт-Жыжаль» ладзілася ў сталічным Палацы мастацтва. Чарговы XI міжнародны пленэр адбыўся сёлета на базе адпачынку «Вербкі», размешчанай на беразе ракі Бярэзіна. У ім бралі ўдзел 25 прафесійных беларускіх і замежных мастакоў-керамістаў.

Майстры працавалі па раней зададзенай тэме «Скульптура ў прасторы інтэр'ера». Заснавальнікамі пленэру, які праходзіў пад дэвізам «Досвед майстэрства: традыцыі і сучаснасць», выступілі ўпраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкама і Бабруйскі гарвыканкам, арганізатарамі — аддзел культуры Бабруйскага гарвыканкама, Бабруйскі мастацкі музей і Бабруйская гарадская арганізацыя Беларускага саюза мастакоў.

— Кожны раз выстаўка па выніках пленэру — новая, незвычайная, прыгожая і святочная, і толькі дзівуешся, як усё гэта можа «выцягваць» на сабе практычна адзін чалавек — ініцыятар творчай акцыі, выбітны беларускі кераміст Валерый Калтыгін, — зазначыў першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца. — Я неаднаразова выказваў сваё захапленне і шчырае здзіўленне гэтым апантаным чалавекам. І буду прамаўляць гэта столькі часу, колькі ён будзе радаваць нас такімі цудоўнымі творамі. Валерый Калтыгін са сваёй грамадою, а яна з кожным годам большае, узяў за аснову пракаветныя народныя традыцыі керамічнага рамяства і ўзняў старажытнае майстэрства да вышынь сучаснага дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

Згодна з канцэпцыяй, кожны мастак прапанаваў адзін аўтарскі твор. Работы былі ўсталяваны ў прызначаным для іх інтэр'еры ў якасці падарунка гораду. Акрамя гэтага, удзельнікі пакінулі па адным аўтарскім творы ў якасці падарунка Бабруйскаму мастацкаму музею. Падчас пленэру керамісты мелі магчымасць папоўніць свой творчы актыў яшчэ і некалькімі эксперыментальнымі работамі.



Фота Кастуся Дробава

Максім Калтыгін (г. Мінск) «Сланечнік». Шамот, паліва, солі, дымленне.

Паслухаць, як гучыць сапраўдная кераміка, заклікаў прысутных падчас адкрыцця экспазіцыі старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч.



Фота Кастуся Дробава

Кацярына Рэпнікава (г. Уфа, Башкартастан) «Дрэўца». Шамот, паліва, аввара, дымленне.

«Дзякуючы Валерыю Калтыгіну я зразумеў, што трэба не толькі любавацца керамікай, але і слухаць яе, — падкрэсліў выступоўца. — Трэба бачыць, як Валерый Аркадзьевіч робіць абпалы. Гэта штосьці неверагоднае!»

**Раіса МАРЧУК**

# Творца — заўсёды

У Карэлічах жыве найцікавейшая асоба — Іван Вярбіцкі. Нягледзячы на 83-гадовы ўзрост, ён поўны сіл, натхнення і творчых планаў. Піша вершы, апавяданні, нарысы пра людзей і родны край. Цяпер Іван Іванавіч плануе падрыхтаваць серыю гісторыка-краязнаўчых кніг пра свой раён.

Нарадзіўся гэты няўрымслівы чалавек у вёсцы Куравічы на Навагрудчыне. Пасвіў кароў і заўсёды насіў з сабою кнігу. Знаёміўся з беларускай літаратурай, рускай класікай. Хутка і сам пачаў пісаць вершы. Калі быў студэнтам Навагрудскага педвучылішча, мясцовая раёнка апублікавала першы яго паэтычны твор. Потым служыў у арміі, заканчваў вучылішча, працаваў у школе, атрымаў дыплом гісторыка ў Белдзяржуніверсітэце. Якія б пасады ні займаў, ніколі не забываў пра творчасць.

Адна за другой выходзілі яго кнігі пра прадпрыемствы «Карэлічы-Лён», сельгасгаспадаркі «Маяк-Заполле» і «Лукі-Агра», Карэліцкі племзавод, а яшчэ — цікавае даследаванне для школьнікаў «Край Карэліцкі мой», брашура па гісторыі мясцовай медыцыны. Цяпер аўтар працуе над кнігай «Ад мінуўшчыны — дарогай…», якая прысвечана Карэлічам. Кнігі выдаюцца толькі на роднай мове. Пастаянна з'яўляюцца ў друку вершы Івана Вярбіцкага. Менавіта яго творы перамаглі ў конкурсах гімнаў для Карэліч і аграгарадка Цырын.

Спрабуе сябе і ў прозе. Апублікаваў некалькі апавяданняў. Цяпер піша аповесць «Алеськава сядзіба». Дарэчы, на рахунку аўтара — каля дваццаці баек, некаторыя ўжо надрукаваны.

Іван Іванавіч мае бібліятэку, якая налічвае некалькі тысяч кніг. Ёсць тут і старыя выданні. Напрыклад, байкі І. Крылова і вершы М. Лермантава, выдадзеныя ў 1948 годзе. Гаспадар вельмі даражыць выданнем «Воспоминание Брусилова», якое пабачыла свет у 1939 годзе. У асабістым зборы шмат пасляваенных кніг беларускіх аўтараў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Танец фарфоравай балерыны

Знакамітая іспанская кампанія *Lladró* прадстаўляе беларускаму гледачу выстаўку «Фарфор на пуантах. Мастацтва *Lladró* ў лепшых тэатрах свету». Экспазіцыя размешчана ў фае Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі да 6 студзеня. Раней выстаўка мастацкага фарфору з Валенсіі ўжо прайшла ў Вялікім тэатры ў Маскве і ў Міхайлаўскім тэатры ў Санкт-Пецярбургу. Арганізатарам мерапрыемства ў беларускай сталіцы выступіла Група СКВІРЭЛ.

**Таццяна ШЫМУК**

Гісторыя *Lladró* налічвае 60 гадоў. Статуэткі ствараюцца майстрамі ўручную і па складанасці і ўвазе да драбнюткіх дэталяў цалкам супастаўныя з творамі скульптараў. Фарфор *Lladró* выстаўлены ў якасці пастаянных экспанатаў у Эрмітажы, Каралеўскім музеі мастацтва і гісторыі ў Бруселі, у Нацыянальным музеі керамікі ў Валенсіі і многіх іншых. Да працы над калекцыямі прыцягваюцца мастакі, дызайнеры і скульптары з сусветнымі імёнамі, такія, як Хайме Аён і Бода Сперлайн. Многія фігуры выкананы абмежаванымі тыражамі і існуюць у свеце толькі ў некалькіх экзэмплярах.

— Мінск — трэці па ліку горад, куды мы прывезлі нашу калекцыю, — падкрэсліла Анхелес Льядро, віцэ-прэзідэнт кампаніі *Lladró*. — Па-першае, тут працуе балетная трупа Вялікага тэатра Беларусі, вядомая сваімі пастаноўкамі ва ўсім свеце. Мы спадзяёмся, што спрактыкаваны беларускі глядач змогуць таксама па вартасці ацаніць і прыгажосць «Фарфору на пуантах». Па-другое, дзякуючы намаганням нашага партнёра Групы СКВІРЭЛ з мастацтвам валенсійскіх майстроў ужо пазнаёмілася багата беларусаў. Разлічваем, што выстаўка пашырыць кола прыхільнікаў нашай маркі.

Выстаўку складаюць 20 работ з лімітаванай серыі на тэму балета. Большасць з іх — здабытак Музея *Lladró*. Эмблемай экспазіцыі, адной з яе жамчужын стала ўнікальная статуэтка «Сутнасць танца», створаная спецыяльна для выстаўкі «Фарфор на пуантах». Асаблівай увагі вартыя таксама легендарныя «Сіні Бог» і «Жар-птушка», прысвечаныя «Рускім сезонам» Дзягілева ў Парыжы: статуэткі створаны скульптарам Вісэнтэ Марцінесам па матывах касцюмаў Леона Бакста.



«Сутнасць танца».



«Урок балета».



«Жар-птушка».

— Прадстаўленая калекцыя адносіцца да высокага фарфору, які асабліва цікавіць вытанчаных знаўцаў: даследчыкаў мастацтва, музейных работнікаў, калекцыянераў. Кошт адной работы можа дасягаць дзясяткаў тысяч еўра, — адзначыў старшыня праўлення групы СКВІРЭЛ Дзмітрый Лазар, — і ў той жа час наш досвед паказвае, што мастацтва іспанскага фарфору на рэдкасць гарманічнае і даступнае шырокай публіцы. Упэўнены, што выстаўка стане сапраўднай падзеяй у культурным жыцці Мінска. Убачыць экспанаты «Фарфору на пуантах» змогуць усе наведвальнікі прадстаўленняў Вялікага тэатра Беларусі.

Пра кошт гэтых скульптур казаць не прынята — асабістая калекцыя з гістарычнага музея Іспаніі не прадаецца. А вось шэсць з прадстаўленых ручных работ абмежаванай серыі могуць папоўніць асабістыя зборы калекцыянераў падчас турнэ па свеце.

# Геаметрыя калажаў

У мастацкай галерэі «Беларт» адкрылася персанальная выстаўка калажаў Аляксандра Канавалава «Пункт гледжання». З сучаснымі абстракцыямі мастака гледачы змогуць пазнаёміцца да 26 лістапада.

**Паліна ПЛАТАВА**

Фольга, кавалачкі паперы, фанцікі ад цукерак, абарваныя, змятыя старонкі кніг. Зацікавіліся? Далей! Крамныя цэннікі, пакецік фірмовага брэнду, праўда, трошкі пакамечаны і не цэлы… Грошы! Не, гэта не творчы беспарадак на стале нейкай дзяўчыны. Гэта калажы Аляксандра Канавалава. Мастак са звычайных рэчаў стварае незвычайныя працы. «Аляксандр можа з нічога стварыць паўнавартасны, якасны твор», — адзначае мастацтвазнаўца Мікалай Паграноўскі. Сам творца прызнаецца: «Вакол мяне шмат усялякага смецця. Але я нешта выхопліваю з яго і наляпляю на палатно. Так з'яўляецца мноства пластоў, візуальная тактыльнасць, нараджаюцца цікавыя эфекты».



«Black lebel», 2012 г.

Угледзішся — сапраўды, эфектна! Часам інтрыгуе іранічная мова мастака. Так, яго «Black lebel» (2012) — смех над нашым чорным светам спажывання, дзе ідаламі становяцца фірмовыя брэнды. А вось іграе ўжо колер. «Атэль "Tillal"» (2013) — золата з украпінамі чорнага. Адразу ўяўляеш гламурных багацеяў, што здымаюць там нумары. Заварожвае. Другі раз цікавіць рытм калажу. Самыя звычайныя кружочкі, якія размяшчаюцца ў пэўнай строгай паслядоўнасці (калажы «Сад» 2012), «Начны дождж» (2010), маніпулююць тваёй свядомасцю: у геаметрычных фігурах ты пачынаеш бачыць сімвалы. Эфект дапаўняецца сэнсам. Індывідуальным сэнсам, дарэчы. «Мае працы можна прачытаць неадназначна, — паведамляе Аляксандр Канавалаў, — У кожнай — два-тры сюжэты. А мабыць, і няма сюжэта? Проста ўзнікаюць нейкія намёкі, бо часам чалавек не можа нешта растлумачыць. Але ён бачыць — і адгалоскі ўбачанага ўзнікаюць у яго свядомасці і душы».

Беларускі рэжысёр, аніматар Міхаіл Тумеля трапіў на выстаўку выпадкова (сустрэў Мікалая Паграноўскага), але ж гэтай выпадковасці быў вельмі ўдзячны: «Бачанне свету, што глядзіць з гэтых прац, цікавае і незвычайнае. Яно цалкам уцягвае ў сябе».



«Атэль "Tillal"», 2013 г.

Цікава, што сам мастак пры такім прызнанні сваёй прафесійнай вартасці застаецца вельмі сціплым: «Да гэтага часу сумняваюся: «здабыў» я пункт гледжання ці не. Гэты пункт настолькі зменлівы. Можа, заўтра мая творчасць будзе новай. Адно ведаю дакладна: я хачу заставацца ў мастацтве самім сабою».

Калі ж пакінуць убаку прыродную сціпласць мастака, то застанецца факт. Яскравы, пераканальны. Аляксандр Канавалаў, які жыве і працуе ў Полацку, стварае неверагодна сучасныя і моцныя працы. Іх сустрэнеш не толькі ў Беларусі, але і за мяжой: Расія, Германія, Бельгія, Аўстрыя, Польшча, Літва, ААЭ, Чэхія, Люксембург… Без каментарыяў. Не, толькі адзін — ад Мікалая Паграноўскага: «Для мастацтва паняцця перыферыі не існуе». Эмацыянальныя, яскравыя калажы палачаніна — таму прыклад.

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2599.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 14.11.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4726.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
13045